Мацей
Юзаф
Кановіч

# Імёны любові

Аповесць
і апавяданні

Пераклад
з польскай
мовы
Янкі Брыля

И (Польск)
К 19

Пераклад зроблены з выданняў:
M. J. Kononowicz, «Kilka imion miłości», аповесць, Лодзь, 1973; «Szyfr o ojczyznie», апавяданні, Варшава, 1971.

К $\frac{70304\text{-}040}{M302(05)\text{-}76}$ 136-76



# 1

Я — твой цень, прыпісаны да тваіх ступняў. Я то за табой, то перад табой, то справа, то злева, то пад табою. Але бываю і ў табе, у тваім сэрцы, у тваіх думках, у тваіх нервах. Не адрэжаш мяне, не адсячэш. Мы асуджаны быць неразлучнымі, як сіямскія браты, як скутыя ланцугамі катаржнікі на галерах. Запісваю на стужцы памяці кожны твой крок, адзначаю кожны ўздрыг твайго сэрца, кожны пробліск тваёй думкі, кожны дзень і кожную гадзіну. Разам з табой расту і разам меншаю. І ніколі не абцяжарваю цябе, бо я зусім бязважкі. Ніколі не заглушаю цябе, бо я бязгучны, нібы начны матылёк.

Табе цяпер шаснаццаць год. Я маладзейшы за цябе, бо нарадзіў мяне той момант, калі свядомасць адкрыла перад табою бачанне свету. А гэты твой свет, яго далягляд пашыраўся з кожным годам. Калісьці ён быў кароткі, на адлегласць вуснаў,— быў добрым, разумным тварам маці і тварам бацькі, якія засланялі сабой усё далейшае. Пасля ты пашырыў свой далягляд тварамі сястры і брата, тварамі аднагодкаў у двары.

Пасля ты рос вертыкальна: адкрыў неба, яшчэ не ў полымі, украінскае яркае сонца, якое, заходзячы, фантастычна залаціла воблакі. Ты прабіваў таксама зямлю, аж да самага пекла, па меры таго як пашыраўся вакол цябе круг людзей, а ты адкрываў іх унутраны змест. Бо ты ж тады быў яшчэ шчаслівы і даверлівы. І як жа доўга, неверагодна доўга я, твой цень, не лажыўся паласой на тваім сэрцы. Цяпер табе шаснаццаць год. Ты найразумнейшы сярод усіх на свеце людзей. Ні асляпляльнай сівізною валасоў, ні таўшчынёю чэрапа ніхто не здолее схаваць перад табою сваіх думак і пачуццяў. Раней чым хто-небудзь адкрые рот, ты ўжо загадзя ведаеш, што ён скажа. Раней чым хто-небудзь сустрэнецца вачыма з тваім позіркам, у цябе ўжо ёсць напагатове беспамылковы адказ, маланкава хуткі і трапны. Ніхто цябе не дагоніць, ніхто вышэй і далей за цябе не скочыць, ніхто цябе не раскусіць, не расшыфруе, не разгадае тваіх думак, намераў і адчуванняў. Ты ўсёведны, неразгаданы, усемагутны. Нават няўдачы і паражэнні не спасцігаюць цябе неспадзявана. Ты іх свядомы стваральнік, на патрэбу самапаніжэння, на патрэбу кантраснасці, каб падкрэсліць чарнатою святло, якое ў табе і навокал цябе.

Табе шаснаццаць год. Ты вялізны — ты такім чынам мерыш людзей сваёй узнятай га-

лавою, што кожны, няхай сабе і намнога вышэйшы за цябе, ледзь-ледзь дастае табе да грудзей. Кожны далягляд сцелецца каля тваіх ног нізка-нізенька. Ты мог бы працягнуць рукі і ўхапіцца за яго, як за борт лодкі. Высокія камяніцы настолькі нізкія, што ты свабодна заглядваеш у вокны пятага паверха. Платы з іржавым дротам над шчыкетамі ты свабодна пераступаеш на хаду, як Гулівер...

Схоплены вокам вобраз або ўлоўлены ноздрамі пах ты запісваеш у памяці незмывальнай тушшу. Як паганскі бог Светавід, ты глядзіш адразу на ўсе чатыры бакі свету, успрымаеш усе барвы і ўсю дынаміку рухаў.

Твой горад — Лодзь.

Вуліца Наўрат... Наўрат... Што ж магло па ёй «наўрацаць» — вяртацца? Людзі, вазы, коні?.. Нізкае сонца сячэ промнямі няроўны брук. Над брукам уздымаецца сухі пылок конскага гною, дрыготкі ў сонечных промнях. Дворнікі ў драўляных выступках ці басанож, у брызентавых фартухах, мерна ківаючыся, рассяваюць з конавак на брук сярэбраную макарону вады, якая распырскваецца вясёлкай.

Конь са стомленым чалавечым аблiччам, з палатнянымі шлеямі на плячах цягне ручны вазок з жалезнымі абадамі колаў. Спыняецца. З-пад чорнай ярмолкі звісаюць пасмы спацелых валасоў. Пад крыссем халата, унізе, відаць два скураныя капыты, забруджаныя пылам і гразёю. Чалавечы конь хапае вуснамі паветра, заплюшчвае вочы і крычыць страшным голасам, голасам з Галгофы:

— Гандль! Гандль! Талерачкі за ануч-ч-ч!.. Анучы!.. Анучы!.. Анучы купляю, бутэлько, старыя галёшы, парасоны, боты! Анучы!.. Анучы!..

Уздымае цяжкія вейкі, калечыць свой позірк на бляшаных нішах акон, на прэнтах бал-

конаў, а потым топіць яго ў чалесніках пад'ездаў.

— Гандль! Гандль! Талерачкі за ануч!.. Анучы! Анучы!

Папраўляе шлеі на плячах, схіляецца наперад, жылы на шыі напружваюцца,— цягне свой воз да наступнага прыпынку, а клекатанне жалезных абадоў і пырскі вады з дворніцкіх конавак падганяюць яго. Зноў спыняецца, набірае духу, крычыць. Але голас яго раструшчваюць жалезныя колы вялізнага воза і паляскванне конскіх падкоў. Агромністыя цюкі бавоўны, увязаныя стальною стужкай, калышацца на вышыні другога паверха. А потым едуць вазы з вуголлем, цярушачы пыл на сонечны брук.

Ты цяпер пераскочыў драўляны парог брамы і ўжо апынуўся на вуліцы. Паварочваеш управа... Але — стоп! Давай затрымаем іменна гэты кадр. Давай разгледзім яго ўважліва. Тады, у адну секунду, ты схапіў адначасна шматпланавую кампазіцыю з яе рухам, рытмам, мелодыяй і фарбамі. Кібернетычнае светаўспрыманне было ўласціва толькі табе.

— Цалавек! Цалавек! Ён прыносіць малако цу шпэйт![1] Яно мне цяпер не патрэбна!

— Не дык не! Не рабіце ласкі! У Ваўжынячыхі возьмуць ды яшчэ падзякуюць.

— Ну, ну, шнэль! Давай ужо гэтае малако! Кукамаль[2], які ён важны! Але морген ты мусіш, цалавек, прынесці раней. Фарштэйст?

Ты нават не зірнуў улева. Бо ведаеш даўно і так, што гэта фраў Брэндаль у белым халаце, высушаная і пабляклая, нібы кветачка з томіка Гётэ, стаіць у дзвярах свайго прадуктовага магазіна і, як штодня ў гэтую пару, сва-

---

[1] Запозна *(нямецк.)*.

[2] Глядзі ты *(нямецк.)*.

рыцца з чалавекам, які прыносіць у бітонах малако. Ты добра ведаеш, што праз момант, ужо ў магазіне, будзе бурны дыялог на тэму далівання ў малако вады...

Ваўжынячыха... У яе такая самая прадуктовая крамка на вуліцы Кілінскага, каля парку імя Сянкевіча. Найлепшая на ўвесь раён кіслая капуста і квас — як віно. Табе адразу бачыцца высокая, шчуплая, трошкі сутулаватая, бледная дачка Ваўжынячыхі, Анеля, сяброўка тваёй сястры па гімназіі.

Пачуўся салодкі пах здобы з хлебнага магазіна Мейснера, на рагу вуліц Кілінскага і Наўрат,— пах, які заўсёды, калі ты подбегам ідзеш у крамку Ваўжынякаў, загадвае табе запаволіць крок.

Ты не глядзіш наперад, бо якраз патрэскваюць бляшаныя жалюзі, дакладваючы табе, што адчыняецца вітрына аптэчнага склада Фрыдмана. Ты ведаеш, што дзверы гэтай аптэкі будуць замкнёныя яшчэ некалькі гадзін. Фрыдманаў сын... Высокі, чарнявы, з павольнымі рухамі і заспанымі вачыма. А на спартыўнай пляцоўцы ён робіцца маланкава хуткім нападаючым. Ты ведаеш яго хаду і злёгку крываланыя ступні. Ведаеш з таго моманту, калі ты, з адлегласці двух метраў, схапіў на кінастужку сваёй памяці яго беспамылковы, найвыдатнейшы ўдар па варотах... Ты ведаеш, што будзе пасля. Малады Фрыдман вернецца з гімназіі, з вуліцы Дзельнай, і ў нудоце ды пазяханні адседзіць свае дзве гадзіны ў бацькавай краме.

Ты не скіроўваеш свой позірк угару, дзе ў адчыненым акне на другім паверсе, над аптэчным складам Фрыдмана, глядзіць на свет, успёршыся локцямі на падаконне, так званы «шомсяд» — «шусед», стары халасцяк, што жыве на ўласныя зберажэнні. Худы, як жэрд-

ка, высокі — метры на два. Пануры, сумны мізантроп, ён цэлымі гадзінамі глядзіць у акно, не зводзячы вачэй са свайго любімага сабакі, што бегае па вуліцы. Глядзіць «шусед» і высвіствае розныя мелодыі мастацкім, каларатурным свістам. Ты памятаеш, як летась ён стаў героем вуліцы, калі з пісталетам у руцэ, страляючы на страх і крычучы нялюдскім голасам,— упершыню тады людзі пачулі ягоны голас — «шусед» вырываў з гіцлевых рук свайго сабаку...

У браме пад нумарам 38 ужо стаіць рабы «вампір», помесь драпежнага воўка з шакалам, другі герой вуліцы, авеяны легендай і апеты ў вулічнай канцоне. Хадзіла думка, зрэшты — не праверадая, што гэта ён быў забойцам качальніцы бялізны з дома нумар 34. «Вампір» стаіць, штохвілінна пстрыкае слінай, а на гліністай, рабой мордзе паблісквають блакітныя вочы. Будзе стаяць так аж да вечара, чакаючы, спадзеючыся, што дзень прынясе яму нейкую новую агрэсію ці правакацыю. Гэта было мэтай і гонарам яго жыцця — неадкладна разлічыцца з кожным, хто асмеліцца яго не заўважыць, хто не аддасць пашаны яго чалавечай годнасці, хто зірне на яго з агідай ці пагардай. Ён ведаў, што ў гэтым месцы большасць прахожых прадбачліва абмінае яго, пераходзячы на другі бок вуліцы.

Цяпер ідзі далей, мой шаснаццацігадовы. Ты грукаеш моцнымі чаравікамі па бетоне, па бруку, па плітах панеляў. Ступаеш шырока, становячыся на стыку дзвюх плітаў. Ведаеш кожную з іх, як сваю ўласную далонь. Дзе лопнула, дзе рыса праходзіць, дзе пліты ляжаць няроўна, дзе ў іх уціснуты каменьчыкі ці дзындра, дзе засталіся плямы ад мазуту і фарбаў. Ведаеш час іх зацвітання — тых край-

ніх ад вадасцёку, калі іх пабеляць для дэзінфекцыі вапнай.

Падкаваныя «бацеўскія» чаравікі... Гэта твой каляндар і гадзіннік,— час ты мераеш на метры. Пад чаравікамі цыкаюць секунды плітаў і звоняць у тваіх вушах. Але гэты твой гадзіннік заўсёды спяшаецца, навыперадкі з рытмам сэрца, з рытмам дыхання, навыперадкі з тваім зрокам.

Цяпер ты бачыш, як твая галава на хаду адлюстроўваецца ў аконных шыбах першага паверха, зрокам ты паводзіш угару з надзеяй заўважыць у акне мансарды ўсмешку на твары маці, убачыць, як адтуль падае ў твае рукі знарок пакінуты, загорнуты ў паперу снядалак, убачыць, як дрыжыць ад радасці сустрэчы чорны цюцька Моцюм.

І зноў — стоп! Не бойся, гэты час будзе апраўданы. Зрэшты, тады ўсё для цябе існавала толькі ў часе цяперашнім. Вось вырастае з каменя, нібы з'яўляючыся на свет упершыню, чалавечая постаць з дзіцёнкам на руках. Гэта пабляклы крамнік Лазурскі стаіць у палавіне сходкаў, што ідуць у сутарэнне, дзе яго марная прадуктовая крамка.

— Добры дзень, малады чалавек! Скажыце маме, што ў мяне ёсць цудоўныя дровы ў пучках і свежыя яблычкі...

Праходзячы каля гэтага сырога сутарэння, ты стрымліваеш дыханне. Адтуль патыхае пялёнкамі і гнілою бульбай. Вочы беднага яўрэя — на ўзроўні тваіх каленяў — глядзяць на цябе з просьбай і надзеяй. Бледная, нясмелая ўсмешка... Як жа яму пражыць побач з фрау Брэндаль у белым халаце? Усё павінен аддаваць на некалькі грошаў танней...

Гэтая постаць з дзіцёнкам напамінае табе іншага небараку, якога ведае ўвесь цэнтр горада. Каля ганка галоўнага паштамта ўзвы-

шаецца магутны таўсцюх з налітым, абцяжараным падбароддзямі тварам, з якога ніколі не сыходзіць усмешка самаздаволенасці. Здаецца, што гэты чалавек, увесь у чорным, вось-вось лопне ад дабрабыту і атлусцення... Гэты паралізаваны нямко, калі які-небудзь вулічны хлапчук беспакарана выграбае з яго капелюша нажабраваную дробязь, толькі жаласліва паскавытае ціхім прыплачам, а прыязная, радасная ўсмешка — паралітычная, міжвольная грымаса — не сыходзіць з яго апухлага твару...

Ідзі далей. На другі бок вялікага пад'езда, у іншым сутарэнні, адразу ж над закратаваным акенцам — таблічка з надпісам «Качаем бялізну». Ад глухога падземнага пагруквання дрыжаць, як мембрана, малыя акенцы і пліты тратуара. У аконным праёме каля сцяны валяюцца пажоўклыя ад дажджу і сонца акуркі. Аднак у гэтым сутарэнні ўсё выглядае інакш. Тут светла ад электралямпачкі, цёпла, чыста і ўтульна. Пахне сыраватай бялізнай і жаночым потам. На гладкім, як коўзанка, драўляным стале слізкія валкі абрастаюць, нібы лавіна, духмянай бялізнай. Цяжкі, масіўны станок, як маятнік гадзінніка, што вымярае стагоддзі, расціскае, звівае і развівае, круціць валкі.

Ці памятаеш леташнюю гутарку з жанчынай, якая гэтым распараджаецца?..

— Ну і што?

— Ці магу я прыходзіць сюды да вас на гадзінку, каб пакруціць гэты станок?

— Мне памагатыя не патрэбны, няма чым плаціць.

— Дык я бясплатна...

— Сваю бялізну?

— Не. Чужую. Тую, якую вы тут качаеце.

— Не, даражэнькі. Вы ведаеце, што маю маму тут забілі?

— Дык я ж нікога не заб'ю.

— А навошта ж тады такія камбінацыі?

— Для спорту. Хачу сабе мускулы добрыя набыць.

— Відаць, футбаліст? У нас на двары толькі і ведаюць, што ў гэты футбол барабаніць.

— Я вас, пані, вельмі прашу...

— Перш за ўсё дык я з вашай мамай пагавару. А тады паглядзім.

Ты хадзіў туды вечарамі цэлы год. Вяртаўся мокры ад поту і шчаслівы. Салодкі боль мускулаў закалыхваў цябе — ах, як спалася! Гутаркі жанчын, якія качалі бялізну, пашыралі твае веды пра людзей і жыццё. Дурную балбатню ты заядла накручваў на трубы станка, ажно спіцы вялікага кола рабіліся ад хуткасці празрыстымі. Пасля ты запавальняў абароты і прыслухоўваўся да галасоў жанчын, калі ў іх чуўся прыплач над чалавечаю доляй.

— Казьмерчык дачку адлупцаваў, мае дарагія, ажно яна анучаю на зямлі ляжала. І па мордзе, і па галаве, і касмылёў навырываў, і нагамі накешкаў. Кажуць, што прагнаў яе з дому на вуліцу.

— А што ж яна, Казьмерчыха,— языка ў яе ў роце няма? Каб мой мне так дзіця катаваў, дык я б яму лабэціну гаршком раскалола. А чаго ж гэта ён на яе?

— Як гэта чаго? Было чаго. Дзеўка графіняй вялікай зрабілася, у гімназію ёй, бачыце, захацелася. А Казьмерчыха дзень у дзень над балеяй стой, над пенаю гэтай, перабірай чужыя задрыпаныя споднікі. Пакуль сам у Эйцінгана працаваў, то неяк яшчэ жылося. А потым — што ж, мужчына,— раз, другі напіўся, не пайшоў на работу, дык з фабрыкі і прагналі.

— А што ж, па-вашаму, пані Макраская, калі чалавек працуе так цяжка, то няможна яму і выпіць раз-другі?

— Я ж вам пра гэта нічога не гавару. Але ж так роднае дзіця катаваць — гэта што?!

— Няхай бы лепш маці памагала, а не слядзілася над кнігай. Бацька з маткай літар не ведалі і жылі. А потым яно ж другое і з бацькоў родных смяецца, што яны ані бэ ані мэ.

— Калі дзеўка дні праз два не вернецца, дык і застанецца на вуліцы. Калі ўжо такая заесца, дык нічым яе потым не зменіш.

— Кажуць, што пайшла да хроснай на Відзаў.

— А Казьмерчык таксама заядлы, заганарыўся. «Не пайду,— кажа,— і ўсё тут. Я,— кажа,— прасіцца ў яе не буду. Калі сама,— кажа,— вернецца, у руку,— кажа,— пацалуе, то няхай дома жыве, матцы дапамагае, а не азадкам,— кажа,— у гімназіі круціць».

Ах, памятаеш, што гэта была за красуня? Яе зграбныя ножкі, яе хада — як галубіны палёт у блакіце. З якою каралеўскай нядбайнасцю несла яна ў руцэ свае кнігі і сшыткі. Фальбонкі сіняй спадніцы — ну проста карты веерам. Пад трыма зорачкамі на берэце, пад мілай пасмай валасоў — чорныя, палкія вочы і ўсмешка, трошкі ганарыстая і панадлівая. Дык гэта так? Дык гэта так? А ты заўсёды думаў, што гэта недаступная каралеўна, найшчаслівейшая пад сонцам істота, выпеставаная ў бліскучых салонах. Дык гэта так выглядала яе жыццё?

Перарэж гэтую нітку ўспамінаў. Ідзі далей. І зноў пятнаццаць плітаў за табою, і зноў — стоп!

Цяпер ты глядзіш на самога сябе з сотні розных люстраў. Бачыш свой твар, сваю галаву ў сотні розных паваротаў. Ці гэта ты, ці

гэта ты сапраўды? Вось твае вуха і абрыс сківіцы, вось твой нос у профіль і анфас, пасма валасоў з-пад шапкі, як той беларускі лён, і гэтыя вочы, твае — не твае. Сотня іх глядзіць у тваю душу. Яны непрыязныя, абыякавыя, крытычныя, а то нават і варожыя.

Вышэй, на чорным шкле, залатыя літары надпісу: «А. Вармінькі. Вытворчасць і склад люстраў». Унізе вітрыны калекцыя фотапартрэтаў на шкле: Гары Лідке, Грэта Гарба, Рамон Навара, Чарлі Чаплін, Поля Нэгры, Ядвіга Смасарская...

А за табой, на той бок вуліцы, загараецца малая лямпачка за апырсканай гразёю шыбай, і над столікам схіляецца лысы чэрап гадзіннікавага майстра Каплана. Як яму гэта ўдаецца — утрымаць у арбіце вока цяжкую чорную лупу, праз якую ён разглядае механізм разабранага гадзінніка?

Ідзеш далей? На вузкім плыце тратуара падплывае чысценькі, ганарлівы асабняк, відаць, нямецкі. На таямнічы двор можна прайсці цераз зялёную жалезную брамку, амаль заўсёды замкнёную. На левым баку вуліцы, трохі воддаль — загадкавая кірха баптыстаў з нямецкім надпісам над парталам. Памятаеш, як ты аднойчы, дрыжучы ад хвалявання і страху, прабраўся туды з дзецьмі дворніка Мазуркевіча, каб паглядзець, як будуць хрысціць гэтых сектантаў, што ўжо стаялі голыя ў басейне? Застаўся табе на ўспамін нейкі змрочны прыгнёт у сэрцы, і доўга вобраз гэты паўтараўся ў снах, як дакучлівая ікаўка...

Побач з баптысцкай кірхай — хлебны магазін фірмы «Валенты Капчыньскі». І тут, як каля Мейснера, паветра насычана салодкім пахам хлеба. Абапіраешся на металічную балюстраду, якая ахоўвае вітрыну магазіна. Насупраць, на тым баку вуліцы, нізенькі фран-

тон з боку двара, не нашмат большы за сабачую будку. За вітрынай — тоўстыя біблії ў чорным пераплёце з залатою акантоўкай, з надпісамі на нямецкай, англійскай і польскай мовах. І больш нічога — толькі чорныя біблії. Штосьці цябе заўсёды прыцягвала і адштурхоўвала ад гэтай вітрыны. Хто прадае, хто купляе гэтыя чорныя кнігі? Хто іх чытае? Стаяць адно перад адным, утаропіўшыся шыбамі вітрынаў, пякарня і склад бібліяў. А дзе ён — хлеб жыцця?..

Чаравікі грукаюць па тратуары ўсё хутчэй. Ад чагосьці ты ўцякаеш, але і да чагосьці спяшаешся. Спынішся толькі перад малым, драўляным, зялёным домікам, над акном якога надпіс: «Пераплётная майстэрня В. Сувалы». Гэта тут, з сенцаў направа, жыве твой сябар Вацак, з той самай школы, з той самай футбольнай каманды... З сенцаў направа — уваход у майстэрню і кватэру. Доўгі залацісты багет на рамы для карцін, стосы паперы, лісты карычневага кардону і фанеры, абапёртае аб сцяну шкло, краі якога нагадваюць колерам зялёную марскую глыбіню, прэс, абразальная машына, акварэлі, партрэты, фатаграфіі, дыпломы, што чакаюць на свае рамкі, і саладжавы пах растопленага сталярнага клею, пах, які напаўняе паветра.

Ды вось побач стаіць другі домік, падобны да гэтага, як блізнюк, а за ім адразу вялікі, забудаваны двор з завулкам, дзе па мініяцюрных рэйках ездзілі мініяцюрныя вагончыкі, падобныя да цацачных. Тут была фабрыка фарбаў і лакаў. Хто з навакольных дзяцей не ведаў вартаўніка гэтых уладанняў, а разам з тым і супрацоўніка гэтай фірмы — сівога, з вострымі вусікамі «Вілюся»? Падпяразаны скураным фартухом, ён сцягваў з воза вялікія кашы з пукатымі, шматлітровымі бутля-

мі «зайзаеру», салянай кіслаты. Над парай гэтай раз'ядаючай плыні мухі чарнелі і зівваліся ў смяротны клубок. Будучы дзецьмі, вы ездзілі на вагончыках і з разбітых бутляў дыхалі парай «зайзаеру», і тады вашы лёгкія рабіліся набалелаю пемзай.

Некалькі крокаў далей, у нізенькім, але каменным доміку, за шклом вітрыны відаць музычныя інструменты склада Лесінга: басы, тубы, трамбоны, валторны, горны, саксафоны, кларнеты, бубны, скрыпкі, мандаліны, гітары, губныя гармонікі, акарыны, муштукі, струны, каніфоль і металічныя складаныя стаякі для нотаў. Золата, серабро, эбенавае дрэва і бронза — як заварожаныя, чакаюць на чарадзея. І тут, як у Варміньскага, ты глядзіш на свае шматлікія адлюстраванні. Твар, нібы груша, вузенькі, востры чэрап і зубы ў крэтынскай усмешцы, падобныя да драбочкаў цукру, а ў іншым месцы — да металічных шчыкетак. «Гэта я? — думаеш ты.— А можа, якраз такім бачаць мяне іншыя людзі?..»

На супрацьлеглым баку вуліцы стаіць малая драўляная будыніна, з якой чуваць пах жывіцы і сырога дрэва: тут рознічны продаж паліва. Драўніна, папілаваная на кароткія дошчачкі, павязаная дротам, пастаўленая, як калодачкі, бялеецца ў цёмным нутры будыніны. Каля ўвахода стаіць чалавек са страшным тварам: аднавокі (другое вока нібы высмалена распаленым жалезам), лахматыя бровы, аброслы чорнай шчэццю твар, на шчацэ вялікая радзімка, а вопратка — як на разбойніку. Іменна так павінен выглядаць казачны душагуб ці карсар. Аднак жа ў гэтага страшнага дрывасека было галубінае сэрца. Ударам сякеры ён рассякаў любую калоду, але не здолеў бы нават мухі забіць. Вуліца называла яго «Чорны Алі-Баба»...

Яшчэ дваццаць, трыццаць крокаў — і папярэчная вуліца імя Сянкевіча. Справа стаіць нізкая камяніца з крамамі, злева — вялікі пяціпавярховы дом, па дыяганалі — нізкі домік на рагу, з вялікім магазінам гародніны і садавіны, які належыць пані Каўнацкай. Ты памятаеш, колькі мінула гадоў з таго часу, калі ты разам з яе дачкой Фэляй хадзіў у дзіцячы сад на Пятркоўскай вуліцы, 120? Вы тады вельмі любілі дробненькую, як фарфоравая лялька, вашу выхавацельніцу, пані Грушчыньскую.

Аднойчы ты праз акно вашага пакоя ўбачыў тое, што кожнае дзіця ў гэтым горадзе павінна было ўбачыць і па-свойму перажыць. На вуліцы лілася кроў. Паліцыя з узнятымі шаблямі, коні становяцца дубам. Натоўпы рабочых, раскалыханая чырвань сцягоў. Песні, стрэлы, крыкі, плач і енк. Звіняць і трушчацца ад камення вітрыны. Вуліцы наглуха забіты людзьмі. Доўга тады вас не пускалі з дзіцячага сада дахаты...

Ты перайшоў вуліцу Сянкевіча. Зноў справа чуваць моцны пах булак і хлеба з пякарні так званага Лёпка. Тут былі найлепшыя ва ўсім раёне халы. На другім баку, на першых паверхах высокіх дамоў, шыкоўныя магазіны з футрамі, жаночай вопраткай і тканінамі. Прыгожая шыльда над магазінам Прайфера таксама нагадвае маленства: чорненькая, далікатная Марыся Прайфер, з цяжкай касой на плячах, таксама твая сяброўка з дзіцячага сада...

Ты не затрымліваешся. Ідзеш далей. Спынішся толькі перад Пятркоўскай, каля вітрыны фотамагазіна. Апараты на штатывах, секундамеры, оптыка, чорныя ванначкі для праявіцеляў, чырвоныя і блакітныя электралямпачкі, фотапапера, касеты, клішэ, а далей — фотапартрэты і пейзажы: азёры, моры, акія-

ны, аснежаныя горы, архітэктура вялікіх гарадоў, караблі, пальмы, піраміды — далёкі, невядомы, вялікі свет...

І так канчаецца твая вуліца, вуліца Наўрат, што раздражняе пахам кавы і тортаў з кандытарскай Пянткоўскага на рагу.

## 2

---

Некалькі гадоў таму назад, калі вы яшчэ жылі ў дзядулі на вуліцы Славянскай, у двары, у цагляным флігелі з закратаванымі вокнамі, ад світання да позняга вечара рытмічна гулі ткацкія станкі. Калі яны часам змаўкалі на некалькі дзён, сэрца тваё сціскалася ад незразумелага неспакою. Можа, таму, што гэтая цішыня спалучалася для цябе з тымі жанчынамі, што стаялі перад брамай з глыбокім смуткам на шэрых, стомленых тварах. Тоўстыя клятчастыя хусткі накрывалі іхнія галовы і аплывалі чарнатой жалобы ажно да каленяў. Чыесьці маці стаялі нерухома, нібы баючыся, каб грукатам сваіх драўляных выступкаў не парушыць мёртвай цішыні, якая ішла туды з двара. Па жалезных пахілых падпорках брамы ацякалі памалу, як слёзы, кроплі дажджу. Жалеза і дождж спалучаліся тады ў нябачную ржу, востры, сыры пах якой казытаў ноздры.

Дзядуля, пенсіянер, высокі чыноўнік магістрата, у такія дні цішыні хадзіў нервова па пакоі, маўклівы, грозны, як Юпіцер, і толькі пагладжваў сваю «сібірскую» бараду.

— Што за жывёліна! — абураўся ён.— Што за нягоднік!

Добрая цётка Ядзя, калека, кроіла ў кухні лусты хлеба, мазала іх смальцам, а потым у кошычку несла гэта наніз, да брамы. А ты сядзеў тады ціха, схаваўшыся за этажэрку і, не

прыглядаючыся, гартаў вялікую кнігу з каляровымі малюнкамі — «Маё сонейка». Ты ўжо ведаў яе на памяць:

«Сядзіць сабе Стася ў мяккім крэсле, смачнае снеданне яна ўжо з'ела, з цацкамі пазабаўлялася, і так жа ёй сумна, так сумна...»

Ты баяўся цішыні, жанчын перад брамай, дзядулі. Баяўся пытацца пра што-небудзь, баяўся папрасіць другое снеданне ў добрай, мілай цёткі. Тады ты не быў яшчэ ўпэўнены, што ведаеш усё на свеце. Усё ведаў толькі дзядуля. Грозны, дэспатычны, аднак паважаны і любімы.

— Прачытай мне сённяшні «Розвуй»,— казаў ён.— Ад пачатку да канца.

Ты браў у рукі газету, гадавыя падшыўкі якой акуратна ляжалі на шафе. Ты пачынаў:

— «Міністр замежных спраў...»

— Я табе выразна сказаў, што чытаць ты павінен ад пачатку! — перапыняў дзядуля.

Нехаця, цяжка ўздымаў ты позірк вышэй і пачынаў:

— Лодзь, дванаццатага лістапада...

— Чытай тое, што вышэй,— грозна гаварыў дзядуля.

— Ну, тут напісана толькі вялікімі літарамі: «Розвуй».

— Прыгледзься добра!

— А! Яшчэ вышэй стаіць маленькімі літарамі: «Выданне А».

— Ну, дык цяпер чытай.

Якая страшэнная, незразумелая, нудная чытаніна! Ты спатыкаўся на словах: «эканоміка», «канструкцыя», «канферэнцыя», «дэпартамент», «Антанта», «бальшавікі», «праблемы», «апазіцыя», «тэрор», «эксплуатацыя»...

— Дзядуля, я прачытаў ужо ўсю першую старонку.

— Няпраўда. Паглядзі яшчэ добра з левага боку ўнізе.

— Ага! Тут во маленькімі літарамі: «Навіны дня».

— Дык чытай.

Гарачая кропля слязы ставіла кропку пасля першай старонкі.

— Чытай цяпер на другой старонцы.

Ты шархацеў дзяругай паперы, што пахла свежай друкарскай фарбай, і пачынаў:

— «Карчомны дэбош у сейме...»

— Я ўжо казаў табе, каб кожную старонку ты чытаў ад пачатку!

— Тут вышэй стаіць толькі: «Старонка другая» і «Нумар сто чатырнаццаты».

— А што там яшчэ ў дужках побач з гэтаю лічбай?

— У дужках: «Дзве тысячы сто семдзесят тры».

І зноў ты брыў па змрочных джунглях незразумелых слоў і спраў, пакуль не чуўся звон талерак, які часова вызваляў цябе ад гэтай пакуты.

Вяртаўся бацька са сваёй установы. Вярталася маці, якая «на грамадскіх пачатках» загадвала амерыканскай кухняй для дзяцей, з фонда Гуверавай дапамогі. Прыходзіў дзядзька Янэк, які жыў у той час паверхам ніжэй, і барадаты дзядзька Віцак. Ты адчуваў сябе аслоненым ад дзедавых загадаў прысутнасцю іншых дарослых. Мужчыны заседжваліся за сталом і, схіліўшыся над шклянкамі залатога чаю, вялі-цягнулі свае незразумелыя гутаркі на той самай газетнай мове, пра тыя самыя незразумелыя справы.

Цябе здзіўляла вымаўленне бацькі і дзядзькі, які часамі прыязджаў з Пятркова. Яны гаварылі: «канстытуцыя», «рэвалюцыя» — замест «канстытуц'я» і «рэвалюц'я», «трош-

ка» — замест «трошкэ», і было ў іх нейкае цвёрдае, гартаннае «г» у словах «гэрбата», «гармонія», «гонар».

Вымушанае чытанне газеты і абрыўкі гутаркі, што даходзілі да цябе, пакуль мужчыны пілі чай, асядалі ў тваёй памяці як лёгенькае насенне, якое калі-небудзь пачне прарастаць.

А цяпер? Што табе да гэтага? Што вам да гэтага — жанчыны ў клятчастых хустках, тыя жанчыны, што стаіце перад брамай?..

«Сядзіць сабе Стася ў мяккім крэсле, смачнае снеданне яна ўжо з'ела, ■ цацкамі пазабаўлялася, і так жа ёй сумна, так сумна...»

Бо табе ж не хацелася памяняць сваё жыццё на Стасіна.

Як гром, як маланка, разарвала тваё сэрца першая прачытаная кніжачка, надрукаваная на таннай газетнай паперы,— «Дзікі мустанг». Вось ён, мустанг, якога акружаюць каўбоі, спыніўся над безданню ў гарах. Нікуды ўжо не ўцячэш. І ён выбірае свабоду — скача ў бездань.

Гэта было тваё першае вялікае ўзрушэнне, гэта была найпрыгажэйшая ў тваім жыцці кніга, гэта была — да сённяшняга дня — адкрытая рана на тваім сэрцы, першая незабыўная сустрэча з інстынктам свабоды. Тваім першым героем з кнігі быў не чалавек, а конь, да самай смерці свабодны мустанг.

Некалькі начэй ты хаваў свой твар у мокрую ад слёз падушку.

Чаму ж гэтыя маці, што на вуліцы, не кінуліся з крыкам у чорныя чалеснікі брамы, не ўварваліся на глухі, маўклівы двор? Чаму тыя маці...

# 3

Сонечны дзень, як учора і пазаўчора. Лагодныя павевы ветру даносяць з парку гарачы, хмельны пах бэзу. Дзяўчынкі прыселі каля сваіх «крамак» і таргуюцца з нябачнымі пакупнікамі. У крамках вялікі выбар тавараў: чырвоныя крупы з цёртай цэглы, пудра з крэйды, жытні хлеб з гліны, наборы каменьчыкаў для гульні, туалетная папера для лялек, залатыя пярсцёнкі, плеценыя з саломы, каляровыя шкельцы для гульні ў «класы», смятана з вапны, цукар з пяску, паштовыя маркі са старых пісьмаў, чарніла з цыбулі — для патаемнай перапіскі, каштаны, сапраўдная соль...

У кустах ажно густа ад «індзейцаў» і «бледнатварых».

— Не лезь сюды! Асцярожна! Не бачыш, што раздушыў мне сядзібу шэрыфа? — крычыш ты на Здзіха, які ступіў на квадрат, накрэслены кійком на зямлі.

— А ты чаго тут чакаеш?

— Цішэй! Адыдзіся! Тэдзі зараз прышле сюды Моцюма з данясеннем. Каб толькі яго індзейцы не злавілі.

— Што там тое данясенне! Ідзі ў дзявочыя крамы — там штосьці ўбачыш,— кажа Здзіх.

— А што?

— Кажу табе: ідзі. Лізу ўбачыш. Яна там прысела ў сярэдняй крамцы. Прыйшла сёння без трусоў, і ўсё высока відно. Ну, хадзем!

— Пайшоў ты! Ідзі, калі хочаш! Я тут павінен чакаць.

— А хто ж ты цяпер?

— Олд Шатарганд.

— А ведаеш, Юрка казаў, што ён не хоча быць Партосам. Бо ўжо на яго пачалі — Безпартос!

— А навошта ў яго шпага? Калі не хоча, дык хай не будзе. Можа і не прыходзіць на наш двор. А ты ідзі сабе цяпер да свае Лізы, бо Тэдзі не можа выпусціць сабаку. Мне трэба рукамі запляскаць. Ну, ты яшчэ тут?

Ты запляскаў далоньмі. На гэты сігнал ад плота вырваўся чорны цюцька Моцюм і праз момант прызямліўся каля тваіх ног. У зубах ён трымаў скрутачак і матляшыў хвастом. Ты чытаеш тое, што Тэдзі даносіць табе патаемным шыфрам: галоўныя сілы індзейцаў у асобе Багдана і Паўліка сабраны за куратнікам, рэшткі племені ў асобе Геніка рыхтуюцца акружыць сядзібу шэрыфа з боку альтанкі.

Дворнік Мазурця стаіць, успёршыся на рыдлёўку, паказвае ва ўсмешцы свае жоўтыя зубы і па-змоўніцку паказвае табе вялікім пальцам на куст, які варушыцца.

— Я так гуляць не буду! — абураецца Генік, вылазячы з-пад куста.— Паўлік, пайшлі! Хадзем дахаты. Мазурця ім падказвае.

Дзяўчаты, зусім не разумеючы напружанай сітуацыі, крычаць пісклявымі галасамі.

— Генік! Паўлік! Ідзіце хутчэй купляць, бо мы зачыняем крамы! Здзіх выкупіў ужо ўсе каштаны — страляць!

Па тратуары ідзе Ірка. Вяртаецца з магазіна. Крок у яе рашучы, ступае моцна на пяты. Дзве коскі, як лісіныя хвосцікі, паблісківаюць на сонцы... Спынілася. Нейкі момант глядзіць, лёгка жмурачы вочы, і крычыць у бок двара:

— Хлопцы, урокі рабіць!

На спартыўнай пляцоўцы гандлёвай школы Піліхоўскага мяч бубніць у сцяну. Часамі ён пералятае цераз плот на наш двор. Тады Мазурця ловіць яго і хавае. Піліхоўшчыкі павінны тады добра ў яго папрасіцца.

Мільганулі дзве ластаўкі і схаваліся пад застрэшшам склада. Мазурціха таўчэ ў цабэрач-

ку гарачую бульбу — казе і курам. Ажно пара ідзе з той бульбы.

— А ты чаго там з рыдлёўкай тырчыш? — галёкае яна.

— Пан Ота паехаў. Можна дзецям накапаць пяску і гліны.

Цень высокіх дамоў даходзіць да палавіны двара...

Двор быў прасторны, ён распасціраўся ад першага дома на вуліцы Наўрат ажно да парку імя Сянкевіча. Двор быў невялікай, але самастойнай, незалежнай дзяржавай, граніцы якой з трох бакоў свету ахоўвала непрыступная кітайская сцяна дамоў, а з чацвёртага боку — высокі плот, за якім шумела зялёнае мора цэнтральнага парку. Вышэй за вокны мансардаў, вышэй за дахі ўздымаўся зялёны вулкан стогадовай ліпы. Пасярэдзіне двара — жалезны круг на метр дыяметрам. Праз гэты круг можна было спусціцца па драбіне ў глыбачэзны калодзеж, на самае дно пекла, дзе паблісквалі мазутам трубы калодзежнага механізма. Да жалезнага кола наверсе прымацавана штанга, другі канец якой ляжыць на шырокім слупочку. Час ад часу каля гэтага калодзежа збіралася дворнікава сям'я, некалькі жыхароў і дзетвара,— «круціць ваду» ў вялікі рэзервуар. Тут адбываліся мужчынскія гутаркі, абмен суседскай інфармацыяй, палітычныя дыскусіі і гаспадарчыя нарады. Жыхары сыходзіліся не па выкліку, не па абавязку, а па сваёй ахвоце. Круцілі тую штангу датуль, пакуль ажно з трубы пад дахам вада не пачынала ліцца на тратуар.

Направа ад калодзежа бялелі кветкамі кусты язміну, якія асланялі павець, дзе мелі начную рэзідэнцыю каза з пацешнымі казлянята-

мі і штук з дваццаць дворнічышыных курэй. Трохі воддаль стаяла прыбіральня, узлезшы на дах якой, можна было назіраць тую заасфальтаваную спартыўную пляцовачку гандлёвай школы Піліхоўскага. На працягу амаль усяго года школьны аркестр гандляроў да нудоты ўпарта развучваў адзін ды той самы марш.

Тут канчаўся брук і асфальт, а пачынаўся сапраўдны двор,— голая, з пахам вільгаці, утаптаная зямля, у нетрах якой быў залацісты пясок і тлустая, карычневая гліна. Тут раслі два магутныя каштаны, вясной пакрытыя беленькімі свечкамі кветак, а восенню мноствам калючых, ясна-зялёных пладоў, якія, упаўшы на зямлю, расколваліся, паказваючы бліскучыя карычневыя цацкі. Далей цягнуліся кусты бэзу і язміну, кусцікі парэчак і агрэсту, пладовыя дрэвы, бялелася ажурная альтанка і бетонны басейн нядзеючага фантана.

Дзіцячае насельніцтва гэтага княства складалася з цябе, тваёй старэйшай сястры Іркі і малодшага брата Марэка, Галінкі і Ады Кажухоўскіх, дворнікавых дзяцей Фэлека і Янэка, вашых сяброў-равеснікаў з бліжэйшых і трохі далейшых дамоў і вуліц. Адны з іх бывалі тут часцей, другія не так часта, і ўсіх пералічыць бадай-што немагчыма.

Паўнакроўнае жыццё гэтага княства пачыналася яшчэ перад вялікаднем, калі раставаў снег і з'яўляліся першыя пупіхі на кустах і дрэвах, калі ажывала птушыная гамана. Колькі было вясёлага! Варажба на лістках акацыі, гульня ў «класы» каляровымі шкельцамі на лапіку асфальту, конкурсы і перамогі на той калодзежнай штанзе, малпіна лазанне па голлі каштанаў і ліпы, будаўніцтва каналаў і рачных плацін пасля цёплых вясновых навальніц...

Потым прыходзіў дзень першага красавіка — перапляценні вясёлых інтрыг, ашуквання, маны. Пасля — перыяд піратэхнікі, чакання ўсяночнай — нарыхтоўка ўсяго, што магло ўзрывацца, сяк-так выбухаць. Гэтыя выбухі і стрэлы чуліся з двара ў двор, з вуліцы на вуліцу. Перад самым вялікаднем пад ліпу выносілі сталы, на якіх усімі колерамі вясёлкі пераліваліся фарбаваныя яйкі, бабкі, вяндліна — усё, што трэба было свянціць. Вы, малыя, стаялі каля брамы на варце, прыглядаючыся, каб убачыць ксяндза ў белай комжы. Раз-пораз на двор прыбягаў сувязны з данясеннем:

— Ксёндз ужо выйшаў з двара дваццаць трэцяга!

— Ксёндз ужо на трыццатым!

— Ксёндз ужо на суседнім двары!

Па-святочнаму апранутыя суседкі таўкліся каля сталоў, ахоўваючы «божы дар» ад вераб'іных ды курыных налётаў. Фэлік і Збышак стаялі за кустом язміну, чакаючы сігналу. Каля іхніх ног ляжала па вялікаму каменю, а побач, у прыкрытых ад іскраў скрынках, склад амуніцыі — пучкі «каліхлорыкум», падобныя на белую радыску.

Ты бяжыш задыханы, радасна ўсхваляваны, з апошнім данясеннем:

— Ксёндз ужо тут! Агонь!

З крапідла на людзей і на сталы ападае вясёлкавы дождж...

А потым — «дынгус», вясёлы звычай аблівання вадой, каго табе толькі захочацца — з акон, з-за вугла... Колькі крыку, піску, смеху!..

Як моцна пахла вясной гэтая зямля вашага двара, пясок, гліна, дажджавая вада, пачарнелыя дошкі плота, першыя лісточкі травы, вецер, казіны закутак, нагрэты толь на даху дворніцкай будкі... Як ласкава казытала вашы босыя ногі дажджавая вада ў раўчуках... Якая

цудоўная, глыбокая, бязмежная прастора неба над сярэбранай чародкай галубоў, над расцягнутай паласою белых воблакаў... А над імі ж яшчэ можна было ўбачыць слабенькія зорачкі — абы спусціцца крадком на дно глыбокага калодзежа...

Каза з казлянятамі, шустры цюцька Моцюм, кот, куры, галубы, вераб'і і ластаўкі — гэты жывы, свядомы свет прыроды актыўна ўваходзіў у вашы гульні, праблемы, радасці і трагедыі на роўных правах грамадзян маленькай дваровай дзяржавы. Надзьмутыя, гаманлівыя квактухі з годнасцю вадзілі жоўтае воблачка куранят і качанят, новых жыхароў вашага свету.

Школа — школай, дом — домам, аднак жа ты ў той час і думаць не думаў, які магутны ўплыў на фарміраванне асобы і характару, на пазнаванне прыроды, правоў грамадскіх і псіхалагічных меў іменна гэты ваш двор.

Зярнятка пяску і крышталік слюды, якія адсвечвалі сонца, жменя сырога пяску, гліна, у якой можна было праявіць сілу свайго ўяўлення, таямніца цвіцення і плоданашэння дрэў, мацярынская чуласць і тактыка квактухі, казы, ластавак, хітрасць ката, салідарнасць і патрыятызм галубоў, што заўсёды і адусюль вярталіся дахаты, сіла ветру, які папіхаў папяровыя лодачкі, сіла падзення і майстэрства ўтаймавання дажджавых патокаў, сонечныя зайчыкі з адпаведна настаўленага люстэрка, сіла сонечных промняў, прапушчаных цераз лінзу, вясёлкавыя фарбы кветак, матылёў і птушак, аксамітны палёт кажана, цухкія шляхі крата, сцяжынкі мурашак, дарожкі ката, сабакі і вароны, тунелі дажджавых чарвей, грукатлівае рэха ў калодзежы, канцэрты камароў, коканы начных матылёў, сеткі павуціння на кустах, гнуткасць галін, горкі смак лістоў, ліпкасць ка-

штанавых пупіхаў, кусклівасць крапівы, крылейкі ліпавага насення на ветры, а ўвечары — зорнае неба і знічкі...

Цераз дваровае княства часта праходзілі гістарычныя навальніцы: войны, бітвы, сутычкі, паядынкі, інтрыгі, здрады, каханне. Выраслі героі, правадыры, раслі і падалі аўтарытэты, прыплывалі і адплывалі моды і фасоны, нараджаліся новыя словы, шыфры, лозунгі, знакі, абрэвіятуры, сімвалы, азбукі, стабілізаваліся іерархіі, класы, саюзы, ансамблі, што спаборнічалі паміж сабой, сеймікі і рады, выяўляліся таленты, спецыяльнасці, тэмпераменты, схільнасці, пачуцці дружбы.

Дзяўчаты мелі свой патаемны, забабонны, варажбітны свет, непранікальны для хлопцаў,— шэпты, змовы, хаханькі, плётачкі, злаванні, капрызнічанне, чым, зрэшты, і вызначаецца гэтая парода. Толькі Ірка хутчэй падыходзіла да мужчынскай рэспублікі. Яна была шчырая, салідарная, таварыская, аб'ектыўная, справядлівая і верная да канца. Яна ўмела быць сувязною паміж дзяўчатамі і хлопцамі, калі здаралася іх мірыць. Трохі залішне самаўпэўненая, упартая, калі трэба было пастаяць за мараль, завучаную з катэхізіса, але ж і вельмі добрая.

Многа выдатных гістарычных і літаратурных герояў пакінула сляды на землях дваровага княства: Віннітоў, Сакалінае Вока, Олд Шатарганд, Атос, Партос, Араміс, Д'Артан'ян, Касцюшка з касіньерамі, рыцары Валадыёўскі і Кміціц, казацкі палкоўнік Багун. Нямала дзесяцігадовых Гамлетаў і Вертэраў арасіла гэтую зямлю слязьмі і напоўніла паветра горкім уздыханнем. Колькі было тут архітэктараў, міністраў, вынаходнікаў, генералаў, рэкардсменаў, суддзяў і асуджаных, любімых і закаханых, дырыжораў і салістаў!.. Па гэтай зямлі

маршыраваў не адзін парад, прамчаўся галопам не адзін табун індзейскіх коней, даваў канцэрты не адзін хор, выступаў не адзін тэатр, праводзіўся не адзін фестываль з ілюмінацыяй і танцамі пад губны гармонік і балалайку Тадзіка Навіцкага.

Колькі зламаных шпагаў, мячоў і шабляў, лопнутых шчытоў і шаломаў, зламаных лукаў і парваных прашчаў, гліняных бомбаў, што не выбухнулі, колькі каменнай амуніцыі хавае ў сваім лоне гэтая зямля маленства!..

У маі, калі ўжо сонца добра прыгравала, з'яўляўся на нашым двары дзядуля Рыхліньскі, сівенькі, у драцяных акулярах. Ён прывозіў у наш зялёны аазіс сваю маленькую, некалькі месяцаў, унучку з суседняга дома. Калясачку акружалі нашы дзяўчаты, з незвычайнай цікавасцю і захапленнем разглядаючы жывую ляльку.

— Ой, сосачка ў яе вывалілася! Проша пана, ці можна ёй даць яе назад у роцік?

— А чаму яна не міргае вочкамі?

— Проша пана, а ці можна ёй змяніць пялёначку? Усё круціцца, крывіцца...

— Калі яна пачне гаварыць?

— Проша пана, ці можна яе трошкі павазіць?

— Янінка, не трэба так нізка схіляцца над ёю, бо малое будзе пасля касавокім.

— Проша пана, можа, яе адвезці ў цянёк, каб ёй на сонцы не зашкодзіла?

Дзядуля ахвотна аддаваў унучку пад апеку дзяўчатак. Ён болей сябраваў з хлопцамі. Любіў перад вамі пакрасавацца.

— Ну, падшыванцы, хто з вас здолее палічыць, колькі галубоў кружыць у той вунь чародцы?

— Проша пана, нельга іх палічыць, бо яны ўвесь час мяняюцца.

— А я вось, вісусы, палічу!

Ён задзіраў галаву, якая ў яго чамусьці трэслася, і нейкі час варушыў губамі. Тады заяўляў:

— Палічыў. Іх там, проша вас, роўна сорак сем.

Мы здзіўлена глядзелі на дзядулю Рыхліньскага.

— А хто палічыць, колькі ў каго на галаве валасоў?

— Ой, проша пана, гэта хіба каб праз павелічальнае шкло.

— А я магу і без шкла! А ну, ідзі, падшыванец, сюды.

Дзед схіляўся над галавой каго-небудзь найбліжэйшага, доўга штосьці шаптаў і нарэшце паведамляў:

— Ты, хлопча, маеш дваццаць сем тысяч сто трыццаць дзевяць валасінак. Не лічачы, вядома, той, што расце на барадаўцы.

— Але як жа вы робіце гэта?

— Пажывеш столькі, як я пажыў, не тое яшчэ зробіш.

— А вы былі на вайне?

— Быў. На японскай вайне.

— А колькі вы забілі японцаў?

— Трыста адзінаццаць. А калі дакладней, дык трыста дванаццаць, бо адзін паранены неўзабаве памёр у шпіталі. А іншых параненых я ўжо і не лічыў.

— А ці праўда, што ў японцаў жоўтая скура?

— Каб толькі гэта, ого! Яны яшчэ і касавокія, малыя. Ядуць пераважна рыс. І такая ў іх дзіўная азбука, што ніхто не можа вывучыць.

— А наш дворнік Мазурця таксама быў на японскай вайне. Ён казаў, што японцы гэтую вайну не прайгралі.

— Яно так — пакуль я быў, дык усё ладам ішло. А ўжо калі мяне пусцілі адпачыць — так яно ўсё на фронце і абвалілася.

Пан Рыхліньскі паказваў вам шмат вельмі дзіўных фокусаў з картамі і манетамі. Гаварыў, што ён умее лятаць, толькі баіцца заблытацца ў тэлеграфных дратах. Навучыў вас лічыць па-французску, па-руску і па-нямецку. Расказваў пра свае сутычкі ў час паўстання 1863 года. Аднойчы ён прынёс блакітную канфедэратку з арлом і зоркай,— у гэтай шапцы ён удзельнічаў у парадзе, у ліку нямногіх сівенькіх паўстанцаў, якіх вучні вялі там пад рукі. Фэлек яго тады бачыў. Як жа не верыць пану Рыхліньскаму?

Май... Хмельны, салодкі пах бэзу, салаўіныя трэлі ў парку, лёгкія, шматфарбныя сукенкі дзяўчат, спевы і арганная музыка ў святочным касцёле...

А потым чэрвень, гарачыя дні ў школах, пасведчанні аб заканчэнні класаў...

У ліпені і жніўні двор быў пусты і ціхі. Заставаўся толькі Мазурця з сям'ёй і бабуля Кажухоўская з апякункай Цалюсяй.

Шмат захаплення прыносіў верасень. Горад, двор, кватэра — пасля двухмесячных канікулаў былі нейкія прыгажэйшыя, цікавейшыя, багацейшыя. Меншыя і большыя радасці: новая форма, новыя кніжкі, сшыткі, ранцы, радасныя сустрэчы з сябрамі і сяброўкамі ў школах і на двары, залаціста-чырвонае лісце пад дрэвамі, электрасвятло, вада з крана, мяккая пасцель, агуркі, памідоры, гарбузы, сакавітыя грушы.

А потым непагадзь, дажджы ды халады. І першы снег.

Шматколерны свет рабіўся шэрым і чорна-белым. Чорныя вароны на белым снезе, чорнае голле дрэў на алавяным фоне неба, чорныя

вераб'і на шэрых падаконніках, стальныя ледзяшы, што пазвісалі з капяжоў і вадасцёкавых труб, снежныя кветкі і планы гарадоў, намаляваныя на шыбах, чорнае вуголле побач з белаю снежнай бабай, чорнае неба і малочнага колеру вулічныя ліхтары... Аднак жа і санкі, і канькі, і бойкі снежкамі, і нецярплівае чаканне на той вечар, калі будзе і дзівосна прыбраная ёлка, і першая зорачка, і госці, і калядкі, і святы Мікола ў ботах дзядзькі Янэка...

## 4

Цяпер ты ўжо не дзіця. Табе чатырнаццаць год. Ты ўжо ведаеш усё на свеце. Скажы, ці адчуваеш ты сябе свабодным?

Так.

А ці ведаеш ты, што я, твой цень, абцяжарваю твае ногі?

Не.

А ці не адчуваеш ты, што запаведзі, рэгламент, кодэкс, параграфы, забароны, парады, звычаі, аўтарытэты, гонар, гордасць і страх заціснулі вяроўкамі тваю свабоду?

Не. Не адчуваю. Яны незаўважна ўвайшлі ў мой характар, сталі маімі.

А памятаеш яшчэ аповесць пра дзікага мустанга?

Так, памятаю. І не забудуся ніколі.

А памятаеш здарэнне з галубамі і чарапахай?

Так. Але ж гэта было толькі ўчора. Памятаю... Аднак раскажы мне ты, мой цень, пра тую гісторыю так, як бачыў гэта ты. Я тады ўпершыню адчуў у сваіх зубах жалезныя цуглі. Я быў асляплены яснотай дня, далёкім вясновым блакітам, ап'янелы ад свежага ветру,

які забіваў мне дыханне. Раскажы, мой цень, як гэта было, каб я яшчэ раз перажыў тое здарэнне.

Пачуўся званок. Самы вясёлы, бо апошні — на заканчэнне шостага ўрока. Праз момант, як быццам хтосьці прарваў вялізную загату, па гмаху разліўся страшэнны гвалт і грукат ног па калідорах і каменных сходах.

Твой добры сябар, Ясь Турлейскі, па мянушцы Рагалік, прытрымлівае цябе за руку і шэпча:

— Застанься, Філосаф. Штосьці табе пакажу.

Класы, калідоры і, нарэшце, увесь гмах гімназіі — апусцелі. Настала цішыня. Чуваць толькі, як з настаўніцкага пакоя выходзяць па аднаму апошнія настаўнікі. Вы стаіце ўдвух, схаваўшыся ў туалеце, чакаеце, калі заскрыгоча ключ швейцара, які замкне ўваходныя дзверы. Стой. Не бойся. Штосьці павінна здарыцца небывалае. Ясь Турлейскі заўсёды прыдумвае штосьці незвычайнае.

— Цяпер пайшлі,— гаворыць ён і за руку вядзе цябе ў рэкрэацыйную залу, у якой так светла.

Праз вокны як на далоні відаць шэрая сажалка, у якой штогод абавязкова нехта топіцца. У кутку залы, з правага боку, стаіць двухметровая клетка, у якой увесь час трапечацца некалькі дзесяткаў кальчатых галубоў. На перапынках з імі пацвельваюцца меншыя гімназісты, падкідаючы ім крошкі ад сваіх снеданняў.

Турлейскі адчыняе вокны насцеж. Тады вы без асаблівай цяжкасці перасоўваеце клетку дзверцамі да акна.

— Глядзі! — гаворыць Ясь.— Свабода! — І адчыняе клетку.

Чародка галубоў, як воблака, вылятае, трапечучы крыллем, у вясновы блакіт. Салодкая і адначасна балючая рана, якую ты носіш у сэрцы пасля гібелі мустанга, ажыла з усёю сілай. Ясь стаіць нерухома, праводзячы галубіны палёт вачыма. Выгнутыя ў радаснай усмешцы вусны яго і сапраўды нагадваюць рагалік.

— Ну што? Ужо яны і на волі! — гаворыць ён і ўзрушана міргае.

— А ці пражывуць яны так?

— Філосаф, Філосаф, а што ім тут было за жыццё? За кратамі да задрыпанай смерці! А так будуць паміраць — свабодныя.

Абодва вы дрыжыце ад хвалявання. Але гэта яшчэ не ўсё. Пачакай.

Цяпер Рагалік, схіліўшыся над вялікім акварыумам, прыглядаецца, як гуляюць прыгожыя, дарагія рыбкі.

— Хадзі сюды,— кажа ён ледзь не шэптам.— Зірні на гэтых буржуяў.

У акварыуме — як быццам разбітая на кавалачкі вясёлка. Дамініруе золата і чырвань. Над жоўценькім пяском, паміж зялёным серпантынам вадзяной травы з жамчужнымі бурбалачкамі паветра, паволі праплываюць перапалоханыя вуалехвосты і скалярыі ▪ мноствам шаўкавістых плаўнікоў і хвастоў.

Побач з акварыумам, на нізкім століку, у невялікім тэрарыуме, дзе над паверхняй мутнай лужыны тарчаць шэрыя камяні, ляжыць, сама падобная да каменя, старая, самотная чарапаха. З-пад жывога панцыра паволі высоўваецца малая галоўка на зморшчанай, патрэсканай, сухой старэчай шыі. Чарапаха глядзіць на вас бязмежна сумнымі, стомленымі вачыма старасці.

Ты памятаеш — так глядзелі з-пад клятчастых хустак вочы жанчын перад брамай?..

Якi рэзкі кантраст паміж гэтым райскім акварыумам і брудным тэрарыумам бедняка!

— Рагалік, пайшлі, бо яшчэ хто-небудзь застане.

— Хвілінку,— кажа Турлейскі.— Ты бачыў свабоду, а цяпер убачыш справядлівасць.— I ён да локця закасвае рукаў форменнага пінжака.

Не ўцякай. Няхай яшчэ раз праз тваё цела і сэрца пройдзе сутарга маланкі. Трэба плаціць за разуменне вялікіх слоў. Зірні, не адварочвай галавы, вазьмі сябе ў рукі. Глядзі, як Рагалік садзіць у ваду руку, хапае спалоханых арыстакратак і перакідае іх у тэрарыум чарапахі.

— Няхай хоць раз наесца ўдосталь,— гаворыць ён, і губы яго крывяцца.

— Што ж ты робіш? Што яны табе вінаваты?

— Не бойся, Філосаф. Ты бачыў свабоду і справядлівасць. Пры гэтым яшчэ ўсё пахне крывёю. Хадзем. Выйдзем цераз сутарэнне.

Вы стаіце перад гмахам гімназіі.

— Можа, сходзім на велатрэк? — пытаецца Турлейскі.

А ў цябе як быццам штосьці ў грудзях разлілося — горыч, задавальненне, сум? Нібы ты развітаўся назаўсёды з некім блізкім. Глядзіш угару. Не, гэта не кольчатыя галубы. Гэта звычайныя. То загараюцца, то гаснуць у сонечным небе.

— Пайшлі! — паўтарае Ясь і кладзе табе на плячо руку. Ты адчуваеш, як яна дрыжыць.

— Ідзём ці не?

— А грошы ў нас на заклад ці ёсць?

— Галіяф возьме ў нас пасведчанні. Калі ўжо мы ды з такой гімназіі. Ён бярэ залог толькі з іншых.

Праходзіце міма парку імя Сташыца. На павароце заскрыгатаў трамвай — чорна-белая сямёрка.

— Давай хутчэй! — гаворыць Ясь.

Мінаеце яшчэ нейкія дамы, платы, плошчы. Нарэшце справа паказваецца вялікая міса веладрома. Па выезджаным насыпе кружаць некалькі веласіпедаў. Цені веласіпедыстаў падбрыкваюць, як вясёлыя жарабяты: перакідаюцца з правага боку на левы, адзін раз спераду, другі раз ззаду, растуць на пахілым борце, курчацца і ломяцца.

— Глядзі, Філосаф, на тыя цені — як яны кружаць вакол веласіпедаў і вакол пляцоўкі. Памятаеш, як Дзеканоўскі гаварыў нам тады пра Каперніка, пра карусель і цені? Тут тое самае.

— Ну, дык пайшлі па веласіпеды.

Уваходзіце ў вялікую драўляную будыніну. Некалькі старых веласіпедаў, абапёртых аб сцяну. Чорны ад мазуты стол з прымацаванымі на краі ціскамі, малаткі, абцугі, кавалкі ланцугоў, веласіпедныя помпы, старыя пакрышкі, камеры.

— Пан Галіяф, нам, калі ласка, два веласіпеды!

— Бярыце. Гэты, з правага боку, і дамскі. А залог?

— Партфелі і пасведчанні. Плацім за паўгадзіны.

— Толькі ўжо, маладыя людзі, не давайце тым галадранцам. Стаяць тут кожны божы дзень і просяць у кліентаў.

— А чаму, пан Галіяф? Мы адказваем за веласіпеды, мы і плацім. А хто ўжо ездзіць — наша справа. Ці не так?

— Сарвуць ланцуг, свіснуць званок і вас яшчэ каменнем закідаюць. На тым тыдні хапянулі ў мяне спартыўны.

— Добра, добра. Мы адказваем. Паехалі, Філосаф!

І пачалася шалёная гонка па крузе. Сустрэчны вецер шліфуе вашы шчокі і разносіць валасы. Востры дождж каляровых каменьчыкаў, шкельцаў, кавалачкаў цэглы, жвіру, уціснутых у цяжкую, гліністую зямлю, ляціць перад вашымі вачыма. Дзе няроўна, там ляскоча жалеззе заезджаных веласіпедаў. Далоні адчуваюць прыемнае падрыгванне руля. Шпарчэй, яшчэ шпарчэй!.. Ты пускаеш руль, становішся на педалях, як на страмёнах, рот раскрываеш насупраць ветру,— яшчэ хутчэй, яшчэ, як той дзікі мустанг!.. Рагалік запавальняе язду, лажыцца жыватом на сядзенні, левая рука на гумавай ручцы руля, праваю ён круціць педаль. На цені ён выглядае чорным крабам.

— Філосаф! Філосаф! Спыняемся!

І вас адразу ж акружае чародка абарванцаў.

— Можна нам зрабіць адзін круг? Толькі адзін,— просяцца яны.

— Пайшлі, Філосаф, на траву. Няхай сабе трохі паездзяць.

Вашага часу яшчэ пятнаццаць мінут. Вы сядаеце каля будыніны, на сонейку. Зямля сырая, халодная. З-за вугла чуваць гутарку некалькіх рабочых. Яны ляжаць на мяхах ад вугалля, пабліскваюць раздадзеныя карты, вецер ірве сіні дымок махоркі.

— Карцёжнікі,— гаворыш ты.

— Наіўны чалавек! Ты паслухай толькі,— шэпча ў адказ Рагалік.

— ...у Баднарка таксама былі. Абшукалі кватэру і ўсё гарышча.

— І што, самога забралі?

— Не, не знайшлі нічога. Баднарчыха схавала лістоўкі пад малое. Дзіця не зачапілі. Спала.

— Аднак Каваля ўзялі. Чаплю, Рэкуця.

— Нехта, відаць, данёс. Цудаў не бывае.

— А я вам гавару, што трэба мецъ вока на Сахачыньскага. Адкуль у яго столькі грошай на выпіўку? Па латарэі выігрывае? А круціцца каля вас, падлізваецца, загаворвае.

— У тую пятніцу стаім мы з Уладакам, а ён падыходзіць і кажа: «Хлопцы, хадзем пасля работы на Складовую, у патайное месца возчыкаў. Там адзін з Беластока выступаць будзе».

— А ты яму што?

— Уладак яму адмераў: «Цябе, відаць, гліна[1] туды запрасіла, дык ты і ідзі, калі ў цябе рукі ў гліне...» Дык ён яшчэ і скрывіўся нездаволена, глюгу сваю высмаркаў, пакруціўся трохі і пасунуўся, як змыцканы.

— Каля хаты Баднаркавых шпацыруе нейкі шпік, але яны пра гэта ведаюць.

— А што з лістоўкамі?

— Суседскія дзеці, школьнікі, вынеслі ў ранцах...

Рагалік штурхануў цябе і кіўнуў галавой. Вы выйшлі на велатрэк з іншага боку.

— Ну, што — карцёжнікі? — спытаўся ён. А потым крыкнуў на хлапчукоў: — Сёмы і чацвёрты веласіпеды на месца! Давайце іх сюды!

Спацелыя, шчаслівыя хлапчукі падвялі веласіпеды. Меншы, рабенькі, даў Турлейскаму прыгожа выразаную чурачку для гульні ў чыжыка.

— Гэта табе,— сказаў ён, выціраючы спацелы лоб.

Вы ідзяце па вуліцы Дзельнай у напрамку Пятркоўскай. На маленькай плошчы каля гма-

---

[1] Пагардлівая назва паліцыі.

ху, дзе каменныя атланты трымаюць на плячах чатырохпавярховую аграмадзіну, цырк разбіў каляровыя шатры для ўдзельнікаў еўрапейскага чэмпіянату па барацьбе. Вялікія афішы крычаць чырвонымі літарамі: «Сёння выступае Збышак Цыганевіч!» Нейкі момант вы гледзіце на здаравенныя ружовыя тушы барцоў. Як жа далёка ім да тых калосаў, высечаных з каменя!

— Пайшлі,— кажа Ясь,— мне прыгадваецца бойня. А на велатрэку было здорава — супраць ветру.

— Здорава! — адказваеш ты.

— Галубам нашым таксама цяпер здорава. Кружацца сабе дзесьці над паркам ці за горадам. А Фрэя ты любіш?

— Не ведаю, так сабе. Нейкі ён як пеўнік натапыраны. А чаму ты пытаеш?

— Ды так сабе. Можа, пазней скажу...

## 5

Дзве дарогі вядуць з дому ў школу, у «Гімназію аб'яднання купцоў і прамыслоўцаў». Адна дарога — пехатой, больш рамантычная: вуліцай Наўрат, пасля Воднай, цераз канал пад насыпам чыгункі, па Трамвайнай і да Дзельнай, дзе пад нумарам 68 уздымаецца прыгожы гмах гімназіі. І другая дарога — па вуліцы Кілінскага ды па Дзельнай — направа.

Ідзі па першай трасе, Наўратам, на ўсход. Абмінаеш магазін фраў Брэндаль, ідзеш хутчэй каля брамы, у якой тарчыць рабы ад воспы бандзюга.

— Здароў!

— Здароў!

На другім баку вуліцы, перад паваротам на вуліцу Кілінскага, спакуслівая вітрына мага-

зіна Багданьскай: сшыткі, вугольнікі, алоўкі, ручкі, паштоўкі, скруткі кардону, фарбы, альбомы, паштовыя наборы.

— Малады чалавек! Малады чалавек! Калі ласка, зайдзіце, бо вы ўчора забыліся ўзяць рэшту...

На рагу чырванеецца паштовая скрынка, анекдатычная ў вашай сям'і. Памятаеш? Грошы ты ўкінуў у скрынку, а пісьмом хацеў заплаціць у магазіне. На супрацьлеглым баку, у драўляным доміку, ганарлівы «парыжскі» надпіс на шыльдзе: «Coiffeur» [1]. А па суседству крамка, дзе прадаюцца рыбкі, папугаі, канарэйкі, вудачкі, паплаўкі, кручкі...

— Пані Завадская, вы чулі? Гэты малы «квафàр» ледзь не трапіў сёння пад трамвай!

— Каторы? Чэсік?

— Чэсік, а хто ж! Г... такое!

Пасля вуліцы Кілінькага — чым далей, то ўсё ніжэйшыя мураванкі, усё больш ды больш драўляных домікаў, памаляваных у шэра-зялёны колер, больш ды больш цягнецца платоў. Потым вуліца Юліюша, заўсёды ціхая ды спакойная, напоўненая салодкім пахам з хлебнага магазіна братоў Капчыньскіх, ужо недалёка новая гарадская лазня, а з правага боку — спартыўная, напаўдзікая пляцоўка «Турыстаў». Гэта ўжо вуліца Водная. Справа — самотны з-за сваёй велічы гмах дзіцячага дома. З капліцай, майстэрнямі, інтэрнатам і клубам. Гаспадары яго — манахі ордэна Салязянаў. А ты ідзі па Воднай улева, зайдзі да братоў Гродскіх — Здзіха і Юрэка. Яны заўсёды чакаюць цябе да апошняй хвіліны.

Брама, вузкі двор, справа трохпавярховы флігель. Тут заўсёды пахне шмальцам і кіслай капустай. Пляскаеш далонямі — ваш умоўны

---

[1] Цырульнік *(франц.)*.

сігнал. Праз момант чуецца грукатанне чаравікаў па драўляных сходах, і вылятаюць спраўныя, рослыя браты Гродскія.

— Здароў!

— Здаровы! А свечку ўзялі?

— Узялі.

Тры пары хуткіх ног, тры касыя цені — напрасткі па бруку вуліцы Пшэязд, праз вугальны пыл і даждждавы шум халадзільніка электрастанцыі — проста ў чорны ўваход канала. Тут, каля глiністых лужын, стаяць замурзаныя хлапчукі са свечкамі ў руках і з недакуркамі ў зубах. Гэта праваднікі, якія за пяць грошаў вядуць прахожых з агнём цераз чорны, балоцісты канал на другі бок.

Сагнуўшыся, на падкурчаных нагах, адзін за адным, трымаючыся за крыссе форменных пінжачкоў, ідзяце вы ў цемры. Крокамі вымяраюцца ўзгорачкі, ямкі, лужыны, павароты тунеля. Тыя, што ідуць насустрач, раз-пораз пакрыкваюць, каб не стукнуцца лбамі. Не ў кожнага ёсць свечка або пяць грошаў. Дарога ў цемры доўгая, сцены канала вечна мокрыя, слізкія. Цяжкае, гнілое паветра — яшчэ дзесяткі два-тры крокаў, і можна выпрастацца з палёгкай. За апошняй паваротка насустрач хлынула святло. Зноў дзетвара са свечкамі, і вуліца Трамвайная. З левага боку пануры гмах шпіталя для венерычна хворых. З акон на прахожых пакрыкваюць «вясёлыя дзяўчаты» з зямлістымі, прышчаватымі тварамі. Трохі воддаль, направа, дэпо, дзе начуюць і адкуль выязджаюць уранні трамваі з нумарамі на каляровых шчытках. Тут працуе пан Карпіньскі, бацька гарбатага хлопчыка з вашага класа. Ён дазваляе вам часамі выводзіць трамваі з дэпо ажно на вуліцу Дзельную. Далей, насупраць, невялікі парк імя Сташыца, увосень чырвоны ад каліны і райскіх яблыч-

каў. Налева — вялікі, прыгожы гмах гімназіі з дабудаванай спартыўнай залай і пляцоўкай у двары.

Сёмы і другі нумары трамвая тут не запавальняюць ходу. Тут прыязджаюць у гімназію экіпажамі або санкамі са званочкам, пад апекай лакея, што падносіць партфель да самага ўвахода...

Што ж за яна — гэтая другая траса з дому да школы?

Гэта дзіўная гісторыя, якую ты не можаш растлумачыць самому сабе і дагэтуль. Герт Айзенбраўн, ганарлівы, надзьмуты сын мільянера, штодня прасіў, каб ты згадзіўся праехацца з ім экіпажам дахаты, каб ён, той Герт, мог уранні зайсці па цябе. Навошта яму было гэта патрэбна? Ён — з акварыума для залатых рыбак, ты — з чарапашынай пячоры. Не лішне часта ты быў ласкавы з гэтым Гертам. А калі і быў, дык паблажліва дапускаючы да сябе. Прыпомні добра і скажы: што магло быць прычынай таго, што ты рос у вачах сяброў і ў вачах уласных?

Ты быў капітанам вашай футбольнай каманды!

Ён і шмат іншых фабрыканцкіх сынкоў не гулялі ў гэтай дружыне.

Ты камандаваў адной з тых армій, што змагаліся на Стоках!

Яны ў тых бойках не прымалі ўдзелу.

Ты ўмеў ездзіць на веласіпедзе, стоячы на сядле!

Ён — таксама. І былі ў яго поні, і тэнісны корт, і парусная лодка, і англійская дробнакаліберка.

Ты па сходах з'язджаў на нагах, адвярнуўшыся задам наперад, і зусім не трымаўся рукамі!

Тады гэта было не вельмі многа. Ён хадзіў

на лыжах. Тут у цябе не той напрамак, не той след. Хадзем на два гады назад. Пайшлі. Я табе памагу.

— Пайдзі купі мне пачак гільзаў,— сказаў бацька.

Ты горда прыносіш раскошныя гільзы ў прыгожым пачку. На версе каляровы, яркі малюнак: рыцар у панцыры ласкава працягнуў руку, а ніжэй вусаты шляхціц у канфедэратцы нахіліў да рыцарскіх ног бела-чырвоны сцяг з белым арлом. Ніжэй назва фірмы «Гэр-бэ-во».

Маці ўзяла ў рукі гэты пачак, прыгледзелася, потым моцна зачырванелася, змяла пачак і кінула яго ў агонь.

— Не смей мне больш прыносіць дадому такія гільзы. Што за нахабная правакацыя!

— Пра што ты, Аня? — спытаўся бацька.

— А ў цябе дзе вочы? — абураецца яна.— Нар-родная ілюстрацыя! Панцыр у гэтага рыцара спрэс крыжацкі. А той, у канфедэратцы, кладзе яму пад ногі польскі сцяг! Таўсцеюць ад нашага хлеба, гандляры, і яшчэ нашу годнасць народную прыніжаюць. Пляваць ім у іхнія тоўстыя морды!

Ты памятаеш гэта?

Памятаю. Добра памятаю.

А цяпер хадзем на паўгода наперад.

Вось ваша грозная і выдатная паланістка — пані Аўгустына Валяноўская. Не хавайся ты за плячыма калегі. І так яна цябе выкліча. Вось набліжаецца твая літара, тваё прозвішча. Устань!

— І не брыдка табе такім жаргонам калечыць цудоўную польскую мову? — пытаецца настаўніца.— Я не сказала б гэтага Айзен-

браўну, Штайнерту, Вульфсону ці іншым тваім калегам, немцам, якія толькі ў мяне пачыналюць вучыцца па-польску. Але ты?! Унук палкоўніка паўстання шэсцьдзесят трэцяга года! Сорам! Сядай. Стаўлю табе кол!

— Дзедавы заслугі — не мая спадчына,— гаворыш ты задзірліва.

— Дурань. Стань прасцей! Змаганне за свабоду народа — гэта не заслуга, а абавязак. Паедзь калі-небудзь у Варку, дзе яго расстралялі. Там табе будзе пра што падумаць. А таму, што ты непакорны, як сапраўдны паляк, кол твой я ліквідую. Сядай. Крох, да дошкі!

Стоп! Усё, што было далей, гэта ўжо не мае тут значэння. Ты зноў наблізіўся да тых крыніц, якія з гадамі разрастаюцца ў вялікія рэкі: свабода, справядлівасць, а цяпер яшчэ і нацыянальная годнасць, патрыятызм і гонар.

І цябе вось ахрысцілі вадой чалавечай годнасці. Яшчэ не раз ты адчуеш вынікі гэтага хрышчэння. І не да ўсіх крыніц дойдзеш.

Аднак што ж тут агульнага з Айзенбраўнам, з экіпажам, з дарогай у школу?

У яго таксама ёсць вушы, каб слухаць, і ён таксама, як ты, «ведае ўсё».

Заўваж, як дзіцячая памяць трывала рэгіструе ўсё, што прабягае маланкай праз маладое сэрца. Настане час, калі набыты вопыт дазволіць табе адкрыць сэнс, значэнне і цану тых спраў і рэчаў, да якіх свядомасць твая не даставала, якія не ўмела назваць адпаведным словам...

Бачыш? Мы сабе так гаворым, гаворым і вось дайшлі да сённяшняга дня. Увечары нам трэба будзе прайсціся па вуліцы Пятркоўскай. Я — твой цень — павінен буду, як вар'ят, кружыцца вакол тваіх ног, хаваючыся ад абстрэ-

лу тысячы агнёў, якія будуць атакаваць мяне з розных бакоў і вышыняў. Часамі буду я расшчэплены на два, тры, чатыры і больш тваіх ценяў, буду часамі праходзіць па шорсткіх плоскасцях сцен, буду сяды-тады ператварацца ў тваё рэльефнае і каляровае адлюстраванне ў вітрынах. Будзь пільны. Калі б ты не праходзіў па Пятркоўскай вуліцы — памятай пра справядлівасць, свабоду, годнасць.

## 6

Вуліца Пятркоўская — гэта струна, нацягнутая на грыф Верхняга Рынка, нерв і галоўная артэрыя Лодзі. Уласна кажучы, галоўнай яна лічыцца паміж вуліцамі Наўрат і Пшэязд.

На гэтым адрэзку ідзе бясконцы парад святла, цудоўных вітрынаў, шыкоўных фасадаў і парталаў, шматпавярховых гмахаў. Па асфальце плывуць экіпажы, аўтамашыны, трамваі, рамізніцкія брычкі. А па тратуарах — натоўпы людзей: далікатныя пані, паны ў цудоўных капелюшах і чорных кацялках, гімназісты, інстытуткі... Апагей інтэнсіўнасці, густаты гэтага руху знаходзіцца паміж вуліцамі Пшэязд і Траўгута. Тут славуты «дэптак», пятачок, месца шпацыраў, спатканняў і дэманстрацыі моладзі з цэнтра горада.

Ты стаіш на рагу Наўрата і Пятркоўскай. Тут ужо рух расцае, дагасае. Калі б толькі ты не захацеў пайсці направа, на той «дэптак»,— заўсёды спачатку паглядзіш на дом, страшны і дагэтуль. Крывавая трагедыя, якая тут адбылася, стала тэмай вулічнай балады, якую — на мелодыю славутых «Бублічкаў» — співаюць ва ўсіх раёнах горада:

Ноч набліжаецца,
Ён падкрадаецца,

Ідзе з сякераю
У іхні дом...

У гэтым доме бандыт Ланюх, ужо амаль легендарны, замардаваў сям'ю Тышэраў, уласнікаў магазіна раяляў.

— Ты што, зноў на «дэптак?» — пытаюцца маці ў сваіх сыноў-падлеткаў.

— А што, ужо і прайсціся трохі няможна?

Што ж... Гэты дом — мілы пачатак трасы. Такі сабе сігнал. Перасцярога. Так, з акон дзіцячага сада пані Халявіцкай, у які ты калісьці хадзіў, відаць той крывавы дом... Ты спяшаешся. Ідзі далей па левым тратуары Пятркоўскай. Паглядзі, як ліхтары гуляюць тваім ценем у пінг-понг: адзін раз я перад табою, другі раз за табою, а часам мяне ліквідуе святло вітрыны. У перспектыве перад табою — каляровае зарава святла, якое адлюстроўваецца ў мокрым асфальце. Цяпер ты зірнеш управа. Прыемна заглянуць у тунель пад'езда, скляпенне якога падшыта тысячай каляровых электралямпачак. Гэтак прыцягвае прахожых, спакушае іх уваход у кінатэатр «Паляс». З-за вітрыны паблісквающь фотапартрэты славутых кіназорак. Ідзі далей. На тратуарах усё больш ды больш людзей. І агнёў — таксама. Ты зноў спыняешся і глядзіш на супрацьлеглы бок вуліцы, на какетлівую архітэктуру двухпавярховага дома, які пульсуе святлом, фарбамі і музыкай. Пасярэдзіне гмаху прабягае вялікі надпіс: «Эспланада». За шкляною напаўавальнай сцяною снуюць сілуэты афіцыянтаў, танцораў. Іграе джаз братоў Хватаў. Танга, вальсы, факстроты... Ты стаіш. Слухаеш. Цябе пранізвае раскошная краса мелодый. Пералётнымі дажджынкамі дрыжыць, пераліваецца святло. З казырка тваёй шапкі

на твар ападае вялікая, цяжкая кропля. Цёпла. Як добра так стаяць і слухаць!

— Здароў, Філосаф!

— А... здароў!

— Што ты так укараніўся на гэтым бруку?

— Ды нічога, Слухаю Хватаў.

— Маёра не бачыў?

— А што?

— Нічога. Калі ўбачыш, дык скажы, што з яго Андзяй валочыцца па «дэптаку» той тып ад Зімоўскага.

— А што гэта ў цябе такі пухір на губе?

— У чапу гулялі.

— Як гэта?

— О, свяценькі, не ведаеш? Калі збярэцца некалькі сваіх на «дэптаку» — ідзём у цёмны пад'езд, усе становяцца кругам, і па разу пацягваем з адной папяросы. У каго першага ападзе попел — таму ў чапу — па шапцы! Усе на аднаго. Можна і на востра, калі там хлопцы з Балутаў ці з Хойнаў.

— А што гэта — на востра?

— Не па шапцы, а ў морду. Вось бачыш: і я сабе... губу прысмаліў. Ну, бывай!..

Табе зрабілася сумна. Страшэнна сумна. Да «Эспланады» раз-пораз пад'язджаюць экіпажы і брычкі. Вось толькі тры іх налічыш — і пойдзеш далей. Такая сабе бясплатная латарэя, дзе нічога не выйграеш. Адна брычка... другая... трэцяя... Ну, ідзі далей. Была ж дамоўленасць: толькі да трох.

Каб апынуцца на рагу вуліцы Пшэязд, трэба прайсці два дзесяткі крокаў. Месца, дзе Пшэязд уваходзіць у Пятркоўскую, вызначаецца асаблівай прывабнасцю. Два вядомыя кінатэатры глядзяць цераз вуліцу адзін на аднаго: шыкоўная «Люна» ў памяшканні таксама шыкоўнай «Тывалі», а насупраць, у невысокім будынку,— кіно «Адэон», якім загадвае бацька

твайго школьнага сябра, пан Бялкоўскі. Часамі здаралася прабрацца туды без білета. Заглянi ў хол «Люны» — гэта табе не вельмі з дарогі. Некалькі шыкоўных паноў і паняў, пах парфумаў і цыгар, шырокія сходы, пакрытыя пурпуровай дарожкай, люстры, пальмы, білецёры ў форме з пазалотай.

— А ты, смаркач, куды? На білет у цябе ёсць? Калі няма, дык прэч! — кажа парцье, да адных такі ветлівенькі, а да іншых такі хамула.

— Эх ты, падліза буржуйскі! — агрызаешся ты і выбягаеш на вуліцу.

З кухні «Тывалі», з сутарэнняў, церaз жалезныя краты даходзяць на тратуар выдатныя кухонныя пахі. Ты стаіш нейкую хвіліну, уцягваеш ноздрамі гэтыя пахі і глядзіш угару, праз вокны, на асветленую залу, дзе за столікамі сядзяць шыкоўныя госці.

Ты зноў на рагу. Іменна адгэтуль пачынаецца «дэптак». Ідзе ён левым бокам вуліцы ў напрамку старой ратушы. Тут гадзінамі — сюды-туды, ад Пшэязду да Дзельнай, ад Дзельнай да Пшэязду і зноў назад — валочыцца залатая моладзь з гарадскога цэнтра. Прыдзірлівая, крыклівая, ганарлівая, у элегантных паліто. Сашчапіўшыся пад ручку, то ціха, то подбегам шпацыруюць інстытуткі, то спакушаючы, то з каралеўскай гордасцю. Часамі прамільгне бела-чырвоная або вышываная золатам шапка студэнта, які наведаўся ў родны горад. У Лодзі няма вышэйшых навучальных устаноў, і таму студэнты карыстаюцца тут асаблівай пашанай і папулярнасцю, таксама як элегантныя курсанты афіцэрскіх вучылішч — падхаронжыя, па якіх аж млеюць гімназісткі. Трэба ўмець плаваць у гэтым бурным, як горны паток, натоўпе. З розных бакоў бесперапынна чуваць гучнае: «Здароў!», «Як маешся?»,

«Добры вечар!» — вітанні тых, што швэндаюцца тут кожны вечар. У цёмных пад'ездах паблісківаюць агеньчыкі папярос. У пераважнай большасці гэта скразныя пад'езды, у выпадку небяспекі можна драпануць на вуліцу Касцюшкі.

Хлебны магазін братоў Капчыньскіх. Трохі далей — вітрына, каля якой ты ніколі не можаш прайсці абыякава. Дубальтоўкі, штуцэры, дробнакаліберкі, пнеўматычныя стрэльбы, пісталеты, патранташы, скрынкі патронаў, паляўнічыя нажы... Якое ўсё гэта прыгожае, спраўнае, спакуслівае!

— Глядзі, бо стрэліць! — раве нейкі буйвал, піхаючы цябе на вітрыну. Праз момант чучала ваверкі знаходзіцца перад самым тваім тварам — толькі за шклом вітрыны.

Ідзі далей. Не паддавайся на правакацыю. Буйвал гэты без памагатых не ходзіць. Запомні толькі яго касцістую морду. Прыйдзе час — аддасі за сваё.

Ты вяртаешся. Пастой цяпер каля магазіна «Баця». Магнітам прыцягваюць твой зрок белыя, моцныя, разумна спраўныя, сапраўды мужчынскія футбольныя чаравікі, твая даўняя мара. Белыя тэнісныя туфлі, туфлі для гімнастыкі, для фехтавання, для турысцкіх паходаў, з усечанымі, цвёрдымі насамі, далікатныя дамскія туфелькі самых разнастайных колераў, нарэшце — мужчынскія туфлі з доўгімі, вострымі насамі, бліскучыя ад лаку. На гэтую мадэль ты глядзіш з пагардай. Такія іменна туфлі носяць адмоўныя героі з сатырычнага часопіса «Муха»: капіталістычная акула, буржуй дзядзя Сэм або славуты гангстэр Аль Капонэ. Такія туфлі носіць шмат хто з бацькоў тваіх сяброў па гімназіі.

У вітрыне — ты бачыш — адлюстроўваецца твар яшчэ аднаго разявакі. Усміхаецца. Гэта

Януш Главацкі, правафланговы з тваёй футбольнай каманды. Вы разумееце адзін аднаго, адчуваеце, чаго каторы хоча, нібы вы — пальцы адной рукі. Які гэта прыгожы, спрытны хлопец! Вочы, як іскры, усмешка, ад якой робіцца святлей. А як танцуе з мячом, пакуль не ўлупіць у самы цэнтр варотаў! Ты яго любіш, аднак і адчуваеш у ім найбольшага канкурэнта.

— Футболачкі, Філосаф, га? Трэба будзе на іх бабулю напусціць — на дзень нараджэння ці пад ёлачку. Пайшлі, браток, у «ЫМку» [1]— кнігу трэба памяняць, а потым, браток, падлабунімся да Міртэнбаўма. Во там ракеткі ды мячыкі!

Зацягнуў цябе ў «ЫМку». Чысценькія пакоі, светлыя лямпы, на сценах паведамленні, фотаздымкі, афішы. Маладыя шахматысты моршчаць ілбы над фігурамі. Януш капрызна, абыякава гартае тоўсты каталог і смяецца:

— Сама ў рукі лезе. Глядзі — я галодны, а тут якраз нейкі раман з такою назвай.

— А хто аўтар?

— На чорта тут аўтар! І так не буду чытаць. Абы толькі рух — абы я тут лічыўся.

— Дык дай мне дахаты.

— Бяры, браток, толькі не згубі.

Выходзіце з пад'езда на Пятркоўскую, і раптам Януш прападае з тваіх вачэй. Пачакаўшы хвіліну, ідзеш далей. За табою — я, твой цень, чым далей, то ўсё чарнейшы. Ты набліжаешся да агнёў найбольш раскошнага кінатэатра «Казіно». Не на тваю гэта кішэню. Але можна палюбавацца фотапартрэтамі. «Сёння Грэта Гарба! Жанчына-дэман! Страшэнная трагедыя...»

---

[1] «Ымка» — хрысціянская асветніцкая арганізацыя рабочай моладзі.

Ты стаіш на рагу вуліц Бенэдыкта і глядзіш праз церушэнне дажджу на вялікі, недаступны, таямнічы гмах Гранд-Гатэля. Не ідзі далей. Не варта. Далей агні ўсё слабейшыя, натоўп радчэйшы, усё менш ды менш моладзі, усё больш ды больш шэрых прахожых, трапляюцца ўжо і чорныя лапсердакі яўрэйскай беднаты, якая нясмела прабіраецца сюды з суседніх кварталаў крамак і ларкоў. А далей будзе толькі вялікая вітрына магазіна фірмы «А. І. Астроўскі», куды разявакаў прыцягвае прыгожая, чорненькая касірка. А яшчэ далей — кнігарня Тыбара і вуліца Дзельная.

Схавай кніжку за пазуху, бо мокне на гэтай імжы. А можа, вярнуцца па Алеі Касцюшкі? Шырока, прасторна, пуста. Ты паварочваеш улева, у цёмную вуліцу. Я — твой цень — прападаю на шэрым тратуары. Як жа цябе перасцерагчы, абараніць? Лепш вяртайся. Запозна... З цёмнага пад'езда выходзяць тры танклявыя дамы. У пафарбаваных вуснах папяроскі, на плячах злінялыя лісіныя каўняры. Ты ў акружэнні, як той мустанг.

— Можна ў вас прыкурыць?

— Я не куру,— адказваеш, абліваючыся гарачым потам.

— Лена, а ён з фабрыканцкай гімназіі.

— Можа, зойдзеш, хлопчык, на хвілінку да мяне?

— Прашу мяне прапусціць!

— Ідзі, ідзі на цёплыя ножкі. Не бойся.

Гэта тваё першае спатканне. І як жа нечакана страшна. Дрыжыш ад гэтага страху. Ад агіды. Распіхаеш гэтых дам і, як вар'ят, бяжыш у напрамку агнёў Пятркоўскай. Сэрца тваё грукоча, і ты запавольваеш бег, спыняешся. Вазьмі сябе ў рукі, супакойся. Нічога табе не пагражае. Ты вяртаешся на «дэптак». Тут,

у вірлівым натоўпе, ты адчуваеш сябе ў большай бяспецы.

— Дзе ж ты бадзяўся? Мо згаладаўся? — раптам звяртаецца да цябе Казік Казанецкі, працягваючы на прывітанне здаравенную руку.

— А ты здагадаўся! — [illegible] напускною весялосцю, у тон яму гаворыш ты і, як доказ, дастаеш з-за пазухі кнігу.— Глядзі, чытай: «Я галодны».

— Мяне ты гэтым голадам не купіш. Будзь! Я да Цырульскіх.

Ідзеш павольна і думаеш пра Казіка. Дзіўны хлапчына! Такі флегматык, ажно здаецца — ледзь ідзе, не разгінаючы каленяў. А на футбольным полі адразу ператвараецца ў выдатнага іграка. Мяч круціцца вакол яго, як сабака. А як ён, Казік, бегае!

Ззаду чуваць ляскание капытоў. Цябе пераганяе экіпаж. І раптам спыняецца. Гэта стары Барцінькі далікатна бярэ цябе за плячо, прыязна ўсміхаецца і кажа:

— Ці можна вас трохі падвезці? Вы мяне пазналі, праўда? Я хацеў бы вам штосьці сказаць.

Ты яго бачыў сяды-тады, калі ён падвозіў у гімназію свайго сына Марцэля. А прыемна ўсё-такі, што ён да цябе на «вы»?

— Антоні, едзь паволі,— сказаў Барцінькі фурману.— Можна зірнуць, што гэта ў вас за кніга?

Ты падаў.

— Ага! Жорж Фінк, «Я галодны». Я чытаў яе,— кажа, ікаючы ад перакорму.— Моцная кніга. Не ведаю толькі — камуніст гэты Фінк ці анархіст. Як вы думаеце?

— Не ведаю. Я яшчэ не чытаў.

— Камунізм... Вялікая праблема. Але не сёння і не ў нас.

— Не ведаю. Я, проша пана, у палітыцы не разбіраюся.

— Скажыце мне, калі ласка, але шчыра, як роднаму бацьку: ці не дакучаюць Марцэлю ў школе? Ён жа такі ўражлівы!

— А чаму яму павінны дакучаць? Ён жа сярод сяброў, аднагодкаў. Ды і хлопец жа ён, не дазволіць сесці на галаву.

— Ці не захацелі б вы даваць яму ўрокі? У нас дома.

— Дык ён жа вучыцца лепш за мяне.

— Вы ведаеце, тут уся справа ў польскай мове. Ён так непрыемна выгаворвае «л», а ў канцы сказа абавязкова павінен угару зацягнуць. Ну, і быў бы ў яго добры таварыш. Ён жа, ведаеце, такі самотны.

— Я павінен спытацца ў бацькоў. Але навошта гэта?

— Ну, вы падумайце. Я буду чакаць адказу. Марцэль гаварыў мне, што вы сябруеце з Айзенбраўнам. Я ведаю старога Айзенбраўна. А што, Барцінькія горшыя за іх? У нас таксама можа быць тэнісны корт. Паіграеце сабе, пагаворыце, то як?

— Я павінен спытацца дома... Вельмі дзякую вам, што падвезлі. Ужо мая вуліца, Наўрат. Да пабачэння.

— Да пабачэння!

Колькі здарэнняў, сустрэч, адчуванняў за адну гадзіну на тым «дэптаку» вуліцы Пятркоўскай.

Дзіўны горад наша Лодзь. Гавораць усюды: Манчэстэр, горад індустрыяльны, рабочы, рэвалюцыйны, горад чырвоны, горад беспрацоўя... Праўда, з вокнаў шматпавярховага дома відаць фабрычныя коміны, і тыя, што дымяць, і мёртвыя. Праўда, што ты спатыкаеш штодня на сваім Наўраце, на вуліцах Кілінскага або Сянкевіча параконныя вазы, высока

наладаваныя бавоўнай, скрынямі, вуголлем... Праўда, што кожны дзень ты прачынаешся ад працяжных і пранізлівых фабрычных гудкоў. Ты прыглядаешся, як па сцёках плывуць фабрычныя адходы, пераліваючыся рэзкімі колерамі вясёлкі... І ты таксама дыхаеш славутым паветрам рабочага раёна Відзаў. Праўда, многа тваіх сяброў па гімназіі — сыны фабрыкантаў, прозвішчы якіх ведае ўся Еўропа... Аднак у якіх сутарэннях хаваецца тая шматтысячная армія рабочых і ткачых? Вашы шляхі разыходзяцца. Як толькі адвыюць сваё фабрычныя гудкі, ты засынаеш зноў. Не бывае такога, каб ты сустрэўся з людзьмі, апранутымі ў шэрую, танную, замазучаную вопратку, людзьмі з зямлістым колерам твару і патрэсканымі, як высахлая гліна, далонямі; гэта немагчыма — у цэнтры горада, на тым «дэптаку» сустрэць жанчын у клятчастых хустках, з рукамі, дэфармаванымі вузламі жылаў. Не відаць іх у цэнтры горада, у кафэ, у садочку «Тывалі», у кінатэатрах, у філармоніі, у экіпажы, у парку, у галерэі, у вялікіх магазінах, чытальнях, бібліятэках, музеях. Гэта было б і дзіўна, і смешна. Для цябе і для іх. Яны хаваюцца ў змроку, імгле і цемры за шэрымі дошкамі спарахнелых дамоў і платоў у далёкіх, шырока раскінутых прыгарадных раёнах, у трагічна сумных, цагляных ці шэрых казармах баракаў каля фабрык, дзесьці на ўскраінах Аградовай, каля Воднага Рынка, у раёне Гурняка, за чыгуначнымі рэйкамі на Відзаве... Там, у сваю чаргу, няўпэўнена і дзіка адчуваў бы сябе на шпацыры панок з гарадскога цэнтра. Табе прыпомніліся тыя два акварыумы з гімназіі. Цэнтр горада — гэта вясёлкавыя рыбкі пад светлым абажурам. Не знаёмыя табе, далёкія прыгарады — гэта шэрыя пячоры чарапахі, размытыя бруднай вадой...

Праўда, некалькі разоў ты бачыў грозны натоўп рабочых у час крывавых першамайскіх паходаў. Аднак тады яны выглядалі інакш, чым у будзённыя дні, калі ты сустракаўся з імі, рабочымі, выпадкова. Апранутыя па-святочнаму, з чырвонымі бантамі на грудзях, з чырвонымі павязкамі на рукавах, з кійкамі ў руках, яны спявалі песні, змест якіх пранізваў цябе неспакоем. Адкуль бяруцца да тых суровых, страшных слоў такія прыгожыя, такія хвалюючыя мелодыі?

Калі мы да бою паўстанем са зброяй...

І гэты горды, разбуральны рэфрэн:

О чэсць вам, паны і магнаты,
За нашу няволю, кайданы,
О чэсць вам, князі і прэлаты,
За братнюю кроў на майданах!..

На чыім баку было тваё сэрца, калі на гэты натоўп раптоўна нападалі, павыскакваўшы з пад'ездаў, паліцэйскія і цывільныя і малацілі па галовах, па руках? Яны білі жывых, канкрэтных людзей, мужчын і жанчын. Хісталіся і ападалі на брук транспаранты, чырвоныя сцягі, падалі на каменне людзі... На чыім баку было тады тваё сэрца?

На нічыім. Або на кожным. Ты тады яшчэ быў пад ціскам, пад моцным уплывам фабрыканцкага асяроддзя, ты яшчэ верыў у праўду друкаванага слова розных там афіцыйных газет.

Аднак у душы тваёй адкрывалася рана, атрыманая яшчэ пасля таго дзікага мустанга, а ў вушах ажывалі дзедавы словы: «Што за жывёліна! Што за нягоднік!» Перад вачыма тваімі бялела рука з закасаным да локця ру-

кавом і дзіўна зацятая ўсмешка на твары Яся Турлейскага. Адплывала свабоднае воблака галубоў...

Чаго ён ідзе, гэты паход, сюды, у цэнтр горада, нібы спецыяльна пад капыты коннай паліцыі? Чаму ў песні магнатаў рыфмуюць з прэлатамі? Чаму ў воклічах чуваць слова «прэч!»? Чаму тады твае школьныя сябры не едуць па горадзе ў экіпажах, а робяцца маўклівымі, ветлівымі, чаму збіраюцца групкамі і шэпчуцца, і змаўкаюць, калі ты падыходзіш да іх? Чаму настаўнікі не дазваляюць у той дзень выходзіць на вуліцу?

Чаму ў тым паходзе не ўдзельнічаюць крамнікі з вуліцы Наўрат, Вілюсь і дворнік Мазурцзя, разбойнік з будкі з палівам, «шусед» з дома насупраць, рабы бандзюга з суседняй брамы, «квафар», пан Гродскі, парцье з «Люны», афіцыянты з «Эспланады»?

...Толькі адна гадзіна, праведзеная на «дэптаку» Пятркоўскай, а столькі здарэнняў, сустрэч, адчуванняў, думак.

А кніга, якую ты нясеш за пазухай, разліецца ў тваім сэрцы болем і сумам — надоўга...

## 7

— Хм.. Дык вы, пан Антоні, кажаце, што сесці не хочаце? Але ж гэта нязручна — так вось стаяць каля дзвярэй.

— Я на службе, пан начальнік. Пан старшыня Айзенбраўн не загадвалі...

— Што ж, як хочаце, пан Антоні. Калі хочаце, можаце і пастаяць. Дык, значыцца, яны не загадвалі? А што ж, калі так, загадвалі вам пан Айзенбраўн?

— Загадвалі, каб вы, пан начальнік, распісаліся, што атрымалі гэты пакунак і пісьмо.

— Мне загадвалі? А гэта ўжо нішто сабе!

— Ну, ведаеце... яны, значыцца, прасілі, каб вы, пан начальнік, распісаліся, а каб я гэтую распіску прынёс.

— А вы, пан Антоні, ведаеце, што ў гэтай пасылцы? Што там?

— Англійскі матэрыял на гарнітур, пан начальнік.

— Кажаш, англійскі. Хм... А дзе ж яго ткалі?

— На фабрыцы пана Айзенбраўна.

— Дык чаму ж ён англійскі, калі яго ткалі ў Польшчы, польскія рабочыя?

— Не ведаю. Так гаворыцца, пан начальнік.

Ты сядзіш за шафай і адчуваеш, як тваё вушы пульсуюць ад сораму за бацьку, які так бязлітасна муштруе элегантнага лакея. Табе сорамна за сціплую мэблю, за абшарпаныя сцены пакоя, за рыплівыя драўляныя сходы, за той несамавіты крык і смех у суседнім пакоіку-мансардзе, дзе твае брацікі ды сястрычкі гуляюць з дзецьмі з вашага двара. Праз шчыліну паміж шафай і сцяною ты бачыш, як бледны пан Антоні, у выдатна пашытым форменным гарнітуры, выпрастаўшыся, як яму і належыць па службе, стаіць каля дзвярэй. Ты чуеш бацькавы крокі,— ён шпацыруе, папраўляе свае акуляры і з-пад іх цікуе на пана Антоні дабрадушна і кпліва. Ты ўжо бачыш наперад, вачыма ўяўлення, як Антоні расказвае пану Айзенбраўну пра гэтую гутарку, як ён апісвае сціпласць вашай кватэры... Слухай далей.

— А чаму ж гэтая пасылка ды іменна мне?

— Гэта падарунак вашаму сыну на дзень нараджэння. Мусіць, у гэтым пісьме напісана.

— Скажыце, ды толькі ж дакладна, свайму пану, што я ніякіх тавараў у яго не заказваў. Калі закажу і прышлюць, тады я і распішуся.

— Але ж гэта падарунак, пан начальнік.

— Падарунак ён павінен прынесці сам, а не вамі перадаваць, пан Антоні. Што гэта за звычай — распісвацца за падарункі? А да таго ж я падарункаў ад пана Айзенбраўна не прыму. Я ж яго і ў вочы ні разу не бачыў.

— Але гэта нібы ад паніча Герта ды для сына пана начальніка.

— Хм, кажаш, ад паніча... А колькі ж вашаму панічу гадоў?

— Цяпер, пан начальнік, трынаццаты пайшоў.

— Дык ён што — працуе, зарабляе, што ў яго ёсць грошы на такія падарункі? Не сорамна яму быць такім шчодрым, высакародным з бацькавай кішэні?

— Вы разумееце, пан начальнік, як гэта робіцца...

— Дык вось вы і скажаце свайму пану, што я не разумею, як гэта робіцца. Вы даўно працуеце ў пана Айзенбраўна?

— Я служу ў майго пана, пачаўшы ад хлопчыка на пасылках да сённяшняга дня без перапынку.

— Хм... Я пытаюся, як даўно працуеце, а вы мне — што служыце.

— Дык гэта ж тое самае, пан начальнік.

— Ой, не! Вы трошкі памыляецеся. Служыцца толькі ў войску, і гэта справа ганаровая. Яшчэ абедня служыцца, але гэта ўжо самому пану богу.

— Я — з вёскі... і ў нас...

— А ведаеце, адкуль пан Айзенбраўн? Таксама прывандраваў сюды з нямецкай вёскі ў пошуках якой-небудзь работы.

Кожны бацькаў крок ты ўспрымаеш як удар малатка па тваёй галаве. Як паказацца заўтра ў школе? Што Герт падумае пра твайго бацьку, пра вас? Які страшэнны сорам! Гэты свой

дзень нараджэння ты не забудзеш ніколі. Вось яно, злашчаснае трынаццаць. Сядзіш тут прыгнечаны, злосны, не выбрацца з гэтай схованкі, а там, за сцяной, твае сябры і сяброўкі смяюцца, гуляюць у штосьці... Бацька шпацыруе і маўчыць зусім ужо непрыстойна, а элегантны пан Антоні стаіць каля дзвярэй і прымае ўдар за ўдарам, нібы на экзамене. Павінен жа ён, нарэшце, узлавацца і выйсці, стукнуўшы дзвярыма.

— Та-ак... І за пісьмо ён таксама загадваў распісацца?

— Казаў, здаецца...

— А скажыце вы мне яшчэ, пан Антоні, што гэта на канверце за знак такі: на шчыце залатая літара «А»?

— Гэта фірменны герб пана Айзенбраўна. Такі самы на экіпажы, і на маім фраку, і на посудзе.

— Кажаце, герб?

І праз момант, змяніўшы тон, дадае:

— Што ж, занясіце свайму пану назад гэты пакунак і пісьмо. І скажыце, што я не захацеў распісвацца.

— А як... што мне, пан начальнік, сказаць, што... ну, чаму так?

— Скажыце пану Айзенбраўну, што ў мяне ёсць шляхецкі герб «Радван», і ў сына майго таксама. Запомніце? А вы, пан Антоні, калі ў вас выходны будзе, заходзьце калі-небудзь прыватным чынам, на чаёк, на гутарку.

І ты адчуваеш сябе цяпер, як чалавек, якога ўратавалі ад землятрусу. Адчуваеш невымоўнае, ажно да болю, шчасце. Адчуваеш страшэнную гордасць за свайго бацьку, вялікую любоў да яго.

Цяпер ты ведаеш, што Герт будзе баяцца сустрэчы з табою. Што ты будзеш адчуваць тое самае ў адносінах да Герта і яго бацькі, як

твой бацька — у адносінах да пана Антоні. Ты паспытаў новае адчуванне, імя якога толькі цяпер пачуў: годнасць.

— Тата!

— Дык ты тут, свавольнік?

Калі ж ён правёў далонню па тваёй галаве, табе здалося, што памрэш ад шчасця.

## 8

Меця Гемер жыў у палавіне дарогі да твайго дома, адразу за шаўцом, да якога ты насіў рамантаваць чаравікі, у доме, які адмежаваны ад вялікага сквера двума маленькімі домікамі. Меця сядзеў у класе перад табою.

Ты глядзіш на яго ніколі не часаныя валасы, пакрытыя перхаццю, на яго твар, нібы немыты, увесь у вуграх. Чаму ў яго заўсёды такія заспаныя вочы?.. У Гемера не было сяброў. На перапынку ён заўсёды самотна стаяў у самым канцы калідора, каля туалета, і задуменна калупаў у носе. Хлопцы білі яго, тузалі, папіхалі. І ты — таксама. А ён нават не бараніўся. Сумна ўсміхаўся і ўцягваў галаву ў плечы. Вучыўся ён вельмі добра. Калі б не гімнастыка і спевы, якія псавалі яму табель паспяховасці, Меця быў бы адным з выдатнікаў. Бацька яго быў багаты, аднак «фінансавая эліта» не прымала яго ў свой хаўрус...

Гэта было некалькі год таму назад, калі ты выпадкова разам з ім вяртаўся дахаты. Абмінаючы прахожых, ты кешкаеш перад сабой нейкі асколачак каменя, з забабонным рашэннем дагнаць гэты каменны мячык ажно да чырвонага дома састарэлых і калекаў. Гемер валачэцца за табою, несучы твой партфель. Апошнім магутным ударам ты падкінуў камень да сцяны і з трыумфальнай усмешкай

глядзіш на Гемера. Гемер нічога такога не разумее. Ён зірнуў на цябе з-пад стомленых павекаў і спытаўся:

— Ты ўжо крышталік бачыў?

— Які крышталік? Ты што?

— Ну, такі, што калі дроцікам пападаеш на крышталік, дык праз навушнікі чуваць, як гавораць. Такое радыё.

— Радыё? Чуў я пра штосьці такое, але ж гэта не ў нас. Не бачыў я яго.

— Хадзем да мяне, дык я табе пакажу.

— Знайдзі другога дурня! Штраўс мне таксама казаў, што дома ў яго ёсць такі какосавы арэх, які ледзь улез у пакой. Зацягнуў мяне дадому, а той арэх такі, што ў жменю можна ўзяць. Там як быццам калісьці было малако.

— А ты зайдзі да мяне, дык я табе пакажу. Калі не будзе, дык можаш мяне адлупцаваць. Згода?

Ты зноў вядзеш перад сабою нейкі выпадковы каменьчык. І думаеш: «А як той Гемер жыве?» Бо ты ў яго яшчэ ніколі не быў. Вацак паказваў табе аднойчы, як у Гемераў на балконе зрабілі з дошак «кучкі».

— А твой бацька ў халаце ходзіць?

— Ты што? Ён атэіст. Пакуль была маці, датуль былі і кучкі, і кашэрная каўбаса, і маца, і хадзілі ў сінагогу слухаць кантара. А цяпер я не ведаю, як будзе. Ён кажа, што ён атэіст.

— А што, твая мама памерла?

— Не. Ён з ёю развёўся. Бацька жыве цяпер са сваёю каханкай. Яна мяне не любіць. Бацька таксама, чым далей, дык менш мяне любіць. Дае мне грошы, каб я ішоў у кіно.

— А такіх жа, як мы, адных у кіно не пушчаюць.

— Ён пра гэта не ведае. Ён хоча, каб я толькі з дому ішоў.

Яснае сонца схіліла з поўдня, пад нагамі рэзкія цені, а табе раптам здаецца, што цябе цягнуць у чорны, імглісты тунель, дзе цяжка дыхнуць. Упершыню робяцца для цябе канкрэтнымі такія словы, як «развёўся», «каханка», «атэіст», словы, якія калі-небудзь можа і траплялі ў твае вушы, але былі абстракцыяй, і то не з гэтага свету, не з нашай планеты. Як разбуральна, змрочна і нерэальна гучала слова «атэіст». Няўжо і сапраўды ёсць такія людзі? Як яны выглядаюць? Ты пытаешся:

— А ты ў бога верыш?

— Я ўжо ні ў што не веру...

Цябе як быццам нечым праштыхнулі. Крадком ты цікнуў на Гемераў твар.

— А чаго ж ты ходзіш да пана Шапіры на ўрокі рэлігіі?

— Ну, а адзнака мне, па-твойму, не патрэбна?

Праходзіце міма зялёнага сквера, магазіна з нажніцамі, сцізорыкамі, ланцугамі. Пасля — вялікі магазін пана Гемера, дзе за шклом вітрыны відаць таямнічыя дакладныя прыборы, інструменты з галіны электрычнай тэхнікі. Потым вас ахалоджвае засень доўгага пад'езда, і вы паднімаецеся па сходах на трэці паверх. Дзверы адчыніла касматая служанка, што так адразу і прычапілася:

— Чаму ж гэта сёння толькі ўдвух? Больш не набралі?

— У цябе не спыталіся. Давай на кухню,— бурчыць у адказ Меця. І адчыняе дзверы ў пакой. Кватэра вялікая, на шмат пакояў, бліскучая мэбля, каля балкона піяніна, на сервантах крыштальныя вазы, фігуркі розныя, на сценах карціны. Аднак усё тут у безладзе, запыленае, бруднае. З кухні даходзіць пах смажанай гусяціны.

— Хадзем у мой пакой,— кажа Меця.

І тут страшэнны безлад. Незасланая пасцель, на стале параскіданы кнігі, сшыткі, фарбы, забаўкі.

— Дык пакажы мне той крышталік.

Меця надзеў табе навушнікі і засяроджана корпаецца каля малога, бліскучага апаратіка. І цяпер табе чуваць нейкае пахрыпванне, патрэскванне, нібы нехта скрабецца пазногцем па кардоне.

— Ну і што? Лухта! — кажаш ты.

— Цяпер, відаць, няма перадачы. Перапынак. Калі не верыш, дык можаш мяне набіць.

У пакой раптам увайшоў пан Гемер.

— Здаровы, хлопцы! Давайце перакусім перад абедам.

— Але ж я, проша пана, павінен дахаты ісці, бо...

— Свет не скончыцца. Пайшлі, пайшлі!

Да абеду яшчэ далёка. Служанка прынесла на стол хлеб, масла, нейкія доўгія, сухія каўбаскі і — ажно мароз па табе пайшоў — беленькія, квадратныя кавалачкі мацы.

— Ты яшчэ не еў кашэрнай каўбасы,— гаворыць пан Гемер.— Не бойся, еш, гэта вельмі чыста зроблена. А маца амерыканская. Не грэбуй. Зірні на гэтую скрыначку. Гэта ж фабрычная работа.

Пан Гемер усміхаецца, паказваючы белыя, прыгожыя зубы. Яго чорныя валасы трошкі хвалістыя. Раз-пораз з-пад рукава пабліскваюць залатыя запінкі.

— Ну, што там у вас у гімназіі, хлопцы? — І ўсміхаецца.— Добра, што ты прыйшоў. Гэта ты — той Філосаф?

— Гэта ў класе так прыдумалі.

— Не бядуй. Гэта ж лепей гучыць, чым Рабы, як вы празвалі майго дарагога бамбізу. Вы яго там штурхаеце ў школе, праўда? Я пра-

шу цябе — ужо хоць ты не дакучай яму. Гэта добрае дзіця. Ён вельмі, вельмі няшчасны.

Абодвух вас залівае чырвань.

— Дык гэта ж толькі смехам,— кажа Меця.— І я ж яго б'ю!

У роце ў цябе поўна неразжаванай каўбасы, ты баішся яе праглынуць. Вымаеш з кішэні хустачку і, нібы выціраючы нос, выплёўваеш туды каўбасу.

— Быў у мяне ў магазіне ваш калега. Купіў некалькі частак для радыёпрыёмнічка. Сам яго хоча зрабіць. Метак, ты занясеш яму рэшту частак і навушнікі. Хай робіць. З яго яшчэ вырасце інжынер.

— Ён, тата, за так не возьме.

— Слухай, Філосаф! Ты вазьмі гэтыя часткі і скажы яму, што разам будзеце майстраваць. Як пачняце зарабляць, дык тады і заплаціце мне. Добра? Прыйдзі яшчэ да нас пасля абеду, дам я вам, хлопцы, па два злоты, на кіно, на марожанае...

— Мне няможна ні ад каго браць грошай,— кажаш ты, апускаючы галаву.

— А мама можа пра гэта і не ведаць. Скажаш, што ідзеш да Меці ўрокі рабіць.

— Але ж мне няможна лгаць.

— А ў школе вы настаўнікаў не ашукваеце? Калі мне так, як вам, было дзесяць-адзінаццаць год, дык я заўсёды цягаў у бацькі з шуфляды,— тады яшчэ царскія капейкі былі,— на шакалад і цукеркі. Ні бацька не стаў ад гэтага банкрутам, ні мне аніякі там пан бог галавы не адкруціў. Жыццё — гэта жыццё. Інакш чалавек прападзе. Ну, дык прыйдзеш?

— І пан бог вас ніколі не пакараў?

— Эх, дзеці, дзеці! Скажу табе на вуха: ніякага пана бога няма, бога выдумаў сам чалавек.

Ты быў уражаны гэтым. Табе зрабілася сумна. Крадзеж, мана, каханка, развод — які гэта іншы свет, не твой... Цёмны, трагічны, заблытаны...

Уладак Пазьдзей сканструяваў апарат. Твой удзел заключаўся толькі ў асісціраванні. Памятаеш, як уся сям'я недаверліва прыглядалася да вас, калі вы падвязвалі дрот да стальной сеткі ложка, а другую драціну цягнулі па калідоры ажно да крана над ракавінай, ужо на лесвічнай пляцоўцы? Ты і на момант не верыў, што з гэтай блытаніны дроцікаў і штэпселяў можа праявіцца чалавечы голас з далёкай прасторы. Вы надзелі навушнікі. Уладак абмацваў дроцікам шэры каменьчык крышталю. І раптам... сэрца тваё моцна забілася. Ты чуеш, чуеш выразна песню, потым нейкі мужчынскі голас паведамляе, што праз хвіліну Жазефіна Бакер, славутая чорная спявачка, будзе выконваць папулярную песню...

— Тата! — крычыш ты.— Тата, паслухай, спявае! — І ты прыстаўляеш да бацькавага вуха адзін навушнік. Бацька ўсміхаецца, а ты прыціскаешся шчакой да яго шчаціністага твару, і вы зачаравана слухаеце:

Jái deux amours... [1]

У пакоі такая цішыня, што рэшта сямейнікаў чуе з навушнікаў ціхі, прыгожы голас спявачкі. Усе ўсміхаюцца. Уладак Пазьдзей засяроджана моршчыць лоб, на які ападаюць яго светлыя валасы.

— Калі ў нас будзе доўгая спіральная антэна,— паведамляе ён,— дык будзе чуваць яшчэ лепш.

---

[1] У мяне два каханні... *(франц.)*

— Бачыш, Франц,— кажа мама,— тэорыі Гейста рэалізуюцца. Можа, дажывём яшчэ, што адлюстраваныя ад планетаў вобразы, падзеі нашай гісторыі мы будзем глядзець на экраніках.

— Ага, у бяздонным касмічным басейне памесціцца ўся хроніка зямной гісторыі,— кажа бацька.

— Дык можна будзе ўбачыць і караля Баляслава Храбрага — як ён секануў мячом па Залатых Варотах?

— Невядома. Але цяпер, пры такіх тэхнічных адкрыццях, усё робіцца праўдападобным. Вазьмі такі бяздротавы тэлефон або кіно. Хто ж пра гэта падумаў бы ў нашы маладыя гады! Гэта ж не так даўно мой бацька ў Дуброўцы першы купіў газавую лямпу. Уся ваколіца зыходзілася паглядзець, як гэта ў бутэльцы святло гарыць.

— Я Уладаку трохі памагаў рабіць радыё,— хвалішся ты.

— Ах ты, мая галоўка на пазалоту! — усміхаецца мама.— Можа, хоць цяпер возьмешся за табліцу множання.

Тэхніка. Новае слова. Чужое, незразумелае, сухое. Штосьці адтуль, з урокаў працы, дзе ты прымушаў сябе быць цярплівым, калі вы клеілі з дошчачак мадэлі самалётаў.

---

Праз некалькі гадоў...

Першы дзень новага навучальнага года пасля канікулаў у бацькавых родных мясцінах, над Нёманам і Шчарай. Бацька раптам вырашыў перавесці цябе з Купецкай гімназіі ў Гарадскую, што на вуліцы Сянкевіча. Не так далёка ад дому. Са славутай, выдатна абсталя-

ванай гімназіі на вуліцы Дзельнай — раптам на самае дно, да «бульбаедаў», да прыгарадных жулікаў, у адзіную гімназію, дзе няма формы, да тых маладых выўратоўцаў[1] і крыміналістаў, як гаварылі пра гэта ў **тваёй** гімназіі, якой ты ніколі не здрадзіш, як гаварылі пра тых галадранцаў у сем'ях тваіх сяброў. Нікога ты не ведаў у гэтай новай гімназіі — ні сярод вучняў, ні сярод настаўнікаў. Відаць, нямногія з іх жылі ў цэнтры горада, а рэшты — як іх пазнаеш без форменнай вопраткі? Чужы, незнаёмы свет прыгарадных раёнаў...

На табе — прыгожая форма **сваёй** гімназіі, толькі што без пазалоты галуноў. Ты адчуваеш сябе як разжалаваны афіцэр, дысцыплінарна сасланы ў чорную драбнату. Ты ідзеш памалу, заглядзеўшыся на мяне — на твой цень. Жаласлівы сум і боязь паланілі тваё сэрца.

Дворнікі палліваюць вуліцу, кожны ў сваім раёне дзеяння. Сям-там паблісквае вапнай броўка каля вадасцёку. Здалёк чуваць трагічнае гуканне пілігрыма-анучніка: «Гандль! Гандль! Талерачкі за ануч!.. Анучы! Анучы!..» Ты мінаеш пякарню, домік Сувалы, Вілюся ў скураным пярэдніку, уздымаешся вачыма на вышэйшыя паверхі дома на рагу, туды, дзе жыве Фляйснер, і раптам — як гром з яснага неба:

— Філосаф! Філосаф! Сядай! Бо спознімся!

Гэта крычыць Герт, лупячы па спіне фурмана, каб той затрымаў экіпаж. Ты падыходзіш памалу. Становішся адной нагою на балотнік і кажаш, стрымліваючы слёзы:

— Я ўжо не буду хадзіць у нашу гімназію.

— Сядай. Няма калі жартаваць.

---

[1] Выўратовец — чалавек, які вядзе падрыўную, антыдзяржаўную дзейнасць.

— Гэта факт. Будзь здароў, Герт!

Ён трымае цябе за руку, і ты бачыш, як у яго пачынае дрыжаць падбародак.

...Гэты момант ты затрымай і замацуй у памяці назаўсёды,— тут пачынаецца пералом у тваёй свядомасці, у тваім жыцці,— ты развітваешся з адным светам, выходзіш насустрач свету другому, з варожасцю ў душы, з недаверам, з поўным няведаннем яго.

Прыгожыя гнядыя коні нецярпліва ўстрэсваюць галовамі, фурман у багатай ліўрэі сядзіць, выпрастаўшыся, у чаканні загаду ехаць далей. Стройны Герт, загарэлы ад венецыянскага сонца, моцна трымае тваю руку. Твар яго ўздрыгвае ад хвалявання. Ты, з адной нагой на балотніку, з другою на бруку, хаваеш вільготныя вочы пад казырком. Колючы ў вочы, блішчаць на сонцы залатыя эмблемы са стылізаванай літарай «А». На другім плане — ажыўлены рух прахожых. Штораз, то ўсё бліжэй грукат вазка на жалезных абручах і трагічны біблейскі запеў: «Гандль! Гандль!..» За тваёй спіною скрыгочуць жалюзі, уздымаючыся на вітрыне музычнага магазіна Лесінга. Направа — перспектыва вуліцы Сянкевіча з не бачным адгэтуль гмахам Гарадской гімназіі, што хаваецца за вартавымі-каштанамі. Экіпаж крануўся...

Гэты пералом, гэтую мяжу двух светаў ты зразумееш пазней, калі пачнеш даводзіць да ладу нагрувашчаныя ў табе факты, здарэнні, адзнакі, сімвалы.

...У прыгожай прасторнай зале гоман і шум. Нечаканасць — школьны аркестр іграе нацыянальны гімн. У актавую залу ўваходзяць сця-

ганосцы і ўздымаюцца на прасторнае ўзвышэнне. І зноў нечаканасць — пасля нацыянальнага гімна ўсе, таксама стоячы, спяваюць школьны гімн. Ты стаіш у натоўпе чужы, самотны. Ды вось і да цябе даходзіць нейкае ўзрушэнне, калі ты пачынаеш пранікаць у словы рэфрэна:

Бо той не ведае жыцця,
Хто не вучыўся ў нашай школе...

І ў табе пачынае разбурацца перакананне, што ты ўсё на свеце ведаеш, і ў галаве тваёй, як зняволеная птушка, горда і настойліва гучыць сцверджанне, што і сапраўды: «Не ведае жыцця, хто не вучыўся ў нашай школе...»

## 10

— Татка за ручку не прывёў?
— Ты сам прыйшоў, пехатою?
— Заткніся, а то я заткну!
— Уладак, не лезь, гэта свой хлопец. Калі згубіць гэты мундзірчык ды будзе пад гальштукам...
— Суслік, ты сядзеш з ім. Трэцяя парта, першы рад.
— Глядзі, каб снеданне тваё не зжэрлі.
— У футбол гуляеш?
— Гуляю.
— Слабаваты ты з выгляду на гэта. Застанься пасля ўрокаў. Паглядзім.

Клас вялікі, сонечны, праз акно відаць школьная спартыўная пляцоўка, а за ёю парк імя Сянкевіча. На сцяне, над чорнай плямай дошкі, крыж, а ніжэй партрэт прэзідэнта. На другой сцяне Касцюшка, Капернік, Шапэн і

Міцкевіч. У кутку — паскручваныя ў рулоны карты.

Званок. І вось ён — першы ўрок з класным. А для цябе першы ўрок салідарнасці.

— Ваш клас,— гаворыць класны,— павінен быў праз тыдзень выехаць на дзесяць дзён, пакуль цёпла, у Гротнік, з прафесарам Крэчмарам, дзе вы меліся праслухаць некалькі лекцый з прапедэўтыкі астраноміі. Рашэнне пра ваш выезд я мушу, на жаль, адмяніць, пакуль не высніцца адна справа. Хто з вас пачаў свой палітычны год вось гэтым плакатам?

Ён узняў угару кардон з надпісам: «Прэч санацыю! Падлізнікі — у будку!»

— Пра ўсё можна дыскутаваць,— гаварыў далей класны.— Пакарання заслугоўвае толькі арфаграфічная памылка: па-польску ў слове «будка» пішацца літара «у» звычайнае, а не «о» з рысачкай. А што за хамскі малюнак? Віншую вас з культурнасцю! Гэта вісела на дзвярах вашага класа. Хто гэта зрабіў? Няхай адважыцца прызнацца.

Поўная цішыня.

— Калі вінаваты не выявіцца, з вашай паездкі нічога не атрымаецца. Будзеце мець магчымасць падзякаваць яму за гэты падарунак.

Класны вядзе сваім быстрым, разумным позіркам па тварах вучняў. Нарэшце злосна кажа:

— Куджальскі! Ты не можаш нічога на гэтую тэму сказаць? Гэта вельмі ж у тваім стылі. У мінулым годзе ты за такія штучкі вісеў на валаску.

Куджальскі стаяў з апушчанай галавой і маўчаў.

— Ну, я чакаю яшчэ адну мінуту.

Тады ў тым радзе, што ад акна, павольна, лена падняўся джэнтльмен, поўнасцю, да ўсіх драбніц элегантны, з прыгожай прычоскай, абцягнуў крыссе пінжака і пачаў паволі зашпільваць гузікі. Светлы, інтэлігентны твар, па якім блукала ўсмешка. Ён адкашляўся коратка і прамовіў нізкім аксамітным голасам:

— Гэта я, пан прафесар.

Класны прыкметна разгубіўся ад нечаканасці, відно было, што ён ані не верыць гэтай заяве, таксама як не верыць ёй увесь клас.

— Маераноўскі, навошта табе гэты гераізм? Гэта ж не ты зрабіў.

Маераноўскі зноў коратка кашлянуў і спакойна сказаў:

— Прашу прабачэння, але гэта ўжо не датычыцца пана прафесара. Вінаваты знайшоўся. Паездка можа адбыцца.

— Маераноўскі, падыдзі сюды.

Той, не спяшаючыся, з усёй дыпламатычнай элегантнасцю падышоў да кафедры.

— Ты вырашыў справу паездкі. І я хачу аддаць табе свой мандат: ты будзеш ад майго імя кіраваць класам у час вашага знаходжання ў Гротніку. Сядай.

Ці ж такое магло б здарыцца ў той гімназіі? Ты адчуваеш, што тунель твайго ўяўлення заблакіраваны вялікім валуном... А цяпер прыпомні, што сказаў класны пасля свайго дзіўнага рашэння?

— Бо ты, Маераноўскі, даспеў да разумення адказнасці і салідарнасці.

Ашаломлены, напоўнены ўражаннямі і спрэчнымі пачуццямі, вяртаешся ты дахаты. Неўзабаве цябе даганяе хтосьці з сяброў па класу. Высокі, з абаяльным, інтэлігентным тварам, з прывабным, трохі кплівым позіркам. Раз-пораз ён папраўляе светлыя валасы, якія неяк спрытна ападаюць на яго лоб. Хлопец

глядзіць на цябе нібы трохі іранічна, прыжмурыўшыся, але смяецца так прыемна, што ты адразу адчуваеш сімпатыю да яго.

— Па Наўраце?

— Па Наўраце,— адказваеш.

— Ну, дык пройдзем трохі разам. Я — Юзаф Міхна. Як спадабалася новая гімназія? — смяецца ён.

— Не ведаю. Усе пакуль што незнаёмыя. А хто гэты Маераноўскі?

— Петроній, энцыклапедыст нашага класа,— усміхаецца ён.— Трэба ж было камусьці падставіць самога сябе за Куджальскага, бо таго ўжо абы за што могуць выкінуць. Прафесар Лоранц мае добрае вока, добра цаляў,— і зноў смяецца.— Маераноўскі, салідная фірма, чыстая анкета...

Ты спыніўся каля пад'езда свайго дома.

— Што, тут жывеш? Блізка хадзіць? А ў мяне яшчэ кавалак дарогі, да Злотай. Ну, бывай!

— Бывай!

— Ага, хвілінку. Прыходзь а шостай у гімназію і вазьмі чаго-небудзь з сабою.

— Дык яна адчынена? Што там сёння?

— Як гэта што? У нас гімназія, калі папраўдзе, пачынаецца толькі ўвечары. Тое, што зранку — гэта толькі праверка наведвання і праграма для зубрылаў. Калі ёсць у што, дык лепш пераапраніся ў цывільнае. У гэтай форме з Купецкай будзеш смешны сярод нас. Бывай!

— Бывай!

Ты стаіш і глядзіш, як ён пайшоў, пацягнуўшы свой доўгі цень.

## 11

...Ты зноў стаіш перад гмахам гімназіі. У старым бацькавым пінжаку, які ён, выязджаючы, пакінуў. Глядзіш здзіўлена, што ўсе вокны гмаху напоўнены святлом. Зверху, з-за вялікіх акон актавай залы, чуецца рэзкі шолам духавых інструментаў. Уваходзіш у будынак з боку спартыўнай пляцоўкі. Азіраешся пільна і няўпэўнена... Табе няёмка трохі ў гэтым старым пінжаку з караткаватымі рукавамі і ў пацёртым гальштуку. Дзе тут, у гэтым светлым лабірынце, шукаць таго Міхну? Асцярожненька адчыняеш дзверы адной з залаў на першым паверсе. Бачыш — чытальня перыядычных выданняў. Чалавек дваццаць вучняў, відаць, з розных класаў, сядзяць за доўгім сталом. Чытаюць. Да цябе падыходзіць нейкі нізкі, нягеглы юнец, крыва задзірае ўгару твар і пытаецца металічным голасам:

— Вы з Наўрата, праўда? Я жыву на некалькі дамоў далей. Я — Адлер. З таго самага класа, што і вы.

— А перад абедам вас не было? — пытаешся ты.

— Не, я не мог,— адказвае ён, таямніча ўсміхаючыся.— Пагартайце пакуль што. Я тут увечары заўсёды. Мне Міхна гаварыў пра вас. Ён на трэцім паверсе, у літаратурным гуртку.

Такой багатай чытальні газет і часопісаў ты дагэтуль не бачыў. У той гімназіі наогул не было чытальні. Ты глядзіш на паліцы, на сталы, засланыя мноствам вядомых і не вядомых табе газет розных палітычных кірункаў, правых і левых, штодзённых і тыднёвікаў, сатырычных, літаратурных, навуковых выданняў. Нават і на замежных мовах — нямецкай, англійскай, французскай... Мазаіка колераў, фар-

матаў, моў, тэматыкі... Уся геаграфія Польшчы, геаграфія палітычных напрамкаў і светапоглядаў. Пералічыць усе газеты і часопісы проста немагчыма. Табе дзіўна, што ў школьнай чытальні так свабодна, бяскарна чытаюцца выданні, пра якія ты так нядаўна яшчэ чуў столькі варожага і пагардлівага. Гэта — «Работнік», «Чарно на бялым», «Левар», «Сыгналы». Няўжо тут усё дазволена?

Ты выходзіш з чытальні ашаломлены. На супрацьлеглых сценах — вялікія шчыты, абвешаныя паведамленнямі: навуковы гурток, кааператыў, філасофскі гурток, літаратурны гурток, хімічны гурток, курсы бухгалтэрыі і стэнаграфіі, матэматычны гурток, спартыўная секцыя, бюлетэнь навуковага гуртка, фатаграфічная секцыя, гістарычны гурток, краязнаўчы, мастацкі... Галава ідзе кругам. На другім паверсе цябе сустракаюць дзве вялікія скульптуры: Апалон і Мінерва; у калідоры — стол для гульні ў пінг-понг. Нейкі момант ты стаіш, прыслухоўваючыся, як раўнамерна цыкаюць ракетка і маленькі белы мячык.

Па сходах уздымаешся на трэці паверх. Балюстрада, вялікія дзверы ў актавую залу. Адчыняеш іх і асцярожна ўваходзіш. Групка вучняў, распрануўшыся да трусоў, намазвае масцікай і націрае да бляску прасторны паркет. Направа, на ўзвышэнні, сядзіць каля пюпітраў духавы аркестр, слухаючы заўвагі дырыжора. Відаць, што гэтыя дзве групы — націральнікі і музыканты — адна адной не перашкаджаюць.

Тут да цябе падыходзіць замазаны пастай галыш і бесцырымонна пытаецца:

— Новы?

— Новы.

— Матэматыка лезе ў ваш чарапок?

— Слабавата. А што?

Тады ён крычыць праз усю залу:
— Пане прафесар! Яшчэ адзін у аркестр!
Дырыжор раптоўна паварочваецца, бліснуўшы акулярамі, і адгукаецца:
— А ну, ідзіце абодва сюда!
— Скажы, што іграеш на якой-небудзь дудцы, дык будзеш мець палёгку ў матэматыцы,— шапнуў табе галыш.
Перапалоханы, ты падыходзіш да ўзвышэння.
— З якой, хлопча, школы сюды?
— З Купецкай.
— На якім інструменце іграеш?
— На скрыпцы, пане прафесар.
— А дзе ж ты навучыўся?
— Дома. Мне даваў урокі пан Гольц.
— А, гэты... Ну, добра. А ты часамі не іграў у Купецкай гімназіі ў духавым аркестры пана капітана?
— Іграў. На карнеце.
— Ну, дык садзіся, хлопча, за пюпітр.
— Але ж, пане прафесар, я тут дамовіўся...
— Дык прыходзь у сераду а шостай на рэпетыцыю.
Ты адступаеш з актавай залы на калідор. Як тут усё адразу вырашаецца, на хаду. Што за дзіўная гімназія!
А вось і пакой літаратурнага гуртка. На партах паразвальваліся яшчэ не знаёмыя табе аднакашнікі. Во, тут і Міхна. З іранічнай, мілай усмешкай ён адгортвае з ілба валасы і кажа:
— Ну... прыйшоў. Добра. Пазнаёмцеся, хлопцы.
Ты адчуваеш, што пра цябе тут ужо гаварылі.
— Вы, калега, вучыліся дагэтуль у Валяноўскай і Лясацінскага?
— Так.

— Гэта нядрэнная школа польскай мовы і літаратуры. Я — Вагнер.

— Крыніцкі.

— Нямірскі.

— Тадэвуш Кляновіч.

— Гузік.

— Маераноўскі. Ды мы ўжо ведаем адзін аднаго па класе.

— Куляк.

— Паехалі далей,— гаворыць Вагнер. Па твары яго перасмыкаюцца нервовыя маланачкі.— Праз тыдзень у нас павінен быць гатовы «Бюлетэнь». Калега Міхна, калі вы, нарэшце, дамовіцеся з Уладзіславам Стшэміньскім? Якое-небудзь інтэрв'ю з ім, размова на тэму яго творчасці, на тэму іх паэтычнай групы. Ці ёсць у вас тыя два томікі: Бжанкоўскага і іншы?

— Калі, вы кажаце, дамоўлюся? Летась не я падвёў, а Стшэміньскі...

— Ну, ну! А перапрошваць вас ён часамі не прыходзіў? Магамет і гара. Я спадзяюся, што вы яго не збіраецеся дакараць. Не такія, як мы, марочаць яму галаву. Можа, параўнаеце яго погляды з сённяшняй выстаўкай у галерэі мастацтва? Гэта можна эфектна зрабіць — сутыкненне дзвюх плыняў.

— Я не вельмі ведаю прафесійную мову мастакоў,— кажа Міхна.

— Вазьміце на дапамогу Міхальскага. Леан, паможаш яму?

— Я прапаную, сябры, каб у сувязі з гэтай тэмай наш мастацкі гурток выставіў у актавай зале работы сваіх уласных багамазаў. Як павашаму? — кажа Міхальскі, міргаючы цяжкімі вейкамі.

— Калі хочаце, каб адлупцавалі, дык выстаўляйце. Гвіздка ахвотна і хлёстка зробіць гэта.

— Казлоўскі і Куляк, што вы прапануеце для мастацкага чытання?

— Ну...— паволі, прыгожым голасам адгукаецца Казлоўскі,— у мяне... меладэкламацыя. Ужо амаль падрыхтаваў Стафа, ведаеце гэта: «Дождж звоніць па шыбах», пад шапэнаўскую прэлюдыю і, магчыма, Норвідаў «Раяль Шапэна». Мне трэба толькі апрабаваць раяль. Відаць, што з Шыхоўскім будзе найлепш.

— Дык ты ўжо даводзь з ім справу да канца. А калега Куляк?

— Заўжды гатовы. Зэгадловіча «Бяскідскі валацуга» і Тувімава «Будавалі белы дом». Абы мне толькі ўдалося.

— Паслухайце, хтосьці павінен абавязкова напісаць, прычым — выдатна напісаць, рэцэнзію на «Сагу пра Фарсайтаў» Галсуорсі. Ёсць жа гэта ў нашай бібліятэцы.

— Я магу напісаць. Рэч капітальная,— кажа Кляновіч.

— З гэтым, значыцца, у парадку. А ты, Рафал,— звяртаецца Вагнер да худога, цыбатага, чорнага Крыніцкага,— як заўсёды, зробіш агляд літаратурнай і культурнай перыёдыкі. Але, ведаеш, каб не адна толькі рэгістрацыя здарэнняў. А калі табе кааператыў купіць білет у тэатр Пілярскага, дык можа і рэцэнзію на спектакль напішаш? Здолееш?

— Калі білет дасі, дык і здолею. Але магу цэлы тыдзень смярдзець, бо на гэтым спектаклі сынкі багацеяў закідваюць сцэну тухлымі яйкамі.

— Калега Гузік, а вы што прапануеце?

— Я магу зрабіць рэпартаж з лодзінскага «дэптака». Але хачу агаварыцца — без лакіроўкі, груба і малацэнзурна.

— Гэта нам якраз заўсёды і трэба, толькі ўжо не залішне рабі сакавіта. Можна лічыць — дамовіліся цвёрда?

— Ды цвёрда... Тыдзень трэба...

— А калега Маераноўскі?

— Што ж я... Можа, якую-небудзь рэцэнзію па музыцы, з канцэрта ў філармоніі...

— Ёсць яшчэ якія-небудзь прапановы? — пытаецца Вагнер.

— Ёсць жа ў нас Нямірскі. Няхай ён дасць канцэрт на ксілафоне, у суправаджэнні сімфанічнага аркестра. Філармонія яго нойме, а ў нас ён пройдзе ціхай сапай,— гаворыць Садоўскі.

— Я ахвотна, але як з тым аркестрам? Вам здаецца, што Кралькоўскі адрэпеціруе за адзін тыдзень? Гэта смешна! Прашу вас, аднак,— праз шэсць тыдняў! Няхай Бартчак напусціць прафесара Кралька, то ў той наступны «Бюлетэнь» можа і паспеем. Але не цяпер.

— Ага, прашу прабачэння, тут сярод нас яшчэ адзін калега, новы,— кажа Вагнер.— Вы павінны з нечым увайсці таксама. Пакуль што толькі рэцэнзіі, музыка, мастацкае чытанне. Прыдалося б, калега, і што-небудзь больш істотнае...

— Я згодзен, але не ведаю, ці паспею. Баюся абяцаць.

— А што вы прапануеце?

— Я сабе корпаўся над такою тэмай: «Плынь праметэйскай паэзіі» па лініі Эсхіл — Шэллі — Міцкевіч. Можа, хіба гэта залішне па-школьнаму? — гаворыш ты.

— Тэма — заўсёды тэма, калега. Можна яе толькі вырашыць па-школьнаму, як сачыненне ці дакладзік. А нам не тое трэба. Каб вас не палохаць з самага пачатку, будзем лічыць, што вы — запасны ігрок. Паспееце напісаць — добра, а не, дык дапоўнім праграму джазавым ансамблем Хватаў... Калегі, спатыкаемся праз тыдзень на рэпетыцыі. Праз два тыдні «Бюлетэнь» у актавай зале. Афішы і запрашэнні для

вучняў з іншых гімназій падрыхтуе Марыян. Прывітанне!

З гмаху гімназіі ты выходзіш з Міхнам і Гузікам. Абодва з твайго класа. Абодва, відаць, твае сябры. Ужо тым часам позні вечар. З боку парку імя Сянкевіча чуваць трашчоткі дворнікаў, якія выпрошваюць людзей перад тым, як зачыніць паркавыя брамы. Імгла. Бледнае святло вулічных ліхтароў. У табе яшчэ працуе рэжымны аўтамат: «Пасля дзевяці гадзін вучням няможна хадзіць па горадзе без бацькоў».

— Ці нас тут хто не прыловіць? — пытаешся ты.

— Няма на нас такіх дужых,— смяецца Міхна.— Мы ў цывільным. На кожны выпадак май толькі спартыўную шапачку ў кішэні — замест форменнай.

— А хто гэты Вагнер? — пытаешся ты.

— Інтэлігентны тып. З сёмага класа. Рэдактар «Бюлетэня навуковага гуртка». Ужо гадуе сабе наступніка, Тадэвуша Кляновіча. Таксама здольны.

— А Куляк?

— Гэты з нашага класа. Ён іграе ў тэатры на Цагельнай. Зусім нядрэнны акцёр. Хлопец павінен падзарабляць, бо дома беднасць страшэнная.

— Як жа так — школа яму дазваляе? — здзіўляешся ты.

— Як трэба, дык і можна,— кажа Гузік.— У нашай гімназіі на такія рэчы глядзяць праз пальцы. Будзеш бачыць, што, як толькі пачнуцца сезонныя работы па каналізацыі, у школе здарава пасвабаднее, як у час эпідэміі. Кожны павінен зарабіць на чаравікі, кніжкі, дапамагаць дома, калі бацька без працы. Хваты іграюць у джазе ў «Эспланадзе», а ты пытаешся, ці можна ўвечары хадзіць па вуліцы.

У нас ніхто не чапляецца. Відаць, браце, што ты яшчэ жыцця не ведаеш. На ўсім гатовым у таты ды ў мамы?

— Прамазаў. Я жыву з малодшым братам і сястрой, адны. Бацькі ў Навагрудку.

— Але грошыкі шлюць?

— Вядома, шлюць. Аднак усё мы павінны самі рабіць: варыць, прыбіраць, мыць бялізну.

— Ну, а ўсё ж, калі сястрычка ёсць... А яна што робіць?

— Вучыцца ў Пэнткоўскай і Мацінскай.

— Во, дык нішто сабе. Ёсць чым плаціць.

— Ты зноў прамазаў. Мы не плацім.

— Відаць, цётка — дырэктар гімназіі?

— Нарэшце папаў.

Утрох вы смяяцеся. Ты спыняешся каля свайго пад'езда.

— Ну, да заўтра!

— Да заўтра!

Ты адчуваеш, што Гузікава рука, калі ты трымаеш яе, развітваючыся, худая, лёгкая, як рука старэнькай бабкі. І вільготная. Ты глядзіш яшчэ на яго твар пры святле ліхтара... Бледныя, худыя шчокі, на лбе і каля вуснаў сетка маршчын, шырокія мяшкі пад вачыма. Праз вузенькія шчыліны веекаў глядзяць на цябе стомленыя, сумныя вочы. Відаць, сёння ноччу ён будзе пісаць свой фельетон пра лодзінскі «дэптак». Ты глядзіш сябрам услед і ўсё яшчэ чуеш голас Гузіка, з пераходамі з баса на дыскант і наадварот:

— Дык што, Юзак? Можна сёння пераначаваць у цябе? Бо мне няма як і няма чаго вяртацца дахаты...

І табе зноў прыпамінаюцца словы школьнага гімна: «Бо той не ведае жыцця...»

## 12

Некалькі разоў на год да вас з'яўляўся ў адведкі дзядзька Янак, брат тваёй мамы. Было гэта звычайна на нейкае сямейнае свята, дні нараджэння ці гадавіны. На параконнай брычцы — вельмі ён коней любіў — дзядзька ўязджаў у двор і, абвешаны тысяччу пакункаў і пакуначкаў, праціскаўся ў вашу кватэру, гаманлівы, вясёлы, заўсёды з усмешкай ці з рогатам. Яго французскае «р» прыдавала дзядзькавым жартам ды анекдотам спецыфічную афарбоўку.

Ты любіў гэтага элегантнага, легкадумнага дзядзьку. Зрэшты, яго любілі ўсе, асабліва моладзь, з якою ён заўсёды быў у змове, любіў арганізоўваць розныя школьніцкія штучкі і сямейныя скандалы. Дзядзька Янак быў багаты. Даволі часта выязджаў ён з цёткай за мяжу, на модныя курорты, а калі вяртаўся, дык прывозіў вам якія-небудзь прыемныя падаруначкі. Траіх сваіх старэйшых дзяцей паслаў ён здабываць вышэйшую асвету ў Варшаве. Часамі дзядзька браў вас у сваю лёгкую брычку і вёз на экскурсію ў прыгарадныя Лагеўнікі ці ў тушынскія лясы. Ён быў старшынёю ў розных таварыствах, кампаніях, клубах.

Ты не прадчуваў, што ў выніку розных сямейных рэвалюцый з'явіцца сітуацыя, калі дзядзька адкрые табе свет, які дагэтуль не існаваў для цябе, але меў у гэтым горадзе ўласную мову ці жаргон, уласную іерархію і структуру, уласнае жывое жыццё.

У розных установах, школах, ведамствах збіралі добраахвотныя ахвяры ў так званы «фонд маршалка Пілсудскага». На практыцы тая «добраахвотнасць» была вельмі падобная на

звычайны прымус, нават палітычны шантаж. Твой бацька, пратэстуючы супраць формаў нібы добраахвотнасці, адмовіўся даць у той фонд сімвалічную залатоўку. А каб ніхто не палічыў яго скнарай, ён ахвяраваў даволі значную, як на яго магчымасці, суму на польскі Чырвоны Крыж. За такую «палітычную дэманстрацыю» і дэмаралізаванне падначаленых бацька быў паклікаsucceeded ў Варшаву на гутарку да тагачаснага міністра фінансаў.

Твой бацька, дабрадушны і лагодны, цярплівы і сціплы, быў адначасна, як называлі яго, «упартым ліцвінам» у справах прынцыповых. Вышэй за ўсё ён цаніў незалежнасць, свабоду сваёй волі, права на ўласныя думкі і ацэнкі, і таму ён ніколі не належаў ні да якіх палітычных партый. Вярнуўшыся з Варшавы, бацька доўга шпацыраваў па пакоі і таямніча ўсміхаўся пад вусам. А вы напружана чакалі, што ён раскажа пра сваю гутарку з міністрам. Нарэшце ён пачаў:

— Што ж, Аня, перада мной паставілі варункі, якія прымушалі б мяне быць непаслядоўным і гвалцілі б маю свабоду. Блазнам я ніколі не буду. Так і сказаў міністру. Заявіў яму, што гатовы адмовіцца ад пасады.

— Дык што, цябе здымуць? — спыталася мама.

— Гэта для іх не так проста. З дробнага інцыдэнта вырас бы палітычны скандал. Справа будзе, здаецца, вырашана так, што нейкі час яны дыпламатычна пачакаюць, а пасля я з павышэннем пайду ў ссылку, як і пры цары бывала. Шчасце, што ў мае родныя мясціны — у Навагрудак. Ну што, паедзем?

— А што са школай, з дзецьмі?

— Дзеці ўжо не малыя. Павінны будуць самі спраўляцца і канчаць вучобу. Ірка зможа пагаспадарыць. Праўда, хлопцы? Навучацца

самастойнасці. На канікулы і святы будуць прыязджаць да нас.

Прайшло некалькі месяцаў, бацьку перавялі ў Навагрудак. Яны пераехалі.

А неўзабаве па Польшчы пракацілася новая хваля крызісу. У горадзе ўсё часцей хто-небудзь банкрутаваў, узрастала беспрацоўе, забастоўкі, лакаўты. Збанкрутаваў і дзядзька Янак. На яго невялічкую фабрыку і нерухомую маёмасць налажыў лапу судовы апякун. Ты не вельмі ведаў, што азначае гэты юрыдычны тэрмін. Аднак бачыў вынікі. Цётка часова выехала ў Варшаву, а дзядзька часова перайшоў у вашу кватэру на вуліцы Наўрат. Бацькі ў далёкім Навагрудку былі нават задаволены такім паваротам справы.

Не зважаючы на крах, які з ім здарыўся, дзядзька ані на момант не траціў свайго бесклапотнага гумару. Вы не адчувалі яго бацькоўскіх клопатаў і кантролю. З кватэры ён стараўся не выходзіць. Рабіў уражанне чалавека, які пазбягае ранейшых кантактаў і сустрэч. Забаўляўся з вамі, як равеснік, ратаваў цябе з розных школьных непрыемнасцей, як апякун.

— Паслухай мяне ўважліва,— сказаў ён аднойчы.— Старому Валковічу хтосьці данёс, што я жыву тут у вас. Ён, напэўна, прыйдзе пра гэта пытацца. Ён такі, ведаеш, нізкі, таўсматы, надта ж кучаравыя чорныя валасы, ходзіць заўсёды з парасонам. Калі ён часам з'явіцца сюды, скажы, што гэтымі днямі я паехаў у Вену, а калі вярнуся — адзін бог ведае.

— Але ж, дзядзька...

— А ты не вельмі бядуй. Ён прыйдзе сюды разы два, тры, а потым больш не захоча.

— Дзядзька, а што яму трэба?

— Ат, і так ты нічога не зразумееш. У яго ёсць трохі маіх вэксаляў, судовы апякун не

мае чым іх аплаціць, дык вось ён і шукае мяне, каб я тыя вэксалі выкупіў... Пакуль што няма за што выкупляць. Зрэшты, быў час перад дэвальвацыяй, калі я пазычыў яму значную суму грошай. Ён аддаў мне пасля дэвальвацыі гэтолькі, што якраз хапіла на булку. Мне хацелася б угаварыць яго на нейкі сумленны кампраміс...

Дэвальвацыя, крызіс, банкруцтва, судовы апякун, вэксаль, банк, чэкі, пагадненне, таргі, ліцытацыя, пайшчыкі, біржа, падаткі, страхаванне, крэдыт, гурт, дэталь, ліхвярства, гандлёвы агент, пасрэднік, працэнты, камісійныя, прылавак, банк, аб'яднанне гандляроў, Гранд-Гатэль, кафэ «Турэцкае», натарыяльная кантора,— вось ён, той новы свет паняццяў, новы слоўнік і жаргон, новая геаграфія горада, новая маральнасць, свет, які з гумарам, у шматфарбных анекдотах адкрываў табе дзядзька.

Нарэшце прыйшоў дзень, калі вас наведаў пан Давід Валковіч. Дзядзька з усмешкай блазнюка шыбануў за дзверы мансарды.

— Малады чалавек, я хацеў бы пабачыцца з панам Янакам. Гэта, здаецца, ваш дзядзька?

— Дзядзька некалькі дзён таму назад паехаў у Вену.

— Я вам вось-вось і паверу! Як быццам я не ведаю, што ён тут, у кватэры.

— Але ж я гавару вам, што дзядзька паехаў...

Пан Валковіч раптам змяніў тон і пачаў так крычаць, што чуваць было, мусіць, і на двары:

— Я яго пакажу! Я яму пасаджу ў турму! Вэксаль — гэта не паперка, якою можна нос падцерці! Калі ён мне не заплоціць за адзін дзень, дык яму няма чаго рабіць у гэтым горадзе. Ён вінават мне больш за чатыры тысячы злотых! Я ўжо не кажу, колькі працэнты...

У гэты момант дзядзька раптоўна выскачыў са схованкі і — не растлумачваючы свайго цудоўнага вяртання з Вены — пачаў крычаць таксама, як пан Валковіч, на ўвесь голас:

— А гітын дзень, кажу я, што вы чапляецеся да гэтага хлопца? Вос выльт ір ад майго пляменніка?

— Каго вы хочаце ашукаць? Ір гот дох аляйн унтэршрыбэн — вы ж самі падпісалі гэтыя вэксалі!

— Я падпісаў — не падпісаў... Не заплачу! Гейт цу майн адвакат!

— Я ведаю, цу вэйм іх павінен ісці!

— Гейт прэч! — крычыць узлаваны дзядзька і выпіхвае пана Валковіча на лесвічную пляцоўку.

— Дзядзька,— гаворыш ты, уражаны, чырвоны, як бурак,— дзядзька, як жа я цяпер выглядаю? Я ж сказаў яму, што вы — у Вене, а вы тут вылятаеце з другога пакоя...

— Чаго ты бядуеш? Я ж добра ведаю, што ён таксама добра ведае, што я дома. Не думай, што ён пакрыўдзіўся. Такая ўжо літургія, такі малебен у іхнім гандлярскім свеце. Гэтыя людзі таксама любяць драму, перажыванні, добрую акцёрскую ігру. Ён яшчэ сёння пабяжыць у кафэ «Турэцкае» і будзе там чакаць мяне. Будзе прыемны, памяркоўны, мілы, як быццам паміж намі сёння анічагусенькі не было.

— А дзе ж вы, дзядзька, навучыліся паіхняму?

— Дарагі мой, хто тут не ведае нямецкай і яўрэйскай мовы, той далёка не заедзе. Сёння гэта еўрапейскія мовы ў прамысловасці і ў гандлі. Без гэтых моў не зробіш хоць трохі значнейшага гешэфту.

— А вы, дзядзька, ведаеце Шледара?

— Ты спытайся, каго я тут не ведаю. А як жа. Маленькая фабрыка шкарпэтак на Радога-

шчы. Скажам, не настолькі гэта фабрыка, нават маленькая, наколькі проста драўляная будa і некалькі жанчын-работніц. І ёсць у яго яшчэ некалькі параскіданых па горадзе невялічкіх майстэрняў, затоеных ад фінансавых органаў. Нішто сабе круціцца-верціцца гэты інтэрас. А чаму ты пытаешся?

— Калі я яшчэ быў у той гімназіі, дык сын яго вучыўся са мною ў адным класе.

— А што ж гэта за сенсацыя? Куды ж яму было хадзіць?

— Мяне цікавіць іншае. У адным з варшаўскіх штотыднёвікаў пра яго ёсць вялікі артыкул: «Юбілей вядомага прамыслоўца з польскага Манчэстэра. Дваццаціпяцігоддзе фірмы М. А. Шледар і К[a]».

— Ну і што?

— Там ёсць біяграфія ўласніка гэтай фабрыкі, фотаздымкі яго заводаў — вялікія будынкі, коміны і гэтак далей. А дзе ўласна тая фабрыка?

— Ёсць у цябе той часопіс? Пакажы яго.— І дзядзька пачаў смяяцца.— Я табе зараз дам да гэтага каментарый. «...Закончыўшы вучобу ў Польшчы, М. А. Шледар паехаў вучыцца за мяжу, у Вену і Цюрых. Вярнуўшыся адтуль, ён, з уласцівай яму энергіяй, пачаў арганізоўваць прамысловасць...» А гэта нішто сабе! Вучоба ў Польшчы — гэта, відаць, дзіцячы сад і хэдар. «Паехаў вучыцца за мяжу» — гэта зусім не павінна азначаць, што ён там вучыўся. Ён толькі паехаў. Ведаеш, гэта было як з тым цыркачом, які аб'явіў, што ён палезе ў бутэльку. Калі ўжо ён распрадаў білеты і людзі сышліся, цыркач паспрабаваў усадзіць у бутэльку нагу, аднак, вядома ж, без поспеху. На прэтэнзіі гледачоў ён адказаў: «А я не аб'яўляў, што ўлезу ў бутэльку, але што палезу. Паспрабаваў — не выйшла. Не я вінават». Так-

сама і гэты Шледар вучыцца за мяжу паехаў. Заўваж — наступны сказ гучыць так: «...Вярнуўшыся адтуль...» Усё ў парадку. Ён нідзе не напісаў, што ён за мяжой вучыўся або закончыў вучобу. Быў у бабулі ў Вене, наведаў цётку ў Цюрыху і вярнуўся дахаты. Лепш зрабіў бы, каб напісаў: «Перад сваім ад'ездам у Вену і Цюрых ён ужо сур'ёзна думаў пра тое, каб разбудаваць сваю прамысловасць...» Тады не трэба было б ілгаць, што ён наогул паехаў у Вену або ў Цюрых.

— Дзядзька, а гэтыя фабрыкі ды заводы на фотаздымках?

— Відаць, што ты не прачытаў уважліва подпіс пад здымкамі: «Вось так будзе выглядаць індустрыяльны комплекс М. А. Шледара пасля запраектаванага пашырэння ў бліжэйшыя гады». Бачыш, тут ёсць нават тая сапраўдная драўляная буда, якая павінна так здорава разбудавацца. А выглядае яна — як прахадная. Выглядае ўсё гэта, як у таго аптыміста, які купляе новы гарнітур: гузік ужо ёсць, трэба толькі купіць пінжак і штаны. Увесь гэты артыкул — суцэльная ліпа, разлічаная на двух-трох замежных купцоў, да якіх гэты часопіс «выпадкова» трапіць.

— Дзядзька, а гэты часопіс, гэты журналіст, што пісаў, не баіцца выкрыцця, кампраметацыі?

— Дарагі мой, усё гэта згодна з прынцыпамі багатай рэкламы. Журналіст, бясспрэчна, называецца інакш. Кавальскіх многа. Найлепшы анекдот — фота дастойнага юбіляра. Ён выглядае тут, як бацька свайго ўласнага дзеда. З плеяды філосафаў. Дзе толькі ён гэты здымак хапнуў? Гэта ж не ён! Артысткі фарбуюцца, дык чаму ж купец не мае права на грым? Дай яму, божа, здароўя!..

## 13

У спаборніцтвах на першынство па футболу паміж сярэднімі школамі горада сур'ёзнымі сапернікамі лічыліся гімназіі імя Каперніка, Купецкая, Нямецкая, Гарадская і Вісьнеўскага. Зрэшты, большасць школ не прымала ўдзелу ў гэтых нелегальных спаборніцтвах. Сезон быў кароткі — некалькі асенніх тыдняў пасля канікулаў, калі яшчэ добрае надвор'е. Так што адразу пасля пачатку вучэбнага года даволі выпадкова пазбіраныя каманды з'явіліся на пляцоўцы «Турыст», дзе злучаюцца вуліцы Наўрат і Водная.

Справу з тваім паступленнем у каманду Гарадской гімназіі вырашылі дзве секунды. Ты стаяў пасля ўрокаў на школьнай спартыўнай пляцоўцы на правах гледача і, жуючы булку, прыглядаўся, як ідзе гульня ў футбол. Прыглядаўся таксама і Ягела, старэйшы вучань з сёмага класа, і задачай гэтага Ягелы было выбраць з тых, што гулялі, найлепшых. Мяч з залішне моцнай падачы ў цэнтр поля ляцеў проста на цябе. Ты не ведаў, што рабіць — схіліцца, як гледачу, ці з гэтай, вельмі цяжкай, пазіцыі рубануць па варотах. Ты выбраў другое. Лёгка шпурнуўшы партфель назад, ты беспамылкова стрэліў у правы кут. Глухаваты енк мяча, і з цаглянага муру пасыпаўся тынк. Шчаслівая цеплыня разлілася праз тваe грудзі аж но ў пяты. Вось дзе ўдача дык удача!

Ягела з падкасанымі калашынамі, з рукамі ў кішэнях, паплёўваючы праз зубы, падышоў да цябе, прыгледзеўся і сказаў:

— Вы з нашай?

— Некалькі дзён.

— А дзе гулялі?

— У Купецкай.

— У нападзенні?

— Ага.

— Ну, дык заўтра будзеце гуляць супраць купцоў. Толькі ж не абгадзьце нашу гімназію.

І адышоўся.

Гэта не было пытанне ці прапанова. Гэта было рашэнне. На цябе напаў раптам страх, які раз-пораз накрываўся хвалямі радасці. У зусім незнаёмай камандзе, пасля вялікага канікулярнага перапынку... А з іншага боку — яшчэ і страх спаткацца з сябрамі з той самай каманды, якою ты нядаўна кіраваў. Адно тут было пацехай, што кожнага са сваіх заўтрашніх праціўнікаў ты ведаў наскрозь, з усімі іх слабымі і моцнымі бакамі. Цяпер ты прыглядаўся да гульні значна пільней, прыглядаўся да кожнага ігрока, стараючыся запомніць іхнія прозвішчы, чакаў з надзеяй, што цябе возьмуць у гульню на пробу... Але Ягела адышоўся і больш не звяртаў на цябе ўвагі. Сказаў толькі на развітанне:

— Дык заўтра... Мацей ці Войтак — як там вас завуць. На пляцоўцы «Турыста», у чатыры гадзіны, ва ўласных сподніках.

Гэта было ўчора — той удалы ўдар, выбар у каманду і тое хрышчэнне на Мацея, які так і прыліп ужо да цябе назаўсёды. Цяпер ты за дошкамі нейкай будыніны пераапранаешся ў спартыўны касцюм і абуваеш бывалыя моцныя чаравікі. У будыніну сыходзяцца ігракі з абедзвюх каманд. Абуваючыся, ты нахіліўся і спадылба, крадком, пад стук свайго сэрца прыглядаешся да сваіх былых сяброў па Купецкай гімназіі. Казік Казанецкі, Станкевіч, Генік Руткоўскі, Крагулец, Карманьскі — выдатны варатар, Уладак Пазьдзей, Вацак Сувала, Багданьскі, Юрак Градзіцкі, Вісьнеўскі-«Шчы-

па̀ва»... Надзяваюць майкі з эмблемамі гімназіі.

І вось нарэшце прыйшло найгоршае: цябе заўважыў Януш Главацкі.

— Прывітанне, Філосаф! У школу не прыйшоў, але на матч з'явіўся! — Ён павярнуўся ў другі бок: — Грацуха, ты пойдзеш у дублёры. Філосаф знайшоўся!

— Але ж я перайшоў у іншую гімназію. Мы цяпер тут праціўнікі.

— Жартачкі! Не мароч галавы... Што, сур'ёзна?

І з твару яго знікла радасная ўсмешка. Пачалі падыходзіць іншыя хлопцы, шчыра вітаюцца, але ў вачах — шкадаванне і дакор.

— Эй вы, купцы, толькі не перацягваць! — крычыць Ягела і зацягваецца папяросай.

Ты стаіш на левым крыле, чакаючы свістка суддзі. Павярнуцца толькі назад, і ты павёў бы сваю былую каманду ў атаку на гэтых... На каго? І ты ўспамінаеш словы Ягелы: «Толькі ж не абгадзьце нашу гімназію».

Арол ці рэшка. Пачынаюць «купцы». Свісток суддзі і — атака. Ты ведаеш, што ваш цэнтральны нападаючы — Ягела, на правым крыле — Нонас, у варотах — двухметровы Амятлінькі. Іншых прозвішчаў ты яшчэ не ведаеш, імёны блытаеш.

— Каўнік! Эрвін, ліха тваёй галаве! Трымай рыжага! — крычыць Ягела.

І сутыкнуліся, як більярдныя шары, два цудоўна складзеныя алімпійцы: рыжы Крагулец з Эрвінам Каўнікам. Мяч выпырснуў убок, і тут заўсёды растаропны і быстры ў пікавых сітуацыях Главацкі б'е па варотах. Амятлінькі, нібы павук, хапае сваімі ручышчамі мяч і выбівае яго на сярэдзіну поля. Ты дабягаеш і спыняеш яго. Ён пад нагамі. Ты бяжыш наперад, кутком вока ловіш Нонаса, падаеш яму

мяч і мчышся ў напрамку Руткоўскага. Руткоўскі смяецца на ўсю шырыню сваёй прышчавай морды. Ён мажны, дужы, шырокакантовы, як абломак скалы, не абысці яго і не разбіць. Ты ведаеш, што пакуль Нонас не ашукае Урублеўскага — прайграе. Урублеўскі, знешне падобны да Руткоўскага,— гэта дылетант і партач па тэхнічнасці. На разгірачаных, крывых нагах, наслепа, равучы, ён па-вар'яцку лезе на кожнага праціўніка. Гульня «на паралом касцей». Вядома ж — стукнуліся, і Нонас, кульгаючы, ідзе без мяча набок. Урублеўскі, прыкусіўшы высунуты язык, недарэчна прымерваецца да мяча. Цяў і — «па малако». Цяпер мячом пасуецца сыграная тройка: Казанецкі, Главацкі і ўсюдыісны Сувала. Аднак атака «купцоў» адбіта вашай абаронай, а ўсё ж Крагулец, які кружыў у другой лініі, лупіць па варотах зусім-зусім над штангай. А ты не ведаеш, ці шкадаваць, ці адчуваць палёгку.

— Э, Мацей, трымайся бліжэй да тых варот, толькі глядзі на афсайды! — кажа табе, бегучы, задыханы Ягела. Цяпер, пасля далёкага выкіду Амятлінськага, вы бежыце ў контратацы. Руткоўскі ўважліва адступае задам, топчучы пятамі свой цень, а Урублеўскі, як фурыя, з ровам кідаецца ў напрамку мяча. Ягела, якога заатакавалі, пазбаўляецца мяча, перадае на правае крыло, Нонасу. Размазваючы пот на лбе, Ягела крычыць:

— Зэнак, давай наперад і на цэнтр!

Нонас бяжыць з мячом метраў з дваццаць наперад, а потым спрытна падае на цэнтр. Ты знаходзішся ў некалькіх метрах ад варот «купцоў». Руткоўскі пралічыўся — мяч пайшоў над ім. Ты імгненна апярэдзіў Карманьскага і лёгка крануў галавою мяч, які зніжаў палёт. Два кароткія свісткі суддзі. Цябе залівае хва-

ля шчасця. Ты чуеш радасны крык. Схіліўшы галаву, кешкаючы перад сабой каменьчык, ты паволі ідзеш у цэнтр поля. Да цябе падбягаюць новыя сябры, радасна лупяць цябе далоньмі па спіне. Яшчэ раз бачыш, перажываеш той момант каля варот: мажныя плечы Руткоўскага, абліты сонцам мяч над самым Руткоўскім, злева варатар Карманьскі, напружаны, як кот. Рывок наперад, дотык да мяча галавой, амаль непрыкметная змена яго палёту і — шэры слупок варот, за якім на момант схаваўся мяч. Яшчэ і Главацкі падбягае да цябе і па-джэнтльменску цісне руку.

— Не перакупіце,— з іроніяй кажа яму Ягела, праходзячы міма і па-сяброўску зірнуўшы на цябе.

Пасля былі тры грозныя хвалі атакі на вашы вароты. Прыгожы ўдар Казанецкага, аднак проста ў рукі варатару. У другой атацы ўсюдыісны Сувала ледзь не забэрсаўся з мячом у варотах. Зноў вам трохі пашанцавала! І толькі ўжо ў трэцяй атацы чырвоны, як паходня, Крагулец вырваўся наперад і лупянуў па варотах такога, што і сам чорт яго не стрымаў бы. Каўнік стукнуў сябе па лбе і закрычаў на паўабаронцу, які стаяў побач з імі:

— А ты, вахлачына, стаіш ды глядзіш, як ён — ці пападзе?!

На гэты раз Крагулец вяртаецца трыумфатарам. Ён ідзе, лёгка схіліўшыся, і ўсміхаецца, далікатна адпіхваючы сяброў, што націскаюць на яго. Кроплі поту цякуць па яго чырвоным, папярэшчаным рабаціннем твары...

У драўлянай будыніне, калі быў дзесяцімінутны перапынак, стаяла гамана: аналізы і спрэчкі. У цябе пацеюць знешнія куточкі вейкаў,— гэта ад вострага паху лімонаў, якія гры-

зуць «купцы». Частуюць іх Гальдштэйн і Вінтар. Страляюць газам бутэлькі ліманаду. А «бульбаеды» ў сваім кутку падстаўляюць спацелыя твары пад вадаправодныя краны.

— Філосаф, здароў! — крычыць Гальдштэйн.— Трымай лімон! Я кідаю.

— А я не хачу! — гукаеш ты ў адказ.

І раптам у галаву тваю прыходзіць думка: а ў якой жа ролі яны тут, гэтыя Гальдштэйн і Вінтар? Пратэктары? Імпрэсарыі? Дабрадзеі? І чаму ў камандзе «купцоў» няма нікога з багацейшых? Няўжо ён не для іх — гэты мужчынскі спорт? Ці гэта чулыя мамачкі не дазваляюць сваім распешчаным сынкам займацца гэтым? І чаго яны прыйшлі сюды са сваімі лімонамі ды бутэлькамі?.. І вось у гэтых кантрастах — «бульбаеды» і «купцы» — для цябе выразна вырысавалася трэцяя грамадская фармацыя. Ты не ведаеш яшчэ, што праз год большасць хлопцаў-спартсменаў пяройдзе з Купецкай гімназіі ў Гарадскую, што яны будуць гуляць з табою ў адной камандзе: Пазьдзей, Сувала, Крагулец, Гродскі, Казанецкі, Вісьнеўскі...

У самым разгары другі тайм. Прылівы і адлівы. Бліскучыя сольныя нумары. Ты правільна прадбачыў, што ў канцы сустрэчы Урублеўскі давядзе-такі да штрафнога ўдару. Ахвярай яго дзікай гвалтоўнасці стаў гэтым разам Ян Вітак, якому дапамаглі пакінуць поле.

— Ягела! Ягела! Бі ты!

Ягела стаіць нейкі момант засяроджаны, падпёршыся ў бокі. Губы і лоб пачарнелі ад пылу. Ён коратка ўздыхнуў, плюнуў убок, хутчэй падышоў, чым падбег да мяча, і — цяў. Два свісткі суддзі. Цудоўны левы кут. Кар-

маньскі нават не ўздрыгнуў. Далоні трымае на сагнутых каленях і глядзіць на дол, на пляму свайго ценю.

Вы вяртаецеся на сярэдзіну поля шчаслівыя. Пазьдзей мяняе пазіцыю з Вісьнеўскім. Гэта горш,— думаеш ты. Пазьдзей са Станкевічам — грозны дуэт. Пазьдзей б'е здалёк і трапна, пасля ўдару пругка адхіляючыся назад. Не ўдаліся дзве новыя атакі на вароты Амятлінькага. Пад канец сустрэчы вам становіцца крута. Ягела падмацоўвае абарону Вітакам, які вяртаецца на поле. Блытаніну на лініі абароны Каўнік праясняе далёкім стрэлам. Ты вырываешся наперад з Ягелам і Нонасам, адкрываючы перад заядлым Урублеўскім нечаканую пустату. Каб толькі ж не прамазаць! На шчасце, Руткоўскі, нібы акружаны зубр, адступае. Цяпер ён хоча адрэзаць цябе ад Ягелы. Не паспее! Перад табой выдатна выгнаны наперад мяч, ты б'еш левай — цудоўны, чысценькі гол!

І калі цябе зноў лупяць па спіне ўсцешаныя сябры, ты адчуваеш дакор сумлення. То ж і Ягела мог ударыць, чаму ён падаў табе?

Тры — адзін. Тут ужо «купцы» не наверстаюць. Яшчэ толькі мінуты дзве-тры, і свісток суддзі: канец матча. Наступны, у адказ, ажно ў канцы красавіка...

— Калега,— з усмешкай звяртаецца да цябе Ян Вітак,— цяпер як мага хутчэй у гімназію, бо праз пятнаццаць мінут рэпетыцыя аркестра.

Некалькі дзён у новай школе, а якое нагрувашчванне спраў і здарэнняў! Які тут іншы рытм жыцця! Без усякіх пратэкцый, хітрыкаў, закуліснай гульні. Тут жыццё бяруць за жабры аберуч. Вышэй за ўсё цэніцца ўласная ініцыятыва, рашэнне, здзяйсненне, без апекі ста-

½ 4 Зак. 2428

рэйшых, без чакання дапамогі ад татак, мамак і паноў настаўнікаў...

Праз момант зноў цябе прывітае светлымі вокнамі новая школа.

## 14

Едзеш трамваем нумар 4 з зялёным шчытком на далёкія Хойны. Упершыню ў той раён. Кампактныя, высокія камяніцы цэнтра горада спакваля меншаюць, робяцца радчэйшымі, прападаюць, у вачах мільгае шчыкетнік платоў, кусты і дрэвы падворкаў, драўляныя домікі, калодзежы з ручнымі помпамі. Чародкі галубоў над шэрымі дахамі, сабачае пагаўкванне, кудахтанне курэй. Фабрычныя адыходы плывуць па сцёках, выходзячы ажно на брук вуліцы. Замурзаныя дзеці пушчаюць папяровыя лодкі, перад цёмнымі чалеснікамі пад'ездаў стаяць групкі рабочых з падцяжкамі на кашулях. Дымяць махоркай, гамоняць, рагочуць. Праходзяць жанчыны з вёдрамі, поўнымі вады. Задняя пляцоўка трамвая, дзе вы стаіце, калышацца і кідаецца ў бакі.

— Надзявай шапку — выходзім,— гаворыць Юзак.

— А пры чым тут шапка і прыпынак?

— У гэтым раёне толькі нашу гімназію не чапаюць. А кожны чужынец вяртаецца адгэтуль у карэце «хуткай дапамогі». Тут ты не сустрэнеш нікога са сваёй ранейшай гімназіі, ані з іншых падобных. Нас ахоўвае класавая салідарнасць: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» Калі б тут каму-небудзь захацелася нас зачапіць, адразу пытайся пра «Лезара». Ніхто цябе не кране.

— А што гэта за міфічная постаць?

— Э, браток, дык ты яшчэ не надта многа ведаеш? — смяецца Міхна.— Гэта кароль Хойнаў, а разам з тым маладзейшы калега з нашай школы, Казік Завада. Ён тут ужо не аднаму морду запламбаваў.

— Але ж тут, кажуць, спакойна не пройдзе ніхто [illegible] іншых рабочых раёнаў — з Балутаў, Відзава ці Козіна? Дык што ж гэта за класавая салідарнасць?

— Тут ужо справа іншая. Проста не дазваляюць заманьваць сваіх дзяўчат у загарадныя паездачкі. Старых тут ніхто не чапае. Штосьці падобнае на ўдзельныя княствы, раённы патрыятызм, свой гонар: хто каго, хто з нас лепшы. Часамі прыходзяць сюды з правакацыямі цэлыя чароды з іншых раёнаў. Тады ўжо бывае добрая малацьба. А дружба і супрацоўніцтва наступаюць раптоўна тады, калі з'яўляецца паліцыя. Ну, вось тут, каля гэтай забягалаўкі, мы павернем направа, а потым першая вуліца налева і мы — у Стася.

З адчыненых дзвярэй забягалаўкі на вуліцу патыхае густым дурманам: мешаніна піва, бігасу, падсмажанага алею, селядцоў, салёных агуркоў. Гоман, крык, звон шкла. Каля парога, на вуліцы, стаяць некалькі жанчын у клятчастых хустках. Трымаюць за ручкі малых, якія равуць на ўвесь свет.

— Кліч тату! Мацней гукай!

Тут ужо канчаюцца палопаныя пліты тратуараў, і вы ідзяце па чорнай, утрамбаванай, пабітай на ямы дарозе. Праз шчыліны ў платах вецер прадзімае пах гнілога быльнягу. Вы абмінаеце некалькі падлеткаў, што стаяць каля прыадчыненых брамак. Праз момант перад вашымі нагамі разбіваецца аб зямлю глiністая груда, змацаваная дзёрнам. Нарэшце вы паварочваеце направа. Доўгі плот, тры драўляныя домікі і брамка.

— Улазім,— кажа Юзак.

На падворку, з левага боку, стары даміна з надворнай лесвіцай, якая вядзе ў драўляную прыбудоўку. Пасярод двара — парыжэлая ад іржы помпа. Проста перад вамі расхрыстаныя дзверы прыбіральні, трусіная клетка, невялікі касцёр дроў і галубятнік. У дзвярах дома стаіць кабеціна.

— А панічы каго тут шукаюць?

— Пані Пёнтак не пазнае мяне? — пытаецца Міхна, падыходзячы бліжэй.— Няўжо? — І смяецца сваім сімпатычным смехам.

— Панічы, відаць, да Стася?

— А вы, смаркачы, чаго тут? Шпіёніць? — кажа, выхіляючыся з дзвярэй, мужчына са знябытым, непаголеным тварам, у старой, крыва надзетай кепцы.

— Добры вечар, пан Пёнтак. Вы мяне таксама не пазнаяце! Мы на хвілінку да Стася, па маленькай справе...

— А што вам трэба? — пытаецца пан Пёнтак.

— Нічога. Нам патрэбны толькі ключыкі ад хімічнай лабараторыі. Стась не ідзе ў школу, і мы ніяк не можам тую лабараторыю адчыніць.

— Стасік хворы. Няма тут вам чаго рабіць.

— Ды што ты, Антось, няхай маладыя людзі зойдуць сабе на хвілінку. Возьмуць у Стася ключыкі і пойдуць. Праўда?

— Быкі старыя, цьфу! І вы ўзяліся б штонебудзь рабіць, а не тое, што дармаедамі, пісакамі... Кніжачкі толькі гартаць. Яшчэ нікому яна, папера, хлеба не ўрадзіла. Калі я быў такі, як вы, дык я ўжо на самы другі канец горада...

— Антось! Няветліва так... Ды пусці ты... Панічы ўвойдуць на хвіліначку па тыя ключыкі. А ну, пусці,— пачала яна далікатна адсоўваць яго з парога.

— Няхай ідуць у наш бярлог, задрыпаная гаспадыня... Я ж толькі гавару, як яно калісьці было. І як яно сёння,— кажа пан Пёнтак, хістаючыся на сагнутых нагах.— Гэты, халера на яго, таксама ні за што не возьмецца, толькі і глядзіць, каб вырвацца з самага ранку ў тую гімназію, абы толькі не дома, абы нічога не рабіць!..

Вы ўваходзіце. Паветра ажно густое ад духаты. Нізкія сцены ў падцёках вільгаці. Стол паміж дзвюх лаў. Брудныя анучы, старыя шкарпэткі на падлозе; у куце, высока — абразок божай маці, парыжэлы, заседжаны мухамі, пад ім папяровыя кветкі, а ніжэй, на нейкай перахіленай бярлозе, Стась Пёнтак.

Ён неяк панура глядзіць на нас і хавае пад коўдру плячо, пакрытае сінімі пісягамі. Ніжняя губа напухла і лопнула, пад вачыма — кругі...

— Здароў, пан старшыня,— кажа, прыязна ўсміхаючыся, Юзак Міхна.— Пазнаёмся, Стасік, з новым калегам.

— Здароў! — кажа Стась.— Я чуў, што вы па ключыкі? А я недзе, халера, прастудзіўся. Хапіла, і ўстаць не магу. Юзак, зірні — там ляжаць порткі. Выцягні з правай кішэні ключы. Я не ведаю, ці прыйду ў гімназію. Бацька ўжо чацвёрты месяц без працы, зрэшты... сам ведаеш, як яно...

— А хто ж будзе весці гурток па хіміі? Гусар дапытваецца пра цябе. Лабараторыя зачынена.

— Ат, пакінь. Генік, напэўна, выпіў ужо ўвесь спірт для прэпаратаў,— усміхаецца Стась.

— Як ён мог выпіць, калі ключы ў цябе? Ну, калі ты прыйдзеш?

— Што да мяне, шаноўныя, а пакуль што я тут камандзір, дык ён пойдзе, але не туды —

на працу пойдзе,— азваўся ад стала пан Пёнтак.— А гэты, другі, адкуль будзе?

— Я, пан Пёнтак, перайшоў з Купецкай гімназіі,— гаворыш ты.

— Ад купцоў? Ад гэтых крывасмокаў? Па мордзе ім трэба!

— Тата, пакінь...

— А ты б ім задніцу толькі лізаў? Колькі разоў яны мяне з працы гналі. Хто-хто, а я іх добра ведаю. У экіпажы сабе коціць, а мы павінны шапкі здымаць ды ў вочкі яму пакорліва паглядаць. А ў нядзелю панадзяваюць залатыя пажарніцкія каскі ды афіцэраў строяць самі з сябе, кухня іхняя маць! Жаруць, языкамі мелюць у тым Гранд-Гатэлі, сынкоў за граніцу, вучыцца... Я ў некалькіх ужо рабіў, то я ўжо ведаю, як яно. Твае бацькі таксама можа фабрыканты?

— Ды адкуль там! Іх нават і няма тут наогул.

— Хадзі, малады чалавек, ды прысядзь! — гаворыць гаспадар, ляпнуўшы рукой па лаве.— А можа, ты каго-небудзь з гэтых нягоднікаў ведаеш? Мне праца патрэбна, ты разумееш? Сумленная праца.

— Яны не ўсе такія, пан Пёнтак. Ёсць там і прыстойныя людзі, як усюды. Вы пэўна чулі, што Пазнаньскі ці іншыя пабудавалі дамы для рабочых, нават касцёл святога Юзафа на Агароднай. Здаецца, што нават і тэатр. Прамыслоўцы-пратэстанты ахвяравалі сабору вітраж ці алтар...

— Не мароч мне, паніч, галавы. Ты яшчэ замалады. Пляваць ім на наш лёс. Гэтыя рабочыя домікі для майстроў — усё роўна як тыя чваракі, баракі пры панскіх дамах у маёнтках. Парабкі павінны быць заўсёды пад рукою, на панскім боку. Гэтымі кватэрамі яны трымаюць найлепшых рабочых за морду. А як

што трохі не так — прэч з фабрыкі і на брук. Ім гэта выгадна, гэтыя кватаранты — найлепшая міліцыя супраць забастовак. Штрэйкбрэхеры, ліха іх галаве! А што касцёл? Ты ў цуды верыш, у тое, што гэты старазаконны касцёл Пазнаньскі зрабіў за так сабе, без інтарэсу? А ў саборы тым дойчкатолікі трохі пану богу служаць, а трохі вочы замыльваюць.

— Магчыма... Але ў той гімназіі, дзе я вучыўся, былі і добрыя, сапраўдныя палякі з нямецкімі прозвішчамі. Што ж іх усіх — у адзін мех...

— Усё гэта, хлопча, чужое насенне. Папольску не гавораць, толькі па-свойму гергечуць. За сваіх цягнуць. А ты, чалавеча, здыхай на роднай зямлі. Ты ведаеш, колькі іх ёсць, а колькі нас — тут, на Хойнах, у Відзаве, у Балутах?.. Нас паўмільёна, а іх некалькі тысяч. І яны нас усіх трымаюць за морду... Анеля, падай сюды бутлю, віп'ю кроплю з маладымі людзьмі... Яны яшчэ жыцця не ведаюць...

— Не трэба, тата, хлопцы трохі пабудуць, зараз во пойдуць.

— Бога ты не баішся, Антось,— такім маладзенькім ды гарэлку?

— А я табе што — п'яніца? Кажу, што па адной, дык па адной...

— Пан Пёнтак мае рацыю,— азваўся Міхна.— Мой бацька таксама часамі кульне адну. Ён таксама, як і пан, чалавек ганаровы. «Адну,— кажа ён,— дык і любому смаркачу можна даць, абы не больш». Ён таксама, пан Пёнтак, гаворыць, як і вы. Такі саменькі ганаровы.

— Бачыш, старая, я адразу казаў, што гэта свае хлопцы... Дык твой бацька, ты кажаш, гаворыць таксама, як я... Таксама чалавек з галавою! А дзе ён працуе?

— Без працы ходзіць цяпер. І падобны да вас, пан Пёнтак. Таксама ўсё мне гаворыць: «Праца — во яно што галоўнае. Закончыш,— кажа ён,— школу, каб разумнейшы быў за тых крывасмокаў, дык скулу яны цябе ашукаюць потым у жыцці, яшчэ ты іх сам у лапці абуеш!»

— Ты, старая, паслухай толькі, што людзі вось гавораць пра мяне! А я ў цябе заўсёды дурань,— кажа пан Пёнтак, ужо наліваючы чаркі.

— А вы свайго Стася таксама на чалавека выхавалі, пан Пёнтак. У школе яго ўсе настаўнікі шануюць. Найлепшы хімік у гімназіі. Старшынёю яго выбралі. Калі ў яго раз прафесар спытаўся, адкуль ён гэтую хімію так ведае, дык ён кажа, што ўсё праз бацьку, а няўжо ж.

— А вы мяне, вісусы, не падлешчвайце,— кажа пан Пёнтак, з хітрай усмешкай прыплюшчыўшы левае вока.— Ён свайго бацькі саромеецца, лайдак.

— Як гэта можна, пан Пёнтак! То ж ён сам расказваў у класе, што вы яму зрабілі ў прыбудоўцы лабараторыю, што вы яму прыносілі з фабрыкі драўляны вугаль і салянуо кіслату для вопытаў. Што, Стась, хіба ты не казаў? — спытаўся Міхна.— Вядома. Пажылы чалавек, ды з такім вопытам, як вы, добра ведае, што яно і як. Вось вы нібы лаецеся на гэтую яго школу, але без вас ён там анічагутка не значыў бы. Таксама і з маім бацькам. Мы разумеем, што так яно і павінна быць. Нас трэба выхоўваць па-мужчынску, каб мы не расклеіліся. Бацька мяне часамі чапане рэменем, а сам цішком у маткі пытаецца, як там мне ў школе паводзіцца. Ну, а Стась, дык ён нас усіх перамагае з гэтай хіміяй, а наш хімічны гурток без яго стаіць — забастоўка, дый годзе.

Ну, пан Пёнтак, нам тым часам пара. Дзякуем за чарку. Дык калі ўжо Стась выліжыцца ад гэтай прастуды, ганіце яго ў школу. Класны казаў, што будуць стыпендыю даваць за першы квартал, а Стась жа працуе ў навуковым гуртку, на грамадскіх пачатках.

— Што ж, няхай во толькі паправіцца... Будзьце, хлопцы, здаровы!

— Да пабачэння, пані Пёнтак! Стась, будзь здароў!

Звечарэла. Тут, пры рэдкіх і слабенькіх вулічных ліхтарах, над горадам відаць былі зоркі. Здалёк чуўся скрыгат трамвая. Ты здзіўлена пазіраў на Юзака. Які інтэлігентны хлапчына! Які сталы, вопытны, нягледзячы на сваю вечную схільнасць да розных школьніцкіх штучак.

— Дзіўна,— сказаў ты,— адных б'юць за тое, што яны не хочуць вучыцца, а іншых за тое, што хочуць.

— А яшчэ іншых засыпаюць падарункамі, каб толькі яны мелі ласку вучыцца. Як яно там у вас бывала, у купцоў? За чацвёрку — веласіпед, за тройку — пісталет?..

## 15

Новая гімназія была мініяцюрным адлюстраваннем галоўных палітычных плыняў горада. Выбары кожны раз выяўлялі на змену то павелічэнне ўплываў сацыялістычных, то эндэцкіх, пакуль гэтая гайданка не была спынена прызначэннем прэзідэнта горада зверху. Барацьба за мандаты ў гімназіяльных арганізацыях самакіравання праходзіла тут падобна, як і на выбарах гарадскіх улад. Аднак перавагу ў гімназіі мелі заўсёды левыя сілы — аб'яднаныя сацыялісты і камуністычнае пад-

полле. Страсная прапаганда, лозунгі, праграмы, класныя мітынгі — шэптам на калідорах, на спартыўнай пляцоўцы ці на гарышчы — не перашкаджалі школьніцкай салідарнасці, сяброўству паміж палітычнымі праціўнікамі. Нараджалася тут і загартоўвалася грамадзянская смеласць, смеласць у выказванні сваіх перакананняў, ідэйна-палітычная свядомасць, пашана да людзей іншых поглядаў, узрастала майстэрства спрэчак, дыскусій, правілаў ігры ў палітычнай барацьбе, уменне быць лаяльным, хаваць таямніцы, праяўляць высакароднасць і дэмакратызм. Ты са здзіўленнем пазнаваў палітычную сталасць і адданасць сваіх новых равеснікаў.

З кожным днём і тыднем усё больш ды больш выразна вырысоўвалася перад табой палітычная карта твайго класа і воблікі паасобных кіраўнікоў той ці іншай плыні. Гэтая палітычная карта не супадала з картай сяброўстваў. Цябе здзіўляў той факт, што найбліжэйшыя твае сябры былі адначасна найбольшымі праціўнікамі па светапоглядах. І было ў гэтым штосьці асабліва прывабнае. Вельмі падабалася табе таксама і тое, што невялікую групу камуністаў ахоўвала ад небяспекі зверху сяброўская салідарнасць школьнікаў...

Ты памятаеш, колькі радасці прынёс прыезд тваёй мамы — ажно на цэлыя два тыдні. У кватэры, як быццам па нячутнаму загаду нейкага чараўніка, зрабілася светла, чыста, цёпла. На стале з'явілася вэнджаная шынка, сушаныя сыры, наднёманскі мёд са сваяцкіх вулляў. Грыбы, арэхі, яблыкі...

— А дзе тая балейка, што стаяла ў каморцы? — пытаецца мама.

— Рассохлася, і мы яе з дзядзькам пасеклі на падпал.

— Мой ты божа, а лепшага вы нічога не прыдумалі? А дзе каструля для вывarвання бялізны?

— За акном на вяровачцы. Там наш вечны суп.

— Які яшчэ вечны суп?

— А гэта дзядзька прыдумаў: раз у месяц мы варым поўную каструлю бульбянога супу. У першы дзень з'ядаем чатыры талеркі, каструлю даліваем вадой і выстаўляем за акно. Суп замярзае. На другі дзень адсякаем чатыры талеркі супу, даліваем каструлю вадой і выстаўляем за акно. Замярзае. На трэці дзень...

— Годзе ўжо, годзе. Усё зразумела. Але ж праз тыдзень у гэтым вашым супе — адна вада.

— Яно так. Аднак жа маецца і ўражанне, што на абед у нас — суп.

Мама смяецца. Глядзіць на дзядзьку Янака, які ўплятае з хлебам прывезены беларускі кумпяк.

— А як ты там адчуваеш сябе ў новай гімназіі, у «бульбаедаў»?

— Вельмі добра. Як чалавек сярод людзей.

— Вось бачыш! А колькі плачу было. Я адразу ведала, што гэта пойдзе на карысць. Некалькі месяцаў прайшло, а ты і пасталеў, і паразумнеў. А поспехі як?

— Троечкі, і вельмі слаба з матэматыкай.

— І табе не сорамна?

— Не, мама. У нас на гэты конт у пашане адно выказванне старэйшага калегі, Уладзіслава Бяньхоўскага.

— Цікава, што ж гэта за выказванне.

— Аднойчы, калі настаўнік спытаўся, чаму ён не падрыхтаваў урокаў, Бяньхоўскі адказаў: «У мяне, пан прафесар, няма часу рыхтаваць урокі — мне трэба вучыцца».

— Нічога не разумею. Капусная капуста?

— Не, мама. Хлопец той цэлымі днямі сядзіць у гарадской бібліятэцы. Вывучае філасофію, псіхалогію, марксізм, замежныя мовы, а да школьнай праграмы адносіцца як да чагосьці, што патрэбна для дашкольнікаў.

— А як жа ты справішся з гэтай сваёй няшчаснай матэматыкай?

— Усё ў парадку, мама,— я ж іграю ў аркестры.

— А што тут да чаго — аркестр і матэматыка?

— Гэта складаная справа, не так і лёгка яе растлумачыць. Зрэшты, да мяне, па лініі сяброўскай дапамогі, прыходзіць старэйшы калега, Фуксовіч, і набівае маю галаву матэматыкай. Нават і сёння ёсць такая гадзіна...

У Фуксовіча чорныя, бліскучыя, тлустыя валасы, аліўкавы колер твару, а куточкі вуснаў апушчаны, нібы ў журботнай усмешцы. На лбе ў яго вялікі, здаецца, вечны, непрыемны прышч. Фуксовіч добра растлумачвае матэматычныя законы, аднак у гэты ж час ён думае пра штосьці іншае.

— Разумець гэтыя прыклады — гэта, калега, яшчэ не ўсё. Трэба іх, разам з тым, завучваць на памяць. Матэматыка рэч не цяжкая. Так... Ага, паслухайце, калега, ёсць у мяне да вас яшчэ адна справа, аднак ці можна вас прасіць пра захаванне таямніцы?

— А што там у вас?

— Вы чулі, што ў пятркоўскай гуце «Гартэнзія» зноў забастоўка?

— Я нічога не чуў пра гэта. Што за забастоўка? Не разумею я такіх рэчаў. Скажыце карацей, што вам трэба.

— Дрэнна, што вас гэта не цікавіць. Ды нічога не зробіш. А справа ў тым, што мы, камуністы, збіраем грошы для сем'яў рабочых,

якія бастуюць, для падтрымання іх ажно да перамогі.

Па тваім целе прайшоў гарачы ток. «Мы, камуністы...»

— Калега, я не камуніст, вы добра ведаеце пра гэта, але пачакайце хвілінку...

Ты выбягаеш у той пакой, дзе сядзіць маці.

— Чаго ты так збялеў? — пытаецца яна.

— Мама, я не ведаю, што адказаць гэтаму Фуксовічу. Ён пытаецца, ці не даў бы я трохі грошай на падтрыманне забастоўкі ў Пятркове. І кажа яшчэ, што збіраюць іх камуністы!

— Цікава, што ж ты хочаш зрабіць?

— Не ведаю... Я не даў бы, але мне брыдка, бо ён жа асмеліўся, даверыў мне... Апроч таго, ён жа бясплатна мне дапамагае...

На маміным твары з'явілася на момант загадкавая ўсмешка. Мама выняла з сумачкі пяцьдзесят злотых, чацвёртую частку таго, што бацькі кожны месяц прысылаюць нам на жыццё.

— Дай гэта свайму калегу ад сябе і ад мяне. І скажы, што я яму дзякую за давер.

— Але ж, мама, я ў тым спіску бачыў, што людзі даюць па дваццаць, па пяцьдзесят грошаў, а ты — пяцьдзесят злотых?

— А я хачу, каб ты, нічога нікому не кажучы, запамятаў гэта надоўга. Ці ты падумаў пра тое, што бастуюць бацькі і браты тваіх школьных сяброў? І галадаюць іх сем'і, такія ж дзеці, як ты? Бачу я, сын, што толькі ў той гімназіі цябе маглі назваць Філосафам...

Калі ты вярнуўся да Фуксовіча, ён узняў схіленую галаву і паглядзеў на цябе са сваёй журботнай усмешкай.

— Запішыце, калега, у свой спісак гэтыя пяцьдзесят злотых. Гэта ад мамы і ад мяне. І я не ведаю, чаму, але мама сказала падзякаваць вам.

— А я не дзякую, бо гэта ж не для мяне. Скажу я вам, ведаеце, адну рэч. Нас падзяляе толькі філасофская спрэчка пра тое, ёсць бог ці яго няма. Вы чулі пра тое, што хрысціяне аднойчы ўжо будавалі камуністычную дзяржаву?.. Ну, бывайце, да чацвярга.

Асеннія ветры, дажджы, а неўзабаве і снег — прадвеснік зімовых канікулаў. Дахі, вуліцы, дрэвы — усё пакрыта белым. Званочкі саней, пахрумстванне шуфляў, якія счышчаюць снег з тратуараў, пара з конскіх ноздраў, ліхтары ў лёгкім ззянні белай імгліцы, вераб'і над цёплымі конскімі яблыкамі, люстраныя сцежкі катка, дзеці на саначках, квецістыя ўзоры на аконных шыбах...

На вуліцы Гданьскай, нумар 111 — штогадовы кірмаш Чырвонага Крыжа. Тут збіраецца моладзь з мужчынскіх і жаночых гімназій, гадзінамі тлумна валочыцца па светлым гмаху, больш фліртуючы, чым аглядаючы экспанаты.

Тыя, з Купецкай гімназіі, азартна заняліся латарэяй.

Ты стаіш, абапершыся на балюстраду, і зверху назіраеш, як Каўнік з Лесякам праціскаюцца цераз натоўп следам за дзвюма рагатункамі з гімназіі Прысевіча. І раптам ты заўважаеш краечкам вока, як з-за вазона-пальмы Зебін шпурляе вялікі пачак лістовак. Яны ападаюць, як снег, на галовы расхваляванага натоўпу. Унізе завірыла, пачуўся крык, віск, тупат. Да цябе падбег Зебін і кажа:

— Слухай, калі што якое, будзь сведкам, што мы з табой тут увесь час спакойна гутарылі. Цябе ж не западозраць, што камуніст.

Паліцыя, вобыск, пошукі, допыты... Ты тады свядома стаў шчытом, які асланіў Зебіна, хоць змест лістоўкі не спадабаўся табе. Аднак Зе-

бін выклікаў у табе пашану сваёй адвагай, рызыкай, адданасцю справе. Камуністы. Нябачныя, а так востра прыкметныя постаці. Ці ты міжвольна не робішся прыладай у іхніх руках? Што гэта з іхняга боку — ці не злоўжыванне школьнай салідарнасцю? Аднак публічнае выказванне нязгоды з імі — гэта данос уладам.

— Дай лапу! Добры ты хлопец,— кажа Зебін і затульваецца каўняром ад вострага, сыпучага снегу.

— Ты, брат, спрытнюга. А я здраджваю сам сабе. І як тут біцца з вамі, каб па-сумленнаму?

— Галавой. А навошта табе з намі біцца?

— Бо я супраць камунізма.

— Дык вяртайся да сваіх купцоў.

— Я там ведаю таксама аднаго камуніста, Яся Турлейскага.

— Магу цябе запэўніць, што там ён не адзін.

## 16

Першыя сонечныя вясеннія дні. Па сцёках шпаркімі струменямі бяжыць карычневая вада з расталага снегу. Вуліца Наўрат раскапана. Бэлькі, дошкі, гурбы жоўтага пяску і гліны, а ўздоўж тратуараў каменне з бруку. Да бліскучых труб магазіна Лесінга вецер даносіць пах сырой, смалістай драўніны са склада аднавокага дрывасека. На рагу вуліцы Сянкевіча чародка людзей каменціруе пагалоску пра тое, што там, дзе рамантуюць каналізацыю, адкапалі вялікую костку мамантa...

Даўно ты не хадзіў у гэтым квартале вуліцы. Дарогу ў гімназію знайшоў значна карацейшую: з двара — цераз плот у парк імя Сянкевіча, а адтуль, таксама цераз плот, на школьную спартыўную пляцоўку. Раскапаная вуліца

перакрыла дарогу коннаму транспарту. Замоўк таксама і голас прарока: «Гандль! Гандль!..»

На спартыўнай пляцоўцы зноў чуваць глухі стогн мяча, што лупіць у сцяну Галерэі. Вы седзіце з Гузікам і Міхнам на лаўцы, абапершыся галовамі аб пачарнелы плот, твары выставіўшы на сонца. На суседняй лаўцы, накрыўшыся буркай, ляжыць Шчапаняк і храпе. Пасля шасці ўрокаў у яго ёсць яшчэ паўтары гадзіны да адыходу цягніка. У гімназію ён прыязджае заўсёды не даспаўшы, з саломінкамі ў валасах. На кожным перапынку дрэмле, прылёгшы галавой на парту.

— Пакутуе хлопец. Штодня вось так сюды-туды, увосень, зімою,— кажаш ты і кідаеш каменьчык у Шчапанякаву брудную падэшву.

— Ды ці ён адзін! — кажа Гузік, яшчэ больш прыплюшчваючы свае чырвоныя павекі.— У яго прынамсі ёсць кавалак хлеба ў хаце і дах над галавою.

— Прывітанне, братва! — вітаецца нейкі прышчаваты юнец з папяросай у зубах, ідучы міма вас туды, дзе каля муру некалькі гімназістаў гуляе ў «цымбергай»[1].

— Што гэта за ён? — пытаешся ты.— Ідзе сабе, пакурвае...

— Гэта Сьныква. Летась яго вытурылі з нашай гімназіі. Цяпер ходзіць у гандлёвую, да Піліхоўскага. Цягне яго сюды, на месца злачынства,— смяецца Міхна.

— Давай паслухаем. Ён заўсёды такое раскажа, што толькі ого!

Тыя, што гулялі каля муру, групкай акружылі Сьныкву.

— Здаровы!

— Здароў! Дай зацягнуцца.

---

[1] Гульня манетнай дробяззю.

— Ну, што, хлопцы, ідзяце на судны дзень?
— Які судны дзень?
— У аўторак мы з усіх школ збіраемся ў шэсць гадзін на «дэптаку», а потым ідзём — адны ў старыя раёны, а другая хваля на плошчу Свабоды. Да нас там далучаюцца хлопцы з Балутаў. Кожнаму трэба ўзяць добры кій або якую-небудзь жалезіну. Паразбіваем трохі магазінаў ды наздымаем скальпаў!
— Якіх скальпаў?
— Ты што! У Кутне не быў? Ловіш крамніка і здзіраеш з галавы яго ярмолку. Хто іх найбольш наздзірае — той кароль! Павінны пад'ехаць спецы з Варшавы, дык пакіруюць усёй акцыяй. Ну, як? Хто як хто, а з вашай школы павінен прыйсці ўвесь цвет прадмесцяў. Хто ж, як не вы, умее біцца?
— Сьныква,— звярнуўся да яго Міхна,— ты лепш не балбатаў бы, ці што? Яшчэ вам рэбры палічаць. Сляпы Макся і насільшчыкі. Мала таго, што з адной школы прагналі, дык і з другой праганяць.
— Юзак! — адгукнуўся Сьныква.— Калі ты сам баязлівец, дык і ад хлопцаў адчапіся.
— Чаму ж ты не вядзеш на палацы фабрыкантаў, нямецкіх ды яўрэйскіх, а на бядоту клічаш? Што яны табе зрабілі? У цябе што — лепш?.. Пайшлі, хлопцы,— звяртаецца ён да нас,— бо я трываць ужо не магу! Халера!..
Утрох вы ідзяце цераз парк імя Сянкевіча да вуліцы Кілінскага і направа, дзе Наўрат. Калі ты праходзіш каля дома, у якім жыве Гемер, табе раптам зрабілася шкада гэтага самотнага, заштурханага сябра па ранейшай гімназіі. Як ён маецца цяпер? Паслязаўтра яго, калі бацька зноў выганіць у кіно, таксама можа будуць біць такія сьныквы...
— Праведзяце мяне дахаты? Надвор'е добрае, праўда?

— Ну, як? — пытаецца Генік.— Давядзём яго да рога на Воднай?

Цяпер вы стаіце, залітыя сонцам, каля лазні на рагу Воднай. Міхна гаворыць без упынку. Сам пытаецца і сам адказвае на пытанні. Вам цяжка разлучыцца. І раптам ён штурхае цябе:

— Ты ведаеш, хто там ідзе? — пытаецца.

— Адкуль жа мне ведаць?

І ты глядзіш на чалавека, што набліжаецца да вас. Па выглядзе мяркуючы, нейкі малады рабочы ці беспрацоўны. Шэры, несамавіты, сарамлівы.

— Праз момант вы пазнаёміцеся з выдатным паэтам. Самародак. Рэвалюцыйная, бунтарская паэзія!

— Але скажы ты, хто гэта?

— Антось Касправіч.

Касправіч падышоў да вас, паглядзеў неяк нясмела, вачыма чалавека, у якога не было маладосці.

— Здароў, Юзак!

— Здароў, Антось! Пазнаёмцеся. Гэта хлопцы з маёй гімназіі. Таксама вершы шрайбаюць. Ведаш што, Антось, трэба будзе зрабіць агляд тваёй паэзіі ў нашым «Бюлетэні». Як? Ад тваіх вершаў, Антось, адчуванне такое, як быццам добрым самасадам зацягнешся.

— Пакінь, Юзак, няма пра што гаварыць. Трохі там чалавек наскроб... Ну, прашу прабачэння, бывайце!

— Бывайце!

Ты глядзіш услед. Першае спатканне з сапраўдным паэтам. Як жа інакш ты паэта ўяўляў? Негаваркі, нясмелы, бездапаможны, рукі моцныя, шурпатыя, карэлыя... Як бы ты ўбачыў яго цераз вокладку томіка, што ляжыць у вітрыне кнігарні? Камуніст... Ты прымерваеш яго да Фуксовіча, Зебіна, Гузіка. І мімвольна, для кантрасту, супастаўляеш гэтых

хлопцаў са Сьныквам, з яго вульгарнай мовай, папяросай у зубах, «судным днём», яго сябрамі — «героямі» пагромаў...

## 17

І ён прайшоў па горадзе, той «судны дзень». На першых старонках левых газет застракацелі загалоўкі: «Антысеміцкія выпады хуліганаў», «Сярод затрыманых авантурыстаў — вучні сярэдніх школ», «Студэнты-эндэкі — на чале пагромаў».

Бадальскі прынёс у клас сем чорных ярмолак.

— Трэба будзе перад урокам палажыць іх радочкам на стале,— хай Памідор палюбуецца...

— Пакінь! Задума — проста хамская!

— Паліцыянты забралі ў мяне пасведчанне,— сказаў Глазіньскі.— Відаць, не пройдзе гэта так сабе.

Глазіньскі сядзіць за адной партай з Зебінам. Часамі просіць яго пачытаць уголас антысеміцкую газеціну «Шабасгой», з фотаздымкамі і спісам тых, хто купляе ў яўрэяў.

Ішоў урок, калі адчыніліся дзверы і ў клас зайшоў прафесар Лоранц з паліцэйскім.

— Хлопцы, прыкрая справа. Ваш калега Глазіньскі быў затрыманы паліцыяй за разбіванне акон на плошчы Свабоды, у аўторак, калі былі непарадкі. Вестка — проста неверагодная для мяне. Што можа клас сказаць на гэтую тэму, як растлумачыць такое? Глазіньскі, падыдзі сюды! Дзе тваё пасведчанне?

— Я, пан прафесар, не ведаю, за што мяне затрымалі. Я спакойна ішоў з сябрам па вуліцы, а тут наляцеў нейкі натоўп і паліцыя. Ледзь з ног не збілі мяне. І я падняў кіёк, які

нехта, відаць, згубіў, а тады паліцыянт павёў мяне ў камісарыят, забраў школьнае пасведчанне і пачаў мне даводзіць, што я біў вокны ў яўрэйскіх магазінах. Я нічога не ведаю...

— З якім ты сябрам ішоў?

Тады ўстаў Зебін.

Глазіньскі збялеў.

— Пан прафесар,— сказаў Зебін,— гэта нейкае непаразуменне. Я ішоў з Глазіньскім. Мяне хацелі біць, а ён мяне абараняў. Потым тыя, што беглі, цэлы натоўп, разлучылі нас. Я бачыў, як Глазіньскі ўпаў, і тады паліцыя яго забрала. А я ўцёк у пад'езд.

— Пан плютановы [1] трошкі інакш апісвае гэты выпадак.

— Пан прафесар,— перапыніў класнага Зебін,— я яўрэй, і мая думка пра Глазіньскага будзе, відаць, важнай. Калега Глазіньскі сядзіць са мною за адной партай ужо два гады. Ён мой найлепшы сябар. Заўсёды абараняе мяне, калі хто чапляецца. Зрэшты, не толькі мяне. Тое самае могуць сказаць і іншыя калегі, яўрэі з нашага класа. Ён ніколі не быў антысемітам. Ён добры, спакойны, заўсёды нас абараняе. Я вельмі прашу, каб таксама выказаліся калегі Адлер, Каўфман, Пэркаль і Жэрыкер.

— Ну што ж, паслухаем.

— Пан прафесар,— пачаў, устаючы, Каўфман,— гэта абсурдныя закіды. Гэта мог зрабіць хто хочаце, толькі не Глазіньскі.

— Ну, а ты, Адлер, што скажаш?

— Пан прафесар, калі ўжо нас хтосьці біў, дык гэта не Глазіньскі, а сама паліцыя. Я пра гэта не гаварыў бы, аднак, калі ўжо гутарка пайшла пра верагоднасць інфармацыі некато-

---

[1] Плютановы — старшы унтэр-афіцэр.

рых паліцыянтаў, дык добра было б, каб пра гэта...

— Маўчаць, смурод! — перабіў яго паліцэйскі.— Ты як пра ўладу гаворыш?

— Пан плютановы, я пратэстую супраць вашых вульгарных эпітэтаў,— сказаў прафесар.— А з іншага боку — гэта цікава, Адлер, што ты гаворыш. Закончы гэту гісторыю іменна цяпер, пры пану плютановым.

— Я закончу. Два тыдні таму назад ноччу прыйшла да мяне паліцыя і забрала ў камісарыят. Пры вобыску дома ў мяне забралі «Капітал» Маркса, які пан прафесар рэкамендаваў нам прачытаць. У тую ж ноч узялі Пэркаля, Каўфмана, Адлера і Зебіна. Нас білі, каб мы прызналіся, што належым да нейкай камуністычнай ячэйкі, ці яшчэ там да нечага. А чаму ўзялі толькі нас? Збілі нас, а пасля забаранілі пра гэта гаварыць. А цяпер калегу Глазіньскага... Відаць, таму, што ён заўсёды нас абараняе ад хуліганаў...

— Цікавыя рэчы, пан плютановы! Біць хлопца-калеку, ды пры такім абсурдным падазрэнні? Можа, мы спусцімся яшчэ на хвіліну да пана дырэктара, пагаворым? А ты, Глазіньскі, на перапынку зойдзеш па сваё пасведчанне.

Пра заняткі далей ужо і мовы быць не магло. Матэматык расказаў нам некалькі павучальных гісторый пра няправільныя падазрэнні і перайшоў да новага рэпертуару сімфанічнага аркестра з такім заканчэннем:

— Што за нахабства — падазраваць Глазіньскага! Першая труба ў аркестры. Прычым яшчэ флейтыст. Ледзь мне камплект не разладзілі. Хто ж бы саліраваў у «Арыі з курантамі»? Спачатку арыштуюць членаў аркестра, пасля ўсю школу, у горадзе пачнецца рэвалюцыя, а тут — праз тыдзень — канцэрт!..

Пачуўся званок на перапынак.

— Дай лапу, Зебін! Дзякую! — сказаў Глазіньскі.

— Ты што мне дзякуеш? Тут мы трохі і самі для сябе... Ну, можа, цяпер табе пачытаць «Шабасгоя»?..

## 18

Апошняя рэпетыцыя сімфанічнага аркестра напярэдадні ўрачыстага канцэрта. Ты сядзіш каля пюпітра з альтам пад пахай і ўглядаешся ў ноты. Ёсць адно небяспечнае месца, дзе ты заўсёды фальшывіш.

Тваё бачанне і адчуванне цяпер разыходзяцца, расшчэпліваюцца амаль гэтаксама, як і на футбольным полі, калі ідзе матч. Тады ты бачыш адразу самога сябе ў якасці капітана каманды, няспынную змену пазіцый, бачыш перад сабой праціўнікаў, усё на іншых ды іншых месцах, прадчуваеш нават задумы, намеры, бачыш мяч, які наносіць на полі чарцёж вашага лётання, адчуваеш арганічную сувязь з камандай, бачыш белыя лініі, вялікі прамавугольнік сваіх варотаў і «іголньнае вушка» чужых... Калектыў, каманда — цудоўная рэч! — памнажаюць тваё ногі, рукі, хуткасць, поле зроку, думкі і фантазію. Радасць твая так здорава памнажаецца радасцю тваіх партнёраў...

Амаль гэтаксама ў аркестры, толькі што тут няма праціўнікаў. Без іншых членаў ансамбля не зайграеш. Але ж і ён, ансамбль, не зайграе без цябе. Ты чуеш какафонію настройкі інструментаў і кароткія эцюды, якія паўтараюцца па некалькі разоў, упарта. У гэтым нястройным шматгалоссі ты заўсёды можаш распазнаць паасобныя інструменты...

Некалькі лёгкіх удараў палачкай па пюпітры, і ўсё змаўкае.

— Хлопцы,— кажа ваш матэматык-музыка.— Адбылося тое, што я і прадчуваў. Глазіньскага назаўтра выклікаюць у суд. Без сола на флейце іграць мы не можам. І канцэрт ужо нельга адкласці. Вы ведаеце Стэфана Зажэцкага, што канчаў нашу гімназію?

— Ведаем, хто тут старэйшы. Ён на флейце іграў.

— Слухайце, хлопцы! Я паслаў яму запіску з просьбай, каб заўтра ён замяніў Глазіньскага. Зажэцкі пазваніў, што ён працуе і на рэпетыцыю прыйсці не можа. Абяцаў, што калі мы зусім дакладна пачнём, дык ён забяжыць на чвэртку гадзіны, прайграе сваё сола, але, на жаль, адразу ж павінен будзе бегчы на сваё дзяжурства.

— Рызыкоўна гэта, пан прафесар. А як ён спозніцца — што тады?..

— Пан прафесар, а можа, возьмем іншы твор?

— Хлопцы, я веру яму. Я працую тут ужо даволі доўга, а яшчэ не было выпадку, каб каторы вучань падвёў сваю гімназію. Я вам заўсёды і абсалютна веру.

— Але ж, пан прафесар...

— Хлопцы, годзе. Пакуль што Цішэўскі будзе, скажам так, флейтай. Увага! Пачалі!

Ты памятаеш, колькі табе каштавала тая няўпэўненасць? Цяжка было разабрацца, што горш — кампраметацыя перад публікай ці расчараванне, якое магло спаткаць вашага прафесара.

І вось канцэрт. Зноў пюпітры, настройка інструментаў, святочны пошум у зале, пабліскванне дырыжоравых акуляраў, яго бледны твар, растуленыя вусны, пасма валасоў на лбе... Раз і два зірнуў на гадзіннік, пастукаў палач-

кай і ўзняў рукі. Перапоўненая зала заціхла. Ты чуеш, як неспакойна б'ецца тваё сэрца, з кожнай хвілінай усё хутчэй. Ты бачыш неспакойныя твары сяброў. Момант сольнай партыі флейты ўсё набліжаецца, цябе ахоплівае панічны неспакой, ноты скачуць перад вачыма. Ты глядзіш на бледны, але і спакойны твар прафесара, на рукі яго, што нібы крылы аслабелай птушкі... Цяпер літаўры, трубы, а потым адразу... Так, неўзабаве будзе запозна... Што ж ён зробіць, наш дырыжор?.. І раптам адчыняюцца дзверы ў зале і цераз натоўп слухачоў, якія стаяць, бо не хапіла месц, праціскаецца ў мокрым брызентавым плашчы Зажэцкі... Яшчэ некалькі тактаў... Ён садзіцца, з маланкавай хуткасцю вымае з футарала флейту... Паспее! Так, паспее!.. І вось сола плыве, як крыштальны струмень,— беспамылкова, цудоўна... Ты бачыш, як на лбе Цішэўскага аплываюць вялікія кроплі поту, як двухметровы Казьмерчак сціскае свой кларнет і дыхае, нібы ён з якога канала вылез на свежае паветра, праясняецца Бартчакаў твар, а Ягела лёгенька штурхае цябе локцем і шэпча:

— Бачыў, хлопец, як яно робіцца ў нашай гімназіі?..

Прафесар рытмічна паводзіць-памахвае палачкай. Твар яго, як і раней, бледны, спакойны. Прафесар уздымае левую руку вышэй, папярэджвае гэтым сігналам, што сола вось-вось канчаецца, што ўвесь ансамбль павінен увайсці ўсёй магутнай лавінай... Ужо ўступілі бубны, літаўры, трубы, цяпер пачаўся прыліў валторнаў і скрыпак... І тады Зажэцкі хавае сваю флейту ў футарал, прыгнуўшыся сыходзіць з эстрады і, пад гром літаўраў, знікае з залы. Бура воплескаў заглушае аркестр. Ясна — каму яна, тая авацыя. Дзверы залы адчынены, апладысменты лавінай коцяцца па сходах, да-

ганяючы Зажэцкага, які бяжыць уніз і яшчэ, відаць, на вуліцы чуе іх, воплескі, праз шум дажджу... Прафесар дырыжыруе далей, да самага канца, да апошняга такта.

Зноў хваля воплескаў. Перапынак. Публіка выліваецца на калідор. Пасоўванне крэслаў, гартанне нотаў, нягучнае настройванне інструментаў.

— Быў момант страху, пан прафесар, быў,— кажа піяніст Глогер.

— Зусім дарэмна вы, шаноўны, хваляваліся,— адказвае прафесар.— Абяцаў, дык і прыйшоў. Ну, хлопцы, рыхтуемся да Афенбаха. Праз пяць мінут пачатак. Бартчак, вазьмі карнет. Трэба трохі дастроіць літаўры...

## 19

Ваенную падрыхтоўку дапрызыўнікаў ты закончыў на «выдатна». І заплаціў ты за гэта, бравы ваяка Швейк, лішнім годам вучобы ў гімназіі. Цябе і Каўніка, як выдатнікаў, паслалі на унтэр-афіцэрскія курсы інструктараў.

Казармы твайго пяхотнага палка былі далёка ад цэнтра Лодзі, у прыгарадзе Зажэве. У раёне гэтым густа было ад салдатні — артылерыстаў і пяхоты. У пад'ездах пахіхіквалі дзяўчаты. У шэрых каменіцах здаваліся пакойчыкі. На вуліцы часта гучалі песні вайсковых рот ды батарэй, што накіроўваліся на заняткі. На ціхай, амаль бязлюднай вулачцы святога Юрыя стаяў у засені дрэў гарнізонны касцёл. Перад дзяржаўнымі святамі аркестры развучвалі маршы, і процьма дзяцей збягалася тады на гукі музыкі. Па гэтай трасе часта праходзілі пахавальныя працэсіі, тармозячы трамвайны рух. Жалобныя песні, плач, галашэнне, мноства людзей на тратуарах, мерны тупат

салдацкіх ног, скрыгат трамвайных тармазоў, званкі — усё гэта рабіла тое Зажэве дзіўным прыдаткам да ўсёй Лодзі. Ты ведаў гэтыя панурыя казармы і раней. Кожны год, у самую асеннюю непагадзь, трэба было прыязджаць сюды, на старыя каталіцкія могілкі, памінаць сваякоў у дзень «усіх святых». І цяпер табе, «наезджаму курсанту», казарменныя вучэнні і лекцыі напаміналі цвінтарную слату і маўклівае снаванне паміж магіл у акружэнні цётак, дзядзькоў і іншай усякай радні.

У казармах смярдзела лізолам, прыбіральняй, мужчынскім потам. Лепш было на вучэбным пляцы. Прафесіянальныя унтэры з прыемнасцю дазвалялі табе памагаць ім у муштроўцы навабранцаў. Старэйшыя за цябе, пераважна вясковыя хлопцы-салдаты, што ўжо тым часам ведалі жыццё, глядзелі на такога памагатага з панурай непрыязнасцю. А ты не мог нацешыцца сваёй «уладай», ахвотна засвойваючы казарменную мову, напеўныя выгукі каманды, уедлівыя начальніцкія маналогі. Гульня не была сумленнай: за плячыма ў цябе быў магутны заступнік — ротны старшына, які адной сваёй прысутнасцю паралізаваў усякую рэакцыю рэкрутаў. Аднак ты бачыў тады самога сябе і збоку, крытычна і ўстрывожана, пасіўна назіраючы працэс дэмаралізацыі, што апаноўвала цябе.

Такой цаною плаціў ты за нездаровую, блазенскую ганарлівасць, за «перамогі» над Каўнікам у вашым спаборніцтве за права ісці трошкі спераду на парадах, за права насіць тады шаблю.

Зірні на свой здымак з тых дзён,— у прыгожым мундзіры, пры шаблі, з фанабэрыста скрыўленай набакір канфедэраткай. З гонарам ты паказваў яго, гэты здымак, знаёмым і цёткам. Але праз некалькі год, зноў гледзячы

на яго, ты ўжо меў права сказаць, што ведаеш, хто называецца класічным камедыянтам. А пакуль што ты ганарыўся тым, што ў ваш клас, часцей за ўсё на ўроку фізікі, уваходзіў швейцар і паведамляў, што тэлефанаграма з палка выклікае цябе неадкладна з'явіцца ў казармы або на такі ці іншы вучэбны плац. Ваш фізік уздыхаў і гаварыў:

— Ну што ж, ідзі. Ты нам тут толькі паветра дарэмна псуеш.

Выклікі з урокаў фізікі былі не выпадковыя,— гэта быў вынік тых папяросных хабараў, якія ты з гэтай мэтай даваў ротнаму старшыну.

Захапіла цябе і іншая страсць: на твае спартыўныя здольнасці звярнуў увагу вядомы фехтавальшчык, алімпійскі чэмпіён капітан Кузьніцкі. Ты вытрымаў некалькі месяцаў пакутлівых трэніровак, пазнаёміўся з лепшымі фехтавальшчыкамі таго часу. Паслабелі твае кантакты з пасляабедзенным жыццём гімназіі. Міхна сваёй іранічнай усмешкай даваў табе зразумець, якім верхаглядам ты робішся, як апускаешся грамадска і палітычна. Кляновіч з вялікай цяжкасцю выціскаў з цябе фельетоны або гумарэскі для «Бюлетэня». Добры дзядзька Янак штораз, то ўсё больш неахвотна пісаў табе даведкі: «Па прычыне прастуды ў школу не мог з'явіцца...» Настаўнікі чыталі гэтыя тлумачальныя запісачкі штораз, то ўсё з большым недаверам і расчараваннем... Ты каціўся ніжэй ды ніжэй...

У той перыяд табе давялося аднойчы нанесці імянінны візіт цётцы, якая была дырэктарам жаночай гімназіі на вуліцы Вальчаньскай. Дзядзька Павел, выкладчык матэматыкі і фізікі, фактычна сам кіраваў гэтай школай, архікаталіцкай па духу, звязанай таварыскім жыццём з гімназіяй Купецкай...

У салоне — мноства гасцей, сярод якіх ты з жахам заўважаеш некалькіх сваіх настаўнікаў з Купецкай і Гарадской гімназій. На ганаровым месцы сядзіць біскуп, які часамі служыў малебны ў школьнай капліцы Купецкай гімназіі і якому ты калісьці аднойчы прыслужваў. У біскупа разумны твар, прыемная ўсмешка, добрыя вочы. Біскуп дружыў з дзядзькам Паўлам.

Калі вы з сястрой Іркай і братам Марэкам уручылі імянінніцы кветкі і адрас, яна пасадзіла вас сярод моладзі, дзе былі ўжо вашы дваюрадныя сёстры і некалькі гімназістак. Твая дваюрадная, Зося, гімназістка апошняга, восьмага класа, сядзела са сваёй сяброўкай Жэняй Запатоцкай, вельмі прыгожай, як цыганачка.

Ты заўсёды дурнееў каля дзяўчат, а тут жа яшчэ і настаўнікі. Каб не сказалі яны, чаго добрага, пра твае «поспехі» ў вучобе дзядзьку Паўлу.

Яшчэ пры каве дзядзька ўзяў цябе пад руку і, як асуджанага на смерць, павёў да крэсла, у якім сядзеў біскуп.

— Ну, дык што, мужны юнача,— сказаў той мяккім, чыстым голасам.— Я толькі цяпер даведаўся, што ты перайшоў у Гарадскую гімназію. Як жа табе падабаецца ў новай школе?

— Я задаволены, ваша праасвяшчэнства.

— Кажуць, што ў гэтай гімназіі дух прагрэсіўны. Там вучыцца цікавая моладзь. Магчыма, ёй не хапае добрых свецкіх манераў, ды, божа мой, хіба ж гэта галоўнае.

— Ваша праасвяшчэнства, і з гэтым справы не такія ўжо і благія. Калі і ёсць трохі свавольства, дык жа і ў іншых гімназіях яго не менш.

— Я думаю, мой дарагі, што з гадамі гэта праходзіць. Чуў я, што вы часамі залішне даку-

чаеце ксяндзу Шчапаньскаму. А гэта ж добры чалавек, старэнькі ўжо, хваравіты. Паспрабуй гэта растлумачыць сваім калегам, тым, так сказаць, рэвалюцыянерам ды атэістам. У іх жа добрыя сэрцы, павінны ж яны зразумець, што гэта — справа гуманных паводзін. А ты як — веры яшчэ не страціў?

— Ваша праасвяшчэнства, я толькі цяпер пачаў разумець сапраўдную сутнасць Евангелля...

— Вось бачыш, як добра! Гэта, напэўна, не вынік урокаў ксяндза Шчапаньскага, а грамадская атмасфера, кантрасты. Дыскутуйце аб праўдзе, спрачайцеся... Я спадзяюся, што цябе там не пераробяць на марксіста... Ну, тут я табе, стары чалавек, марочу галаву, а цябе яно, вядома, цягне ў той куток, да моладзі...

І ён падаў табе далікатную, васковую руку з вялікім пярсцёнкам на пальцы.

Ты не дайшоў да свайго месца. Дзядзька, паварушваючы вусамі, павёў цябе ціхенька ў свой кабінет.

— Прысядзь на хвілінку. Не аскандаліўся ты перад біскупам?

— Здаецца, не.

— Скажы мне, дарагі, ты ўмееш танцаваць?

Пытанне гэтае з вуснаў дзядзькі здзівіла цябе.

— Вядома. Тата пасылаў мяне на курсы танцаў, куды ён і сам калісьці, як быў кавалерам, хадзіў. Таму, відаць...

— У нашай гімназіі будзе неўзабаве вечар танцаў. Мы заўсёды запрашаем старшакласнікаў з Купецкай гімназіі. Гэта прыстойная моладзь, хоць танцоры з іх — злітуйся, божа! Калі хочаш, дык я дам табе запрашальны білет. Сустрэнешся з калегамі з ранейшай школы. Як?

— Я вас прасіў бы, дзядзька, даць мне яшчэ шэсць запрашэнняў, для маіх цяперашніх сяброў.

— Не, гэта немагчыма. Зашмат я чуў пра вашу гімназію, каб пайсці на такі рызыкоўны эксперымент.

— Што ж, тады і я не пайду. За сяброў я ручаюся. Хоць на танцораў сапраўдных вы, дзядзька, зірнулі б.

— Ды ў вас там і формы няма. Хто ў чым...

— Мы прыйдзем у чорных вячэрніх гарнітурах.

— А дзе ж вы іх возьмеце?

— Гэта ўжо, дзядзька, наша справа.

— Ну, калі ты поўнасцю бярэш адказнасць на сябе, дык на́ табе яшчэ шэсць запрашальных білетаў. Можа, толькі з класным сваім пагавары — пра склад сваёй групы.

— Не, дзядзька, такое ў нас не пройдзе. Мы не дзеці.

Ты вяртаешся з кабінета да моладзі, не прадчуваючы, што неўзабаве трапіш у новую сетку, якая павалачэ цябе ўніз: да другога года ў тым самым класе. Сетка гэтая была саткана позіркамі Жэні Запатоцкай, Цыраньскай і тваёй дваюраднай сястры.

— Ты ведаеш, мы з Жэняй перайшлі цяпер, пакуль рыхтуемся да выпускных экзаменаў, на нашу дачу ў Артуравак,— сказала саладзенька дваюрадная.— Мы там зусім-зусім адны ў самым лесе. Увечары і ноччу страшэнна баімося, бо там часамі круцяцца нейкія падазроныя тыпы. Мама просіць цябе, каб ты перайшоў да нас на гэтыя пару тыдняў. Нам будзе смялей. Будзе ў цябе свой пакоік... У нас патэфон. Ну, як?

— Але ж мне трэба ў гімназію хадзіць.

— Падумаеш — бяда якая! Ад нас да трамвайнага кальца не так ужо і далёка. Устанеш

трохі раней, добра будзе прайсціся па лесе, потым трохі каля яўрэйскіх могілак і на трамвай. Для спартсмена выдатная трэніроўка.

— І я таксама вельмі прашу вас,— міла ўсміхнулася Запатоцкая.— Ну, згадзіцеся!..

Ведаў ты добра, як яна будзе цяпер выглядаць — тая твая далейшая вучоба. Але сетачка Жэніных позіркаў была такая гусценькая, што тваё «не, не магу» так праз яе і не прайшло...

Семнаццаць вёснаў было ўжо ў цябе за плячыма. Ты бегаў раненька лясной дарогай, сэрца тваё трымцела, а цені высокіх дрэў, здавалася, ажно тарахцелі па тваёй імклівай постаці. Тое беганне на трамвайны прыпынак было штораз, то ўсё радзейшае, а пах лясны — усё мацнейшы...

Тады ў твае рукі трапіла і захапіла цябе кніга Тарцінгтона «Семнаццатая вясна». Ты параўноўваў сябе з героем гэтай цудоўнай кнігі, разам з ім перажываў яго трагедыі, адчай, сумненні, трывогі, крыўды і спадзяванні. У падабенстве пачуццяў, перажыванняў ты шукаў апраўдання той пакорнасці, з якой згадзіўся застацца ў тым самым класе на другі год. Толькі поспехі па «вайсковай», фехтавальнай і танцавальнай лініі прысалоджвалі горыч паражэння ў школе.

## 20

Падумай — колькі новых слоў унёс ты ў свой слоўнік паняццяў. Прачытай іх у тым няпісаным слоўніку, пачынаючы ад вуліцы Славянскай, ад кнігі «Дзікі мустанг», ад кольчатых галубоў, акварыумных рыбак і чарапахі. Сва-

бода, справядлівасць, годнасць, гонар, патрыятызм, салідарнасць, калектыў, народ, класы, пралетарыят, адказнасць, адданасць, дэмакратызм, смеласць перакананняў, традыцыя, Евангелле, сацыялізм, камунізм, гуманізм, давер, дружба... Аднак у гэтым рэестры не хапае пачуцця і слова найважнейшага, без якога не было б ні свету, ні цябе. Няма тут слова **любоў**. Кожны, хто стрэліць гэтым словам наслепа, заўсёды куды-небудзь пападзе: у бога, бацькоў, радзіму, у ідэю, у іншага чалавека. Ты добра ведаеш, як многа форм любові, яе разнавіднасцей, фарбаў, ты ведаеш, што сілай любові чалавек рэалізуе і насычае ўсё.

Тут справа ў той любові, якую чалавек адкрывае і якою так інтэнсіўна жыве ў маладосці. Няўжо ты ніколі не быў закаханы? Ты не ўмееш і не любіш гаварыць пра гэта. Заўсёды ты быў закаханы, да самазабыцця, але, відаць, вулканы гэтыя хаваў за сямю гарамі, за сямю рэкамі сваёй душы.

Вярніся найдалей, найглыбей у краіну свайго маленства, аж да самога парога памяці. Што было на пачатку тваёй свядомасці? За сонечнай смугою падарожжа па стэпах Украіны... Пах лясной жывіцы, мурашкі сярод ліпкіх шышак на залатой палянцы... Шырокі Дняпро... Нейкія каменныя фрагменты Екацярынаслава, дзядзькава кватэра... Партрэт Касцюшкі, лялечны паяц, ціканне гадзінніка, сіпенне самавара... Новамаскоўск... Кавуны, семачкі ў кішэньцы, халва, памідоры, сакавітыя грушы... Нямецкі аркестр у парку, бліскучыя «пікельгаўбы», палачка дырыжора... А потым стрэлы, выбухі гранат, крыгаход на рацэ, аброслыя мужчыны ў скураных куртках... Бульба ў лупінах, грэцкая каша... Аднак найбольш выразна бачыш ты тварык малой сяброўкі гульняў — Марысі. Ты сядзіш з ёю пад сталом, акружаны

нагамі старэйшых, якія за сталом, над вамі, папіваюць чай. Як жа добра табе, як соладка! Ты з захапленнем глядзіш на Марысіны светлыя кудзеркі, на ружовы язычок, які раз-пораз паказваецца, калі яна смяецца. І гэта было адзінае, найбольш выразнае, без усякай смугі, што ты вынес з таго знамянальнага часу, з дзён Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, з твайго пяцігадовага жыцця на Украіне, вялікая любоў, што нарадзілася раней, чым слова, якім акрэсліваецца гэтае пачуццё.

А пасля ўжо тут, у фабрычнай Лодзі, сэрца тваё білася неспакойна пры кожнай сустрэчы з іншай Марысяй, тваёй сяброўкай па дзіцячым садзе.

Пазней, у Купецкай гімназіі, пачуццё гэтае азвалася з новай сілай. Вярніся ў свае адзінаццаць гадоў... Ты ідзеш дадому з рэпетыцыі хора. Раз-пораз дакранаешся плячом да плячча Геніка Пшэгалінськага, задзіры, сябра па многіх бойках. Перад вамі ідзе Ванда Стэмпоўская, гімназістка апошняга класа, салістка зводнага хору, старэйшая за вас на сем гадоў.

— Глядзі, Філосаф, што за бабка! — кажа Генік.— За такою можна пайсці на край свету. Зірні толькі, што за ножкі! Што за ножкі! У гэтую Ванду палавіна гімназіі закахана.

Ты прыглядаешся да ног у шаўковых панчошках. Вясняны вецер прыклейвае да бліскучага шоўку край сіняй спаднічкі. Туфелькі на высокіх абцасах рытмічна пазвоньваюць па плітах тратуара. У памяці тваёй усплылі тады ілюстрацыі з дзядзькавага французскага журнала «Фантазія»,— сотні малюнкаў дзяўчат з такімі самымі стройнымі ножкамі ў шаўковым пабліску панчох.

З таго часу ты пачаў паглядаць на Геніка, як на небяспечнага саперніка, ворага. На рэпетыцыях хору ты намагаўся падсунуцца як

мага бліжэй да ўзвышэння для салісткі і глядзеў на Вандзіны ногі, на туфелек, што ціхенька, нячутна выстукваў рытм мелодыі. Ты заглядаўся на яе твар, слухаў, як зачараваны, яе спеў. Ты прагнуў аднаго: каб яна толькі зірнула на цябе, заўважыла цябе сярод мноства іншых у хоры... Але мары тыя ніколі так і не збыліся. Цябе растузвала бездапаможная рэўнасць, калі ты бачыў, як яна, Ванда, весела смялася, вяртаючыся з рэпетыцыі ў кампаніі з барытонам, васьмікласнікам Нядзведскім і салістам Шумпіхам...

Потым была дваюрадная сястра Лена, на жаль, таксама старэйшая за цябе, і былі тры Крыстыны, і чужая сімпатыя Андзя, якую ты бачыў на славутым «дэптаку», і Яніна, сяброўка тваёй сястры, таксама старэйшая...

А пасля была чарнавокая Цыраньская з таго вечара, калі цябе дзядзька Павел падводзіў да біскупа, і нарэшце — ну, лёс! — таксама старэйшая за цябе Жэня Запатоцкая, за «гонар» якой ты нават біўся са старэйшым гімназістам.

Усе гэтыя твае любові былі шалёныя, вялікія і ў найвышэйшай меры платанічныя. Найменшая адзнака ўзаемнасці заўсёды была тым вядром халоднай вады, якое адразу ж тушыла сардэчны пажар. Ты сам не мог зразумець тых сізіфавых пакут, у якія цябе цягнула, як начнога матыля ў агонь. Ты змагаўся, але панічна баяўся перамогі, рэзка спыняючыся на яе парозе.

З усяго сузор'я дзяўчат у памяці тваёй надоўга засталася адна асляпляльная, пералётная камета. Каханне наймацнейшае,— нават не ведаеш, да каго. Нават не ведаеш яе імя. Ты стаяў на задняй пляцоўцы трамвая і ўбачыў яе, у сонечнай пляме, таксама на задняй пляцоўцы трамвая другога, што ішоў насу-

страч. Яна была надзвычай прыгожая, зграбная, чароўная, што ажно вочы твае крыкнулі, ажно дыхнуць было немагчыма. I што за шчасце! Яна, відаць, заўважыла тваё захапленне: выхілілася ў праёме, усміхнулася і прыязна памахала рукой. Тая секунда была для цябе найбольшым шчасцем жыцця. Не, табе не хацелася яе даганяць, шукаць, сустрэцца, яшчэ раз убачыць яе наяве. Ты нават баяўся такой сустрэчы, ведаючы, што перажыванне, якое ты адчуў, не можа паўтарыцца. Хоць бы не адпалохаць тое, што ты носіш у душы!.. Ты бачыў яе ў снах, заўсёды далей, чым на адлегласць працягнутай рукі, заўсёды недасягальную, напаўрэальную, безыменную, з тым прыязным памахваннем рукой. Яна была тваёй, бо бачыла цябе, смяялася табе. Было вам тады па пятнаццаць гадоў. Ты не мог перадаць тое адчуванне ў вершах. Ты насіў яго ў душы, назваўшы імем любові.

Гэтае слова свяціла ў тваім слоўніку паняццяў найясней.

## 21

Чэрвеньская спякота награвае муры дамоў і фабрык, брук вуліц і пліты тратуараў. Цяжкія вазы выціскаюць на топкім асфальце амаль каляіны. Над горадам расце, уздымаецца грыб фабрычнага дыму. З'яўляюцца першыя сялянскія падводы, наладаваныя сталамі, старымі крэсламі, жалезнымі ложкамі, матрацамі, сеннікамі, пасцелямі, тазамі, каструлямі... Гэта дробныя чыноўнікі выязджаюць «на дачу» ў недалёкія вёскі або яўрэйскія крамнікі — у свае драўляныя буды, якіх так многа ў прыгарадным лесе. Прадаўцы марожанага ў брудных халатах адпускаюць са сваіх зялёных ва-

зочкаў салодкі тавар. На вуліцы Кілінскага распачынае свой сезон Гарольд Лойд — сумны, бледны яўрэй у амерыканскіх акулярах. Яго акружае натоўп моладзі, што вяртаецца з басейна Бойтлера. Гарольд раз-пораз выцірае клейкія рукі аб халат і цягне сваю штодзённую літанію: «Смятанкавае, шакаладнае, ананаснае!.. Сюды! Сюды!..»

У фабрычных раёнах рабочыя робяцца падобнымі да тых, каго ты бачыў на карцінах Лентца,— закасаныя да локцяў рукавы шэрых кашуляў, расхрыстаныя каўняры, аброслыя грудзі.

У цэнтры горада над вітрынамі магазінаў нацягваюцца брызентавыя стрэшкі ў каляровыя палосы. Перад кафэ, пад вялікімі парасонамі, паблісквaюць столікі і садовыя крэслы.

Смутак і жаль палоняць тваю душу. Яшчэ раз перачытваеш, нібы не верачы сваім вачам: «Застаецца на другі год...» Развітваешся з сябрамі. Не, ты не паедзеш у Буск выступаць са школьным аркестрам. Гэтыя бясплатныя канікулы ў курортнай мясцовасці ані не вабяць цябе. Ты павінен адбыць сваю пакуту ў адзіноце, як найдалей ад гэтага няўдзячнага горада. Спачатку трэба будзе перажыць бацькава маўчанне і мамін сум, а потым — на Нёман і Шчару, да дзядзькоў.

На паўстанку чакае фурманка. Дзядзька Алесь у светлым пінжачку вітаецца весела і сардэчна.

— Паехалі, Юзік?

Тут цябе клічуць Юзікам, не Мацеем.

— Паехалі!

І вы сядаеце на воз.

...А цяпер ты ў Галубах.

Як жа далёка ты адплыў ад вялікага горада, ад клопатаў і непрыемнасцей, якія так дакучалі табе, ад горычы, якую прынёс табе апошні школьны дзень...

Юлік адпіхнуўся двухметровым шастом ад пясчанага дна. Доўгі вузкі човен не задрыжаў, не пахіснуўся, нібы паглыблены ў застылы крышталь возера. Аднак узбярэжныя галубоўскія хаты з аблямоўкай платоў і дрэў пачалі павалі, бязгучна сунуцца ў бок Орлі. У чыстым паветры, пад шырока адкрытым небам, стаяла звонкая цішыня. Магутнае, цёмнае крыло пушчы засланяла гэтую наднёманскую вёску ад шуму вялікага свету. Усё жывое сплыло з Галубоў у шырокую лугавую пойму — да самай ракі. Касавіца.

Ты сядзіш на носе чоўна і глядзіш, як лагодна адплывае назад вёска, глядзіш на Юліка, які стаіць на карме,— стрункі, як мачта, з якой вецер паабрываў белыя, пушыстыя ветразі і паразвешваў іх высока-высока ў блакіце. Юлік прыгожы, сонечны, повен гармоніі, як алімпіец з кап'ём. Два босыя ступакі ледзь памяшчаюцца на дне выдзеўбанай калоды. Кароценькі цень на чоўне і яркае, выразнае адлюстраванне на вадзе.

Юлік упёрся ў пясчанае дно залацістым шастом, ціскануў на яго ўсёй сілай і выпраставўся.

— Юзік, глядзі, гэта твая, пра якую ты ўчора пытаўся,— сказаў ён табе, кіўнуўшы галавой у бок берага.

Ты зірнуў направа. Каля белай хаты, пад кустом акацыі, стаяла, як скульптура, стройная красуня. Басаной, светлавалосая, блакітнавокая. У хусціне «пад бараду», у шаўковай кофтачцы, нібы цеснаватай на малых грудзях.

— Як яе завуць?

— А ты ўжо забыўся? — усміхнуўся Юлік.— Марылька. Марылька Мудрава.

Веслануўшы шастом да сябе, Юлік прымусіў увесь узбярэжны пейзаж апісаць дугу, нібы хто сярпом махануў па даляглядзе,— і човен ваш шаргануўся носам у бераг.

Усё спынілася. Толькі ў грудзях затрапяталася сэрца.

— Што гэта ты, Марылька, так прыбралася, як у свята?

— А што табе, Юлік, да гэтага?

— Ды што мне. Вось бацька дасць табе, як з сенажаці вернецца.

— А ў цябе дык сёння што, не свята?

— Мая работа — рыбу лавіць. Я і лаўлю.

— У самы поўдзень? На пяску?

— Ды ўжо ж, Марылька. Як бачыш. Падыдзі бліжэй, я табе тут шчупака пакажу. Два метры.

— Падумаеш, не бачыла.

— Эх, Марылька, Марылька! А будзеш увечары купацца з Амерыканкай у возеры?

— А табе што?

— Люблю лавіць дзяўчат у вадзе, пры месяцы.

— Мяне на вуду не возьмеш. А пра Амерыканку ў мяне не пытайся.

— Малака халодненькага дасі нам трохі напіцца?

— Не дам! — адрэзала яна, махнуўшыся за вугал хаты.

Юлік усміхнуўся, бліснуўшы зубамі.

— Прыгожая, смаркуха. Прыбралася, як на фэст. Уся вёска на сене, а яна стаіць і пацеркамі патрэсвае. Ну, паплывём далей. Можа, Амерыканка прынясе нам малака.

— Дык іхняя ж хата ажно пад лесам.

— Што там хата. А малако будзе.

Ён адпіхнуўся ад берага.

А ўжо тым часам да вас з далёкіх лугоў пачалі даходзіць людскія галасы і смех. Галасы былі чыстыя і выразныя. Да цябе дакрануліся, ціхенька зазванілі лісты аеру.

Ды раптам зноў карусель,— закруціўся ўвесь шматфарбны свет на супрацьлеглым беразе возера, а потым усё спынілася і застыла. Пясок захрумсцеў пад чоўнам, і толькі Юлік яшчэ вісеў над вадой, абапершыся на шост.

— Эй, Амерыканка! Скакані ты ў хату ды прынясі нам малака.

Цяпер толькі ты азірнуўся і ўбачыў каля самага вашага чоўна дзяўчыну — чарнявую Марыльку з пранікам і палатнінай у руках. Што за чароўная краса! Чорныя валасы, чорныя, агністыя вочы і аліўкавы твар італьянскай мадонны.

— Ну і дурны! Ты ж мяне ледзь не раздушыў сваім чоўнам!

Ты нязграбна вылез з хісткага чоўна на бераг. За табою — Юлік.

— Юзіка ведаеш? Гэта сваяк Гузеляў.

— Добры вечар,— сказаў ты і працягнуў руку.

— Да вечара яшчэ далёка, толькі ж паўдня на дварэ,— адказала яна, выціраючы мокрую руку фартушком, і ў цёмных вачах яе з'явіліся вясёлыя агеньчыкі.

— Чорная ты, як ноч, дык і «добры вечар»,— сказаў Юлік.— Ды бяжы ты па халоднае малако, а то нас тут сонца дашчэнту растопіць.

Амерыканка палажыла пранік і палатніну на траве і мяккай, плаўнай хадою накіравалася ў той бок, дзе была яе, вам нябачная, хата.

— Што, Юзік, не казаў я? Хата далёка, а малако да нас прыйдзе само. Я ведаў, што і яна пільнуе сёння вёску над возерам.

— Чаму вы кажаце на яе Амерыканка?

— Бацька яе доўга быў у Амерыцы, зарабіў трохі долараў, вярнуўся, зрабіў новую хату, прыкупіў зямлі і чакае, калі які-небудзь дзяцюк забярэ яго дачку. Але доўга, мусіць, прыйдзецца чакаць.

— Чаму ж? Прыгожая, багатая...

— У нас чорныя не ў пашане. Ніхто такіх замуж не бярэ. Кажуць, што злосныя.

— А яна злосная?

— Цяпер-то добрая. Можа крыху ганарыстая. Ды злосць у ёй, чаго добрага, прачнецца потым.

— Лухту гародзіш, Юлік.

— У суботу ў Базевіча будзе вечарынка, дык сам убачыш, што мала хто ідзе з ёю танцаваць. Прыбярэцца, як каралеўна, сядзіць, сцяну падпёршы, паглядае. Хіба што будзе гэты новы настаўнік са Слоніма. Ён у іх на кватэры. Там ёсць і школа.

— Дык што, ніхто з ёю не ходзіць?

— З нашых — ніхто. От, часам пад'едзе брычкай ляснічы. Ды, кажуць, паповіч з Дзярэчына на яе паглядае...

Вы ўбачылі здалёк Амерыканку. Несла збанок і кубачак. А ў зубах трымала галінку акацыі.

— Пі, Юлік, першы,— сказаў ты, а сам далікатна выцягнуў з вуснаў дзяўчыны зялёную галінку.

Юлік напіўся і папаласкаў у возеры кубак. А ты абрываў з галінкі лісток за лістком, да апошняга.

— Ну і што, выйшла па-вашаму? — спыталася яна.

— Заўсёды што-небудзь выходзіць. Ды цяпер — не па-мойму.

Юлік падаў табе поўны кубак і сказаў:

— Па-нашаму варожаць інакш, чым папольску. Можа, і выйшла б. Дзякуем за мала-

ко. Ага! Марылька, прыходзь у суботу на вечарынку.

— Не прыйду.

— Ну, дык і мне няма чаго ісці,— прамармытаў ты.

— Чаму? — спыталася дзяўчына.

— Не будзе з кім танцаваць.

— Якраз не будзе! У нас хапае прыгожых дзяўчат — Марылька Мудрава, Базевічанак пяць, Зося, Юлікава сястра, Ваўчкевічавы, Гузелева, Гядрэвічанка...

— Скажу я табе, Амерыканка,— перапыніў яе Юлік,— што не будзь ты такая «мудрава». Як не прыйдзеш сама, то папросім. Бывай!

І адштурхнуў ваш човен ад берага.

Ты ляжыш над самым абрывам. Нібыта хтосьці вялізнай сякерай абсек гэтую лясную гару, агаліўшы карэнне дрэў, што залезла глыбока ў пясок. Ажно сюды, на гэтую вышыню, узбеглі з пушчанскай нетры паднебныя сосны, бліжэй да сонца, да воблакаў, бліжэй да Нёмана. Як жа далёка адгэтуль відаць! Бязмежжа зялёных лугоў, сям-там азёрная сінь, а налева шырокая стужка ракі, аблямаваная залатым пясочкам. На зялёным палотнішчы лугу кнігаўкі — нібы крэйдай выпісваюць колы ды эліпсы. Цішыню парушае тут толькі пастукванне дзятла і голас зязюлі. Ты ўзбіраешся позіркам па ствале янтарнай сасны, над якою высока павіс чорнаю кропкай каршун. Крона голай сасны лёгка калышацца і, плывучы, падзяляе на два адно пяшчотнае воблачка. Пахне нагрэтым мохам, жывіцай.

У цэлым свеце не знойдзеш прыгажэйшых мясцін, як гэтыя — паміж Нёманам і Шчарай. Так ты думаеш, хоць за свае семнаццаць год табе яшчэ не ўдалося многа чаго на свеце па-

5 Зак. 2428

бачыць. Ты ўжо ведаеш у гэтых мясцінах так многа вёсак і мястэчкаў! Усюды сваякі, сябры. Дуброўка, Скрундзі, Сліжы, Гарадкі, Масты, Орля, Слонім, Ружаны, Ваўкавыск, Ліда, Навагрудак, дзе жывуць цяпер твае бацькі, а тут — гэтыя Галубы з лесам, лугамі, азёрамі, Нёманам!..

Але ж ці гэта толькі краявід?.. Цяжка будзе табе ехаць адгэтуль. Ты не можаш вызваліцца ад думак пра ўчарашнія сустрэчы над возерам.

Дзве Марылькі,— адна як усход, другая як захад сонца...

Над вуліцай вёскі — воблака белага пылу, а ў пыле важна ідуць каровы, несучы дахаты з пашы вячэрні ўдой. Каля адчыненых брамак стаяць гаспадыні, чакаюць, каб аддзяліць ад гэтай плыні статка сваю Падласку ці Красулю. Сабакі весела матлошаць хвастамі і пабрэхваюць, убачыўшы «свае» каровы і цяляты. Далей, у радчэйшым пыле, што асядае, усё больш выразна праяўляюцца дзве Марылькі — чорная і белая, яны гоняць з пашы галубоўскі статак. Кожная з іх трымае ў руцэ доўгі дубец, з якога абшморгнута лісце.

Ты стаіш на ганку Гузелевай хаты, абапершыся на поручні, і глядзіш на гэтых дзвюх маладзенькіх багіняў. Каля цябе — Франак і Юлік.

— Як завецца гэтая?..

— Пра якую ты, Юзік, пытаеш: пра чорную ці пра белую?

Абедзве зачаравалі цябе аднолькава. І ты сказаў — абы сказаць:

— Пра светлую.

— Гэта ж Марылька Мудрава з-над возера.

Так было пазаўчора. А ўчора дзве гэтыя красуні — над возерам, у апусцелай вёсцы.

Цяпер жа ты ляжыш над абрывам, глядзіш на каршуна і думаеш пра Марылек і пра заўтрашнюю вечарынку...

Праз густое голле старых ліп прабівалася золата захаду. Пасля пачало сутонець — больш ды больш, топячы ў цяжкай хмары змяркання абрысы вёскі. У паветры вісеў салодкі пах сена. Сям-там праз шыбы акон паблісквала агеньчыкам лучына. Недзе далёка пабрэхвалі сабакі. Ад возера даляталі смех і гаворка — ярка, выразна, быццам нехта адколваў ад кругляка сухія клёпкі. Пасля ўдарыў гонг поўнага месяца, і салатавы пыл асеў на дрэвах і стрэхах. Вечар.

Са змроку выйшлі Юлік Гадрэвіч, Косця і Петрык Ваўчкевічы — хлопцы на ўсе Галубы. Паблісваюць боты. Шапкі набакір.

— Як, Юзік, на вечарынку ідзём?

Пачалі рабіць самакруткі, паволі, па-гаспадарску. Заіскрыла крэсіва, затлела блакітным агеньчыкам губка. Здалёк, ад лесу, пачуліся глухія, размераныя ўдары бубна. Цёплы вецер раз-пораз даносіў абрыўкі мелодыі. Пачалося... Цягнула цябе туды як магнітам. І, разам з тым, баяўся ты гэтага вечара, гэтых танцаў, хлопцаў і дзяўчат. Як быццам ты і аднагодак іхні, але ж выглядаў і адчуваў сябе побач з імі зусім хлапчуком. Наіўным, нясталым, самотным, бо ў нечым быў да іх непадобны.

— Чаго ж мы чакаем? Пайшлі! — сказаў ты з нейкай нават фанабэрыяй.

— Пачакаем Франака. Пайшоў бутэльку дастаць.

Прыйшоў нарэшце і Франак. Насунуўшы на вочы казырок, ажно галаву задзірае, каб бачыць свет.

— Хадзем?

— Хадзем!

Базевічава хата зіхацела святлом. Бомканне бубна і бразгат медных талерак секлі на дробныя частачкі мелодыю скрыпкі. Перад хатай, на лаўцы і на жэрдках агароджы сядзелі радочкам, як ластаўкі на тэлеграфным дроце, галубоўскія дзяўчаты. Паабдымаўшыся за шыі ды за таліі, яны калыхаліся ў такт музыкі. Перад імі са смехам і піскам круціліся сямі-дзесяцігадовыя дзяўчаткі ў каляровых хусцінках. Такія сабе маленькія жанчынкі. Правей, воддаль ад дзяўчат, стаялі чародкамі хлопцы, курачы і паплёўваючы праз зубы.

Пяцёх вы ўвайшлі ў светлую хату. Тут было яшчэ пуставата. На лавах, каля сцен, сядзела некалькі старых гаспадароў і жанчын. На покуце, пад абразамі, тры музыканты чокаліся чаркамі.

— Здароў, Майсючок! Рэзні полечку, дай пагрэцца!

— Здароў, Юлік! — адгукнуўся скрыпач.— А што ж гэта з вамі за князь Чацвяртынскі? — дадаў ён іранічна.

Табе стала раптам горача. Не вельмі ты ведаў, як адказаць на гэтую прыдзірку. Зірнуў на Юліка. Ён паклаў табе на плечы свае цяжкія рукі і гукнуў Майсюку:

— А ты падыдзі бліжэй, дык ён сам табе скажа на вуха. Толькі шапку моцна трымай, каб не звалілася!

Ты вылузаўся з-пад Юлікавых рук і, не спяшаючыся, падышоў да скрыпача. Ён здзіўлена, нават, здаецца, трохі збялеўшы, прыўстаў. Ты сам не ведаў яшчэ, што зробіш. Ты тут госць. Прыдзірка гэта — не прыдзірка, от, можа, проста няўдалы жарт? Ты адчуваў, што за плячыма ў цябе — чатыры сябры. Толькі б самому не падкачаць!

— А ты хто такі? Музыка?

— Музыка. Дык што?

— Дай мне скрыпку!

Ён падаў табе яе няўпэўнена. Паправіў шапку.

У дзвюх справах ты адчуваў сябе моцна — у музыцы ды ў танцы. Там цябе нялёгка было перамагчы.

— Юлік, я вас пагрэю!

Ты кіўнуў гарманісту і зайграў той самы танец, які яны нядаўна кончылі.

— Ты таксама ідзі патанцуй,— сказаў ты скрыпачу.

Так яго, здалося табе, найлепш «патушыць».

За вокнамі раптам пачуўся дзявочы піск. Неўзабаве ў хату ўварваліся хлопцы, цягнучы за сабою дзяўчат, якія нібы вырываліся. Пачаліся скокі. У хаце цесна закружыліся пары. І тут цябе, як сярпом, разанулі вочы Амерыканкі, а потым светлая каса другой Марылькі, Мудравай. Абедзве тут! Чарнявая — у сіняй кофтачцы белым гарошкам, а светлая — у той самай белай, што ўчора была, над возерам. Ты граў ды граў. Ужо ажно правая рука млець пачала, ужо некалькі задыханых пар пакінула круг, дзявочыя грудзі дыхалі ўсё хутчэй ды хутчэй, а хлопцы перасоўвалі шапкі на патыліцы, адкрываючы спатнелыя лбы. Гарманіст нарэшце ўзяў апошні акорд.

— Вось дык іграеце! Ажно сорамна пасля вас брацца за смык,— амаль зусім па-сяброўску сказаў Майсюк, здзіўлена гледзячы на цябе.

— А цяпер ты, бо і я хачу тупнуць.

Ты прысеў на канцы лавы і пашукаў вачыма сваіх сяброў. Кастусь Ваўчкевіч падышоў і паляпаў цябе па плячы.

— Нічога не скажаш. Такога скрыпача тут яшчэ мы не чулі. А на гармоніку ты граеш?

— Граю.

— Што ж, тады і худзізна Скібінскі прытупне.

Скібінскі паправіў на плячы рэмень гармоніка. Музыка пачалася.

— А дзе Марылька? — спытаўся ты.— Трэба ж з ёю патанцаваць.

— Якая Марылька?

— Усё роўна якая. Ніводнай штосьці не відаць.

Косця пайшоў на двор. Неўзабаве ён вёў за руку Марыльку Мудраву, якая спрабавала вырвацца.

— Пусці, Косця! Пусці! Я не хачу! Саромеюся!

Кастусь прыцягнуў яе да лавы.

— Вось яна, Юзік. Танцуй.

— Не хочаш са мной, Марылька?

— Я не ўмею па-гарадскому.

— Дык я ўмею па-вашаму. Ну, хадзем.

Калі вы ўплывалі ў рытм музыкі, ты адчуваў яе, Марыльку, вельмі блізка. Вашы далоні, адна ў адной, дрыжалі. Вочы вашы ўцякалі адны ад адных. Пасмы яе валасоў, што не хацелі быць пад хусцінкай, пахлі аерам.

— Добра з вамі танцуецца, пані Марылька,— сказаў ты, не здолеўшы прыдумаць чагосьці лепшага.

— А якая ж я пані? Няхай пан Юзік так на мяне не гаворыць.

— А які ж я пан?

Рабілася ўсё больш ды больш свабодна. З-пад сцен глядзелі на вас. Ты адчуваў сябе пад абстрэлам стольkіх вачэй няёмка. Адзін, два абароты — да адчыненых у сені дзвярэй — і вы задыхана спыніліся.

— Можа, выйдзем на двор?

— Можа, выйдзем,— паўтарыла яна.

Над вамі россып іскрыстых зорак. Вы стаіце моўчкі. А ў хаце гоман, шум, як у вуллі.

— Не холадна табе, Марылька?

— Не.

І зноў стаіце. Кожны гледзячы ў іншы бок. Гарманіст прайшоўся па ладах.

— Можа, пойдзем у хату?

— Можа, пойдзем. Цяпер ты, Юзік, патанцуй з Амерыканкай. Яна штосьці сумная. А танцуе хораша.

Па мясцоваму звычаю ты ішоў першы, аднак за руку ўзяць яе не асмеліўся. Амерыканка, прыгожая і хмарная, як ноч, сядзела побач з дзвюма старэйшымі цёткамі. Вы падышлі да яе.

— Добры дзень,— сказаў ты.

— Добры вечар,— адказала яна.

Музыка зноў зайграла. Спакойны, рамантычны вальс, нейкі мясцовы варыянт «Пецярбургскіх начэй».

— Ці можна? — пакланіўся ты.

Амерыканка ўстала. І яе рука дрыжала, як лісты акацыі на ветры. Як хораша, хвалююча падыходзіла да яе мелодыя вальса! А сама яна мяккая, цёплая, нібыта кот, нагрэты сонцам. Прытулілася мацней. Ты паглядзеў крадком на яе аліўкавы твар. Далікатны пушок над верхняй губой, як на персіку. Шоўк хусцінкі, а потым чорная пасма валасоў раз і другі раз пяшчотна дакрануліся да твае шчакі. Ты адчуў яе лоб і гарачае дыханне.

— Прашу прабачэння.

— Гэта я прашу прабачэння, Марылька. Падлога такая няроўная. Дый цесна.

— Ага, цесна...— і прытулілася яшчэ бліжэй.

Цябе накрыла гарачая хваля. Праходзячы каля музыкаў, ты падміргнуў скрыпачу, каб ігралі далей. Ды што ты зробіш! — падышлі Юлік і Пятрук і прыпынілі ваш з Марылькай танец.

— Юзік, у нас да цябе важная справа.

— Такая пільная? Можа, мы кончым танцаваць? — спытаўся ты засмучана, не адпускаючы Марыльку.

Аднак яна шмыганула з тваіх рук да лавы, дзе ўжо сядзела, задыханая пасля танца, другая Марылька, Мудрава. Яны пачалі пра штосьці шаптацца. Хлопцы павялі цябе праз сені, у нейкія нізкія дзверы. Вы ўвайшлі ў цёмную камору. Тут ты пазнаў у паўцемры старога Базевіча, Франака і старэйшага Ваўчкевіча. Яны сядзелі на шырокай лаве, каля вялікай скрыні. На ёй стаяла бутэлька, некалькі гранёных чарачак і патэльня з гарачым салам.

— Трэба вам і выпіць з намі,— сказаў Базевіч.

«Вось дзе,— падумаў ты,— будзе сапраўднае выпрабаванне». Бо, праўду кажучы, гарэлкі ты яшчэ не піў. От, крыху там у дзядзькоў зімою, у Дуброўцы, пасля далёкай дарогі ў санях.

— Тваё здароўе, Юзік! Ты наш зямляк. Рыбу ты ўжо і вудзіў, і восцямі біў, зайцоў страляў, хадзіў у грыбы, у Нёмане плаваў, гаворыш па-нашаму, водзіш нашых дзяўчат,— лічыў Базевіч.— Майсюку нос падцёр, яшчэ і гарманісту пакажаш, як трэба граць... Пакажаш, Юзік?

— А бачылі, дзядзька, як ён танцуе? — умяшаўся Петрык.

— Адкуль гэтыя музыкі? — спытаўся ты, каб спыніць гэты мілы паток пахвалы. Усё абваліцца марна, як толькі гарэлка ў горла тваё не палезе.

— Музыкі? Сем вёрст адгэтуль. Ну, на здароўе! Вып'ем!

Узялі чарачкі ў тоўстыя пальцы і, прытрымліваючы шапкі левай рукой, махнулі галовамі

назад. Ты — разам з усімі. Трошкі вочы твае палезлі наверх, трошкі закашляўся. Агонь пайшоў па нутры, але ў галаве зрабілася лёгка і ясна. Вы перакусілі. Пасля другой чарачкі зрабілася гнутка ў каленях. Лёгкі шумок, прыбой смеласці, упэўненасці ў самім сабе, у сваім гумары. Пасля было яшчэ «бог тройцу любіць», але на гэты раз ты пана бога ашукаў.

Калі вы вярнуліся ў хату, пад руку табе трапіла Марылька Мудрава. Ты смяяўся з ёю без дай прычыны, прыкідваўся п'янаватым. Вы ўкруціліся ў круг. Добра прыкметна было, што і іншыя хлопцы ўзялі па чарачцы. Чырвоныя, спацелыя твары, смелыя позіркі, а ў некаторых ужо і вочы як не свае, і хада не цвёрдая. Парна было, душна, сіня ад дыму. Гамана і цяснота. Вы ўжо не апраўдваліся тым, што падлога няроўная, што цесна. Цяпло Марыльчынага цела і пах аеру хвалявалі цябе куды больш, чым раней.

— Ну, купаліся вы з Амерыканкай у возеры вечарам?

Яна прытулілася яшчэ мацней.

— Штосьці нядобра мне, Марылька,— сказаў ты і прытуліўся шчакой да яе лба.

Музыкі рэзалі танец за танцам, бесперапынна. Ты не хацеў, не мог адарвацца ад Марылькі. Блакітныя азярынкі яе вачэй сталі прымгляцца...

А з лавы глядзелі на цябе, як дакор сумлення, чорныя, агністыя вочы Амерыканкі.

Нарэшце музыкі паклалі свае інструменты на стол і выйшлі з хаты надоўга. Хата пачала пусцець. Хлопцы, паабдымаўшыся з дзяўчатамі, пасыпаліся за парог. Ты ўзяў пакінуты гармонік, паправіў на плячы яго рэмень і выйшаў на двор. Вочы твае спакваля прывыклі да цемры. Каля кустоў язміну чуліся галасы і смех дзяўчат, якія тузаліся з хлопцамі. Ты ўжо вы-

разна бачыў светлыя хусткі, кофтачкі, твары... Дзе ж Марылькі? Але, гэта яна, Амерыканка, самотна сядзіць на пералазе. Ты падышоў і сеў побач.

— Што табе сыграць, Амерыканка? — падсунуўся ты бліжэй і ўзяў некалькі акордаў.

— Нічога.

— Злуешся?

— Не.

— Чаму ты сядзіш адна?

— Усе ўцякаюць ад мяне. І ты таксама,— дадала яна цішэй.

Ты зайграў модныя і тут «Бублічкі». Праз момант вас акружыла цэлая чарада. Дзяўчаты абселі доўгі пералаз, пачуліся першыя галасы, і вось загрымеў хор. Раптам хтосьці гукнуў:

— Увага! Гэта, відаць, Завадскі!

Песня змоўкла. Перад вамі, над сцежкай, што ішла з вуліцы на Базевічаў двор, калыхалася святло веласіпеднага ліхтарыка. Не спыняючыся граць, ты спытаўся ў суседа:

— А хто гэта Завадскі?

— Пакінь, Юзік, граць. Гэта паліцыянт. З пастарунка ў Орлі.

Ты граў, толькі трохі цішэй. Вакол цябе стала свабадней. Ты адчуў, што гарэлка толькі цяпер пачала цябе падзадорваць. Ты ўжо ведаў паліцыю, ведаў таксама межы закону і ўлады, якія так часта парушаліся тут, на бездарожных прасторах, і паліцыяй, і ўсемагутнай адміністрацыяй князя Чацвяртынскага.

Капрал Завадскі спыніўся, паставіў веласіпед каля дрэва і, свецячы вам у вочы моцным святлом ліхтарыка, падышоў цвёрдым, службовым крокам. Ты яшчэ ўсё перабіраў нягучна лады.

— Што ты тут робіш? — рэзка спытаўся ён.

— Існую,— адказаў ты флегматычна.— Па-

тушы ліхтарык, бо голас чуваць, а асобы не відно.

— Ты Кананавіч?

— А ты Завадскі? — адмахнуўся ты.

— Толькі не «ты»! З табой улада гаворыць. Свіней з табой я не пасвіў.

— Ты мне не прапанаваў, дык я і не набіваўся. Можа, абодва пяройдзем на «вы»?

— На пастарунак нам пазванілі пра ваш прыезд...

— Ну вось — на «вы» ўсё ж такі ямчэй, пане Завадскі.

— Вы ведаеце, што няможна спяваць гэтую бальшавіцкую песню?

— Ведаю, што можна. У Лодзі, напрыклад, яе спяваюць.

— Але не тут яе спяваць! Яны яе ведаюць не з вашай Лодзі, а з бальшавіцкай радыёстанцыі «Мінск». Вы паляк, а вось падыгрываеце гэтым камуністам іхнія «Бублічкі». Хадземце са мной. А вы — разысціся! Ну!

— Не, грамадзянін Завадскі. Я з вамі не пайду. Лягу вось тут на траве і буду «Бублічкі» граць.

Круг вакол вас яшчэ больш парадзеў.

— Я вам не раю агрызацца! — фыркнуў паліцыянт.

— Грамадзянін Завадскі, вы ведаеце камісара Сляўку? — спытаўся ты.

— А як жа! З ваяводства! З Навагрудка!

— Вось і добра. Дык цяпер вы скажыце, што мне расказаць пра вас майму дзядзьку? Га?

— Пан Кананавіч, я вас вельмі прашу: не падымайце шуму ноччу. Чалавек бегае, як той сабака — дождж не дождж, мароз не мароз, а да таго ж яшчэ за ўсё адказвае. Разыдзіцеся спакойна па хатах. Я вас вельмі прашу, пан Кананавіч.

— Пра вечарынку вам загадзя заявілі на пастарунак?

— Ды заявілі.

— Бойкі якой-небудзь тут няма?

— Няма нібыта.

— А чаму «нібыта», пан Завадскі? Спяваць дазволена?

— Дазволена. Залежыць толькі, што спяваюць.

Ты азірнуўся. Твае чатыры сябры стаялі побач. Чатыры дубы.

— Юлік, ёсць там яшчэ што-небудзь у бутэльцы?

— Можа, і знойдзецца,— адказаў ён і пайшоў у хату.

— Пан Завадскі,— сказаў ты паблажліва,— можаце выпіць за здароўе майго дзядзькі.

— Я на службе. А гэта...

— Пра гэта дзядзька ведаць не будзе. Скажу вам шчыра: яму нават гэта зусім нецікава.

— Хіба толькі за здароўе пана камісара.

— Няўжо гэта не смешна, пан Завадскі: вы п'еце за здароўе камісара, а я за здароўе дзядзькі?

— Бывае, пан Кананові́ч, у жыцці і так.

— Вядома ж.

І ты дадаў на заканчэнне:

— Для вашага ж, пан Завадскі, дабра — вы ні слова, і я таксама.

Калі ён ад'язджаў на сваім скрыпучым веласіпедзе, ты падганяў яго мелодыяй «Бублічкаў». Моладзь зноў сабралася вакол цябе.

— Ну і даў жа ты яму, Юзік!

— Дык камісар Сяляўка — ваш дзядзька? — здзівіўся хтосьці.

— Я гаварыў увесь час пра свайго дзядзьку Антона Гузеля. Пра камісара я толькі спы-

таўся, ці ён яго ведае. І піў я таксама за здароўе дзядзькі Антося.

Грымнуў смех.

На двары рабілася ўсё халадней. Ты ўстаў з пералаза і паланезам Агінскага павёў усіх у хату. У дзвюх лямпах кончылася газа. Хтосьці ўсадзіў у шчыліны ў сцяне тоненькія, залацістыя лучыны. Не было ўжо настрою да танцаў. Гарманіст, узлёгшы на стол, хроп. Выглядаў ён як выцягнуты са спірту. Ты азірнуўся па хаце. Зноў тыя ж чорныя вочы пад абразамі. Амерыканка. Светлай Марылькі не было.

— Пайшлі? — спытаўся ты ў Франака.

— Трэба ісці. Музыкі перапіліся.

Хлопцы пацягнулі з лаў сонных дзяўчат.

— Бяры, Юзік, Амерыканку. Тую Марыльку бацька забраў дахаты.

— Пакінь, Франак, так нельга...

Ды ён злавіў Амерыканку за руку і пацягнуў, хоць і ўпіралася, на двор. Ты ішоў за імі, запавольваючы хаду. Табе было вельмі няёмка. Юлік і Петрык пайшлі з нейкімі дзяўчатамі з двара на вуліцу. Кастусь прапаў недзе ў цемры. Калі вы ўжо выйшлі на сцежку пад акацыямі, Франак груба закінуў Марыльчыну руку на тваю шыю, а тваю руку палажыў ёй на талію.

— Ну,— сказаў ён,— ідзіце сабе туды, дзе цёмна і сенам пахне.

Засмяяўся і пабег направа, кагосьці гукаючы.

Амерыканка нясмела зняла руку з тваёй шыі. Ты таксама далікатна прыняў руку з яе таліі. Яна спатыкнулася. Ты ўзяў яе пад руку. Пад пахай мокрая ад поту, нагрэтая кофтачка. Балючая слодыч прайшлася па табе. Ты не мог прыняць руку. Марылька прыціскала яе лёгка да сябе. Уздрыгвала. Так вы стаялі пад

месяцам доўга і моўчкі. Ты шукаў нейкага адпаведнага слова, якім можна было б апраўдаць гэтае маўчанне. І не мог нічога прыдумаць. Нарэшце пачала яна. Ціха, амаль шэптам:

— Зірні, Юзік, які вялікі, ясны месяц.

Прыўзняла твар і прыплюшчыла вочы.

— Але, Марылька,— сказаў ты,— вялікі.

І адчуваў, што вы абое дрыжыце, як коцікі на ляшчэўніку.

— Юзік, а якога колеру мой твар ад месяца?

Яна яшчэ больш прыўзняла свой твар. Вочы яе былі заплюшчаны, а вусны трошкі растулены. Ты нізка схіліўся над яе вачыма. Марылька была такая прыгожая, што ў цябе ажно сэрца на момант зайшлося. Ты нахіліўся яшчэ ніжэй. Ужо адчуваў яе гарачы подых.

— Юзік...

— Што, Марылька?

— Які мой твар ад месяца? — паўтарыла яна, не расплюшчваючы вачэй.

— Залаты. Або сярэбраны. Не, хутчэй зеленавата-залаты.

— Ты паглядзі бліжэй...

Ты схіліўся над яе тварам так нізка, што амаль дакрануўся да персікавага пушка. І тады яна шырока расплюшчыла вялікія, чорныя вочы. Не закрываючы іх, сказала шэптам, амаль кранаючы цябе губамі:

— А ў цябе, Юзік, вочы зеленавата-залатыя. Як возера на тым баку, каля лесу.

Ты не вытрымаў яе позірку. Узняў галаву ў бок месяца. У вушах тваіх шумела цішыня, як у прыморскай ракавіне. І чуў ты выразна, як звоніць тваё сэрца. На поўначы іскрылася Палярная зорка. Марылька прытулілася яшчэ мацней. А потым вы памаленьку пайшлі.

— Правядзеш мяне, Юзік, дахаты?
— Правяду.
— Мама чакае. Бачыш, агонь у акне?
Вы спыніліся каля ганка. Яна сарвала галінку акацыі.
— Паваражы яшчэ, Юзік.
Сачыла, як ты абрываеш лісток за лістком, да апошняга.
— Выйшла па-твойму? — спыталася яна.
— Выйшла.
— Добрай ночы, Юзік.
— Дзень добры, Марылька,— сказаў і паглядзеў на жамчужны золак над возерам.

Мернае пастукванне колаў. Цягнік, нібы вялізны вуж, паўзе паміж пагоркамі, азёрамі, праціскаецца цераз гушчар вялікага лесу, атульваецца парай ад шкляных вачэй мястэчкаў і вёсак. Пастукванне колаў на працягу дзесяці гадзін — гэта дапамагае супакоіцца, прывесці ў нейкі парадак уражанні, свежыя ўспаміны, спрыяе разважанням і снаванню планаў на новы вучэбны год. Прайшла семнаццатая вясна. Прайшло семнаццатае лета.

Ты адчуваеш сябе пасля гэтых канікулаў так, нібы ты выкупаўся ў крыштальна чыстай вадзе, у азёрах адзіноты, у зялёных акіянах лясной цішыні. Вастрэй, чым дагэтуль, акрэслілася мяжа, што існуе паміж прыродай і тэхнікай, паміж горадам і вёскай.

Ты і дагэтуль сустракаўся, жыў з вясковымі людзьмі, аднак толькі цяпер ты заўважыў у іх асобны грамадскі пласт, у якога іншыя, чым у рабочага класа, традыцыі, звычаі, праблемы, цяжкасці, трывогі, такія іншыя смуткі, жаданні, мары. Адно аб'ядноўвае гэтыя два класы: галеча і цяжкі прыгнёт залежнасці ад фабрыкантаў і памешчыкаў.

А з вучобай,— думаецца табе,— не будзе так ужо дрэнна. У вашай гімназіі няма, як у Купецкай было, такой бездані паміж «старэйшым калегам» і «калегам малодшым», паміж настаўнікам і вучнем.

І вось нарэшце ты стаіш на Калішскім вакзале ў Лодзі, ашаломлены рухам вялікага горада. Па сходах уніз — да стаянкі рамізнікаў і трамвайнага кальца. Направа — стадыён, дарога, добра табе знаёмая. Налева — віядук, гарадская бойня, вялікі парк імя Панятоўскага. Далей, у перспектыве, гушчар задымленых комінаў.

Ты стаіш і ўсхвалявана глядзіш на гэты прасторны, шэры горад, што прыняў цябе калісьці, як сына, які ад маленства рабіў з цябе чалавека, карміў цябе грамадскімі ўражаннямі.

Глядзіш на чыгуначных насільшчыкаў з бліскучымі бляшанымі нумарамі на шапках, бачыш цяжкія чамаданы і куфэркі на прыгорбленых плячах, напружаныя жылы на загарэлых да чарнаты шыях, твары, скрыўленыя ад балючай натугі, вялікія кроплі поту на іхніх ілбах. Працяглы гудок паравоза напамінае табе прароцкі крык анучніка з вуліцы Наўрат...

Памалу сыходзіш па сходах усё ніжэй ды ніжэй, аднак жа расцеш ты — на вышыню тых комінаў.

Паблісквае цыферблат вакзальнага гадзінніка. Чорныя стрэлкі вырысоўваюць форму піраміды.

Да поўдня яшчэ далёка.

Ты ідзеш... пачынаеш ісці хутчэй... бяжыш — у сонцы, у вугальным пыле, у пыле вуліцы, усхваляваны, шчаслівы, дужы.

## Пасляслоўе

Асобны, не напісаны раздзел гэтай аповесці — гэта філасофскі роздум аўтара пра няўмольную няспынную плынь часу, пра разнастайнасць чалавечых лёсаў, пра стабільнасць, зменнасць і распад у кароткім адрэзку чалавечага веку розных светапоглядаў, законаў этыкі, грамадскага сужыцця, ідэалогіі, палітыкі, эстэтыкі... Роздум пра гісторыю пакалення, пра трываласць ці нетрываласць слядоў, якія яно пакідае.

Асобны, не напісаны раздзел гэтай аповесці — адказ на пытанне, якія былі далейшыя сцежкі юных герояў,— у гады студэнцкай вучобы, самастойнай працы, у вайну, у акупацыю і, нарэшце, у Польшчы Народнай.

Асобным раздзелам гэтай аповесці мог бы таксама быць адказ на пытанні паважаных чытачоў пра тое, колькі ў ёй праўды, а колькі мастацкага домыслу, якія героі ўзяты аўтарам цалкам з жыцця, якія зменены трохі або і зусім прыдуманы, у якой меры твор гэты аўтабіяграфічны, а ў якой — не.

Асобны раздзел гэтай аповесці — разважанне на тэму: які з партрэтаў горада гаворыць пра яго сучаснаму чытачу больш праўды,— накрэслены пяром гісторыка, эканаміста, сацыёлага, палітыка, выведзены з архіўных дакументаў, з падшываў перыядычных выданняў, з кніг натарыяльных, судовых, статыстычных, фінансавых, ці гэты партрэт — літаратурны, узяты з памяці, з уяўлення, аснаваны на ўласных перажываннях, на законах псіхалагічных, на назіранні перажытага іншымі, на плётках, легендах, народных песнях, партрэт, накіданы колерам, гукам, пахам, смакам, дотыкам, рухам, асабістым успрыманнем часу, гульнёю слоў, спалучэнняў, метафар.

Асобны раздзел аповесці — пераклічка тых дзяўчат і хлопцаў з аднаго двара, з адной школы, якія пасля загінулі салдацкай смерцю ў верасні 1939 года, у партызанах, у варшаўскім паўстанні, памерлі смерцю пакутнікаў у засценках гестапа, у турме Павяк, у канцлагерах,— усіх тых, чые імёны рассеяліся па могільніках дома і на чужыне.

Тут аўтар перш за ўсё ўспамінае сваю старэйшую сястру Ірэну, тую строгую, добрую Ірку з маленства і юнацтва, у дні фашысцкай акупацыі — варшаўскую падпольшчыцу, мужнасць якой пасмяротна адзначана найвышэйшым ордэнам — «Virtuti Militari». Успамінае ён часта і светлага друга маленства, таго Яся Турлейскага, што вучыў яго выпускаць на волю галубоў, вучыў ненавідзець прыгнёт, прыгнятальнікаў, любіць пакрыўджаных, простых. Удзельнік камуністычнага падполля, вязень санацыйных турмаў, салдат трагічнага верасня, Ян Турлейскі стаў потым актыўным будаўніком савецкага ладу ў Заходняй Беларусі, а ўвосень 1941 года загінуў пры першай спробе пераляцець цераз фронт у Варшаву...

На старонках гэтай аповесці можна налічыць больш за сотню прозвішчаў. Пераважная большасць іх не прыдумана аўтарам, а больш за палавіну належыць тым, каго ўжо няма.

А іншыя жывуць, працуюць,— як Марэк, аўтараў брат, вядомы мастак, іх старэнькая ўжо матуля, як рабочы, рэвалюцыйны паэт Антось Каспровіч і яшчэ некаторыя, з кім аўтар рад сустракацца на вуліцах Лодзі, Варшавы, у іншых гарадах сваёй краіны і ў бацькавых родных мясцінах — на братняй зямлі Беларусі.



# ТАЯ НОЧ

Тую ноч — хоць і прайшло ўжо столькі гадоў — я не магу сцерці з памяці і не пусціць у сны, што ўсё вяртаюцца, як упартыя хвалі. Тут не дакоры сумлення, якія, нібы вулкан, могуць раз-пораз выліваццца лавай атручаных успамінаў. Бо гэта быў звычайны — а можа і не зусім звычайны, калі падумаць — выпадак, супадзенне, шчаслівае для мяне і трагічнае для Слаўкі. «Кірпаносая» дрэнна растасавала карты. Хтосьці заплаціў за мяне сваім жыццём. Хтосьці вельмі блізкі і даражэйшы за мяне на тыя некалькі гадоў, якія былі розніцай у нашым узросце. Цяпер, калі я ўжо ведаю пакутніцкі лёс Слаўкавых бацькоў, якіх

спачатку катавалі ў сутарэннях гестапа і ў турме Радагошч, каб потым выслаць у Асвенцім, калі я ведаю далейшы лёс Слаўкі, якога разам з бацькамі спалілі ў крэматорыі, цяпер, калі я сустракаюся з адзіным з гэтай сям'і і наймаладзейшым сынам, уцалелым ад ваеннага пагрому,— тая ноч робіцца для мяне найчарнейшай і найглушэйшай з усіх маіх начэй...

Гады ідуць, выдзёўбваюць з маёй памяці дробныя дэталі, і тым больш дакучае сваёй аголенай праўдай, сваёй акамянеласцю ядро той трагічнай гісторыі, што з'яўляецца канчатковым вынікам у складанай матэматычнай задачы. Калі я нават малюся часам за яго душу, малітва мая грэзне ў той страшнай ночы і разрастаецца, як нябачны паліп, што душыць мяне сваімі шчупальцамі.

З сястрою Ірэнай, якую мы называлі Нона, і з братам ды братавай, якія жылі на той бок калідора, мы сядзелі ў нашай невялічкай кватэры, усё яшчэ не адрамантаванай пасля вераснёвых баёў. Сядзелі мы ў кухні, бо ў пакоі не было ніякай мэблі, а толькі стаялі вёдры з фарбай, насыпаны быў копчык цэменту, ляжала трохі цэглы, а да сцяны прысланіліся драбіны і выстаўленыя аконныя рамы. У кухні печ патыхала цеплынёй, на чайніку весела падскаквала покрыўка, а з каструлі чуваць быў пах бульбянага супу. Іменна тады, за сорак пяць хвілін да каменданцкай гадзіны, увайшоў наш дваюрадны брат Слаўка, з якім мы даўно не бачыліся. Яго нечаканы прыход унёс у нашу куханьку яшчэ больш радаснага, цёплага настрою. Ён жа прынёс нам вестку пра блізкіх і далейшых сваякоў, што засталіся на тым баку свету — у Лодзі, нядаўна далучанай да рэйху, перайменаванай у Ліцманштадт. Слаўка, студэнт сельскагаспадарчага інстыту-

та, у першыя дні вайны апынуўся ў маёнтку знаёмых, дзе заканспіраваўся ад нямецкіх улад як хатні настаўнік гаспадаровых дзяцей. Калі ж маёнтак забраны быў пад казну, Слаўка падзяліў лёс сваіх карміцеляў — і яго перасялілі ў Генеральнае Губернатарства. У Варшаве ён прыпыніўся ў бацькоў сваёй нявесты. Аднак нейкая заразная хвароба прымусіла яго пайсці адтуль, і вось ён прыйшоў да нас, папрасіцца на некалькі дзён. Мы гутарылі пра сямейныя справы да позняга вечара. У застаўленай рознай старызнай куханьцы не было месца нават на падлозе, каб палажыць нашага госця. Калі ўжо стома і разважлівасць загадалі нам ісці на спачын, Нона перапыніла Слаўкаў неспакой:

— Не пазірай ты на дзверы ў наш пакой. Спаць там нельга, бо вецер праз дзіркі і можна апруцянець. Марэк і Зося пойдуць да сябе, ты будзеш спаць у кухні, на Юзікавым месцы, а ты,— звярнулася яна да мяне,— бяры падушку і коўдру і пойдзеш спаць да Мазуроўскіх.

З уласнікамі дома мы былі ў добрых адносінах, аднак я не быў упэўнены, што ажно ў такіх ужо добрых, каб заваліцца апоўначы на начлег. Ды што было рабіць? Нона заўсёды гаварыла нібы загадваючы, не любіла супраціўлення і дыскусіі. Я ўзяў пад паху падушку і коўдру і, крыва ўсміхаючыся, пайшоў.

Кватэра гаспадароў была побач з нашай. Пані Мазуроўская, на шчасце, яшчэ не спала. Яна канчала пячы піражкі з макам для маленькага кафэ «Пчолка», уласнікам якога быў яе свёкар. Было ў іх цёпла, можна сказаць, што горача. Гаспадар ачомаўся ад дрымоты, калі гаспадыня дала нам па шклянцы чаю.

— Але ж, вядома, пане Юзаф,— сказала Мазуроўская, злёгку запінаючыся,— гэта вялікі гонар для нашай кушэткі, што на ёй паспіць галоўны кватарант.

— Вы ведаеце, пані Гэлюся, я заўсёды выдатна сплю на новым месцы, таксама як і ў цягніку.

— Я вам другое скажу: калі на новым месцы спіш, дык, кажуць, сон збываецца. Дык не забудзьцеся, што вам сёння прысніцца.

Тое, што мы абое сказалі пра сон на новым месцы, неўзабаве спраўдзілася.

Пасля таго, на чым я спаў дома, што называлася канапай і было «роўнае» і цвёрдае, як Карпаты, кушэтка гаспадароў здалася каралеўскім ложам. Заснуў я амаль адразу.

А сон быў такі выразны, такі рэальны, што каб не жахлівасць яго вобразаў, ад якіх я падсвядома ўцякаў, можна было б палічыць яго рэчаіснасцю. Мне снілася — ці не снілася,— што з глыбіні чорнай ночы выяўляецца машына гестапа і спыняецца перад нашым домам. Чуваць рытмічнае пакалыхванне прыглушанага матора, нейкія галасы, потым глухі грукат у браму, ненатуральна гучны кашаль дворнічыхі, яе ненатуральны адказ на нечае пытанне:

«Так, доктар Ірэна Кананові́ч — на другім паверсе...»

Мокры ад жаху, а можа, і ад гарачыні, бо за сцяною была кухонная печ, я павярнуўся на другі бок і, нібы хочучы адгарадзіцца ад кашмарных вобразаў, накрыў галаву коўдрай і падушкай. Мне яшчэ трызніліся нейкія рэфлектары, постаці з чалавечымі чарапамі на шапках, тунелі і цёмныя сходы, чуліся нечыя нібыта галасы, рыпенне дзвярэй, а потым я праваліўся ў цемру сляпога, глухога сну...

Хто не быў у тыя гады ў Варшаве, той ніколі не зразумее пачуццяў, якія выклікала машына, што спынялася ноччу каля дома. Як толькі пачыналася камендантцкая гадзіна, вуліцы поўнасцю аціхалі — ні пешахода, ні транспарту. Абавязковае супрацьпаветранае зацямненне ператварала горад у чорную пустыню. І вось таму ноччу кожны водгалас хады, калі яна аціхала на тратуары за брамай, кожны гул аўтамашыны, які раптам спыняўся і пераходзіў у слязлівае пагрукванне матора,— былі вестунамі няшчасця: гэта магло быць толькі гестапа. Людзі тады прачыналіся з сардэчным болем, рассоўвалі па шчылінах і схованках таямнічыя прадметы і паперы. Скрыгат брамы выціскаў на лбе кроплі поту і падганяў дыханне. Бацькі малітвай — як плашчом або шчытом — асланялі неспакойны сон сваіх дзяцей...

Прачнуўся я рана, разам з гаспадарамі.

— Мы не хацелі вас будзіць, пане Юзаф,— сказаў напаўголасу гаспадар. Твар яго быў шэры, а губы дрыжалі.

Мяне сцепанула. «На новым месцы сон спраўджваецца,— падумаў я.— А можа, гэта быў не сон?..»

— Што здарылася, пане Антось?

— Ноччу забралі пані доктарку і вашага сваяка.

— А брат? — спытаўся я, усхопліваючыся з пасцелі.

— Брат дома, у пятай кватэры. Чакае вас. А ў восьмы нумар лепш не заходзіць. Ад вуліцы могуць назіраць.

Далейшы мой расказ — гэта рэканструкцыя таго, што расказалі мне брат і дворнічыха.

Немцы ўвайшлі ў пад'езд. Дворнічыха прыкінулася глухаватым прыдуркам, каб крыклівым голасам падаць жыхарам дома сігнал пра небяспеку.

— Так, паночкі, калі справа датычыцца Ірэны Кананович, дык яна жыве тут, на другім паверсе.

Загадалі, каб правяла. Моцна грукала драўлянымі выступкамі па сходах.

Аднак яшчэ тады, калі машына спынілася за брамай, сястра, што спала заўсёды чутка, як медыкі на начным дзяжурстве, усхапілася з пасцелі, засланіла вялікім палатном карціны той кут, дзе спаў на падлозе Слаўка, тады выйшла ў калідор і ўмоўным спосабам пастукала ў братавы дзверы. Брат ужо не спаў таксама. Адразу ж прыадчынілі дзверы. Сястра працягнула руку да выключальніка і патушыла святло. Рэфлекс у яе быў заўсёды маланкавы. Сказала сваім звычайным, спакойным голасам, які не прызнаваў пярэчанняў:

— Мар, прыехалі па мяне. Вылазь праз акно на прычолак, дваром і цераз плот валі на Грэнадзёрскую. Зосю хутчэй за ўсё не возьмуць. Усё будзе ў парадку. Юзіка не будзі. Да пабачэння, браток!

Зачыніўшы дзверы, яна вярнулася да сябе. На сходах ужо грукацелі чужыя крокі. Немцы тузанулі дзверы і зайшлі ў маленькі пярэдні пакой. У калідоры, каля адчыненых насцеж дзвярэй, стаялі адзін гестапавец і дворнічыха. З-за кухонных дзвярэй сястра выйшла спакойная, у накінутым халаціку.

— Тут жыве доктар Ірэна Кананович? — спыталіся па-нямецку.

— Так. Гэта я,— адказала яна па-польску.

Гестапаўцы гаварылі спакойна і ветліва. Кат любіць белыя пальчаткі і цыліндр.

— Вы?! Гэта немагчыма! І сапраўды вы — доктар?

Адзін з немцаў піхнуў дзверы ў пакой, зайшоў туды, зірнуў на пустэчу і малярскія прылады і выйшаў назад.

— Хто яшчэ прапісаны ў гэтай кватэры?

Яна добра ведала іхнюю мову, аднак гаварыла на роднай.

— Мой брат. Некалькі дзён ён ужо не прыходзіць.

— Дык дзе ж ён?

— Прашу прабачэння, але чамусьці здаецца, што гэта вы маглі б сказаць мне што-небудзь на гэтую тэму. Яго, відаць, схапілі на вуліцы, паколькі я дагэтуль нічога не ведаю.

— Гэта магчыма.

Гестапавец, які дапытваў, зірнуў на лісток паперы ў руцэ і, перабіраючы вачыма нейкі спіс прозвішчаў, спытаўся, нібы правяраючы:

— Вы ведаеце прыватныя адрасы доктара Лота і доктара Асоўскага?

— Не. Мы сустракаемся толькі на тэрыторыі шпіталя.

— Ага. Нам вельмі непрыемна, фраў доктар, але апранайцеся, вы паедзеце з намі.

Ён далікатна адсунуў сястру ад кухонных дзвярэй і ўвайшоў туды.

Брат не ўцёк праз акно. Ён стаяў каля дзвярэй свайго пакоя, прыслухоўваючыся каля шчыліны. Праз вузкі калідор і адчыненыя супрацьлеглыя дзверы ён чуў дакладна кожнае слова. Праз замочную шчыліну ён мог заўважыць толькі сілуэт дворнічыхі, што ўсё пакашлівала, і аўтамат гестапаўца, які стаяў каля выхадных дзвярэй.

Тыя, што ўвайшлі ў кухню, нядбайна кешкалі нагамі кучы старой мэблі, перанесенай сюды з пакоя. А потым яны адхілілі палатно карціны і вывалаклі з-за яе перапалоханага

Слаўку. Галасы гестапаўцаў загучалі больш востра і гартанна. Куды падзелася ветлівасць, элегантнасць.

— Пасведчанне асобы або даведка з месца працы! Хутчэй!

— Ты тут прапісаны? — сказаў другі, пакуль першы праглядаў пададзеныя Слаўкам даведкі.

— Шаноўныя паны,— спакойным голасам сказала сястра.— Гэта мой блізкі сваяк, які наведаў мяне сёння. Мы баяліся, што ён не паспее вярнуцца да каменданцкай гадзіны, і таму ён застаўся пераначаваць.

— Імя і прозвішча?

— Міраслаў Равіньскі,— адказаў Слаўка.

— І сапраўды цікавая сустрэча. А ну, апранайся хутчэй! Паедзеш з намі!

Калі іх выводзілі з кватэры, сястра спыталася спакойна, натуральна:

— Можа дазволіце, паны, пакінуць некалькі слоў майму брату, калі б ён вярнуўся?

Нібы паддаўшыся тону, якім загаварыла сястра, немец сказаў па-салоннаму:

— Так, вядома ж, фраў доктар. Аднак, на жаль, я вымушаны папрасіць вас паказаць мне гэтую запіску. Так?

— Само сабою,— сказала сястра, вяртаючыся да століка, каб напісаць мне некалькі слоў.

Паехалі — цёмная ноч праглынула машыну...

*Да пабачэння, браток. Цалую Вас усіх. Вярнуся. Ір.*

Вярнулася яна праз многа, многа месяцаў. З лагера Равенсбрук...



# ЗОРКІ ДАВІДА

*Памяці майго бацькі —*
*Францішака*

У гады акупацыі, разам з маім незабыўным шваграм Войтакам Менцалем, маладзенькім паэтам і студэнтам падпольнага універсітэта, я працаваў у старой вугальнай фірме. Фірма гэта мела свае вялікія склады каля чыгуначных ветак. Цэнтральны склад, дзе Войтак Менцаль працаваў начным вартаўніком, быў паблізу вуліцы Жалезнай; адзін філіял склада — каля вакзала Варшава-Заходняя, дзе я займаў такую ж пасаду, а другі філіял — каля

станцыі Градзіска, куды нас час ад часу пасылалі на замену.

На першы погляд служба сабачая і адказная — за нейкія капейкі ды картачкі. Кожную ноч, ці замець, ці дождж, кружы з аўчаркай і з кіем у руцэ вакол гораў вугалля, агрызайся (зрэшты, не па-сапраўднаму, а напаказ) з грознымі бандамі чыгуначных зладзеяў, дрыжы перад кантрольнымі налётамі жандараў і так званых «чорных» — гітлераўскай чыгуначнай службы, адчыняй цяжкія вярэі брамы, калі манеўруюць вагоны і паравозы. Толькі і ведай — зважай на сігнальныя свісткі, сірэны, трубы ды сігнальнае святло...

Польская дырэкцыя фірмы была па сутнасці фікцыяй. Ва ўмовах вайны вугаль лічыўся таварам строгай рэгламентацыі, і распараджалася ім нямецкая ваенная адміністрацыя. На нашым складзе часцей за ўсё быў вугаль, які ішоў на патрэбы эсэсаўцаў, у меншай колькасці для вышэйшых інстанцый. І таму нас часта наведвалі гаспадарчыя афіцэры жандармерыі, СС і вермахта.

Я сказаў, што служба начных вартаўнікоў на погляд збоку была сабачай і галоднай. Аднак трэба дадаць, што пры такой непрыгляднасці і адказнасці яна давала пэўныя правы і пэўную карысць: выдатныя, як на той час, дакументы, падпісаныя ды прыпячатаныя самім гаўптштурмфюрэрам СС. Начных вартаўнікоў не датычылася каменданцкая гадзіна. Штодня кожны з нас выносіў партфель крадзенага вугалю. Нарэшце, адукаваным вартаўнікам такая служба давала магчымасць употай вучыцца або тварыць, што мы з Войтакам і рабілі. Апроч таго, праца наша давала неабмежаваныя магчымасці рамантычных дыверсій на чыгуначных ветках, можна было таксама перахоўваць усё нелегальнае, пачынаю-

чы са зброі і падпольнай літаратуры і канчаючы людзьмі. Будкі, склады, адрыны, сутарэнні, падземны калодзеж вугальнай вагі, склад прыладдзя, струхлелая кантора, склад брыкету і завал старых дошчак. Такімі магчымасцямі нельга было пагарджаць, хоць і даводзілася часамі пагарджаць самім сабою.

З бандамі чыгуначных зладзеяў у нас была няпісаная, джэнтльменская дамоўленасць. Члены гэтых банд — самыя чорныя адкіды грамадства, ніколі і нідзе не прапісаныя, без дат нараджэння і сапраўдных прозвішчаў. Днём яны рэзаліся ў карты, даволі часта вырашаючы канфлікты гонару крывёю. На змярканні і ноччу яны чакалі на платах уздоўж чыгуначнага палатна і, як чарада малпаў, ускаквалі на таварнякі, што праходзілі міма з вялізнымі грудамі вугалю. Адны скідалі гэтыя груды, а другія хавалі іх па норах ды па ямах. Часамі з платоў іх збівалі «чорныя», страляючы як па варонах. Дробненькі вугаль кралі яны «праз дзірачкі». Выкручвалі гэтую дзірку ў плоце, усаджвалі туды жалезную трубу, праз якую з тэрыкона, прыпёртага да плота, дробненькае вуголле сыпалася на іх бок ціхай ручаінай. Толькі мяхі падстаўлялі ды неслі потым у цемру. Гэтае «тэхнічнае прыстасаванне» з двара нельга было заўважыць, але гурба вуголля штораз, то ўсё больш аб'язджала. Адным з традыцыйных спосабаў красці вугаль быў такі: увагу вартаўніка прыцягвалі падазроным шоргатам на адным канцы плошчы, каб у другім канцы другая група магла тым часам перакідаць вугаль цераз плот. Усе сабакі на вугальных складах былі нейкім таямнічым спосабам задобраныя прафесійнымі зладзеямі, проста дружылі з імі. Былі, вядома, і яшчэ дзесяткі іншых тонкіх

спосабаў крадзяжу, і ўсе яны грунтаваліся на традыцыйным саюзе і супрацоўніцтве паміж бандамі зладзеяў і возчыкамі, што аціраліся каля вугальных складаў.

У нашых адносінах са зладзеямі былі свае правілы гульні. Свядома ці несвядома зладзеі неслі карысную службу — грамадскую і патрыятычную. Крадзеж вугалю ў той час — гэта памяншэнне ваеннага патэнцыялу акупантаў, або, проста кажучы, сабатаж. Крадзены вугаль трапляў у рукі польскага насельніцтва і хоць часткова ратаваў яго ў трагічнай сітуацыі з палівам. Зладзеі раз-пораз ліквідавалі найбольш руплівых жандараў, што вартавалі чыгунку. Няўлоўным для іх заставаўся адзін толькі эсэсавец «Паненка», украінец, якога пазней, у смелай аперацыі, ліквідавала адна з падпольных арганізацый. Нарэшце, вугальныя зладзеі былі для нас проста бясцэннымі памагатымі ў справах сур'ёзнага сабатажу.

Калі быстры і вельмі рухавы чыгуначнік Кавальскі, што кіраваў перагонам таварных вагонаў, даваў знак, што ён выганяе на тэрыторыю нашага склада вагоны з саставам, які пойдзе на ўсходні фронт, мы адразу ж мабілізавалі абедзве банды зладзеяў, паміж якімі заўсёды была канкурэнцыя,— банду «Мусаліні» і банду «Бусла». Яны дапамагалі нам у «перагрузачнай аперацыі». Як толькі вагоны з'яўляліся на нашай тэрыторыі, адны зладзеі назіралі за «чорнымі», чыгуначнікі празмернымі сігналамі рабілі блытаніну і дэзарыентацыю, спецыяліст па пломбах спраўна здымаў пячаці. Зладзеі з мускуламі геркулесаў і спрытнасцю малпаў выносілі з вагонаў пачкі, скрыні і мяхі, маланкава хаваючы іх па розных закутках. Калі мінаў заўсёды захуткі час, калі чуліся недалёкія свісткі і чысты, гучны голас Кавальскага: «Увага! Брама! Паравоз

з трэцяга пуці — увага!», спец ставіў новенькія пячаці, зладзеі знікалі ў цемры, а апарожнены вагон горда ехаў на ўсходні фронт. Калі гэта была не зброя ці не амуніцыя, а толькі салдацкія шкарпэткі, коўдры, шынельнае сукно, цёплы абутак, каскі з цёплай падкладкай, маргарын, папяросы з захопленых краін або падарункі каханак з рэйха,— зладзеі прыходзілі па сваю долю здабычы. Аднак яны маглі быць і бескарыслівымі патрыётамі: калі часцей бывалі нямецкія праверкі, зладзеі разбіралі па сваіх схованках пакункі падпольнай прэсы ці зброю — усё тое, што чакала цягніка, які павязе іх у патрэбным напрамку.

Калі здаралася, што тэрыторыя склада залішне пусцела ад «левай» вывазкі вугалю, зладзеі вельмі прафесійна наладжвалі пажар, які выбухаў нібы сам па сабе, у страшэнным гвалце ды безладзе. Увесь транспарт, што стаяў паблізу склада, кідалі на ратунак нямецкай маёмасці, якой пагражаў пажар. Дзеля гэтага загадзя склікаліся бліжэй да склада падпоеныя возчыкі з далёкіх раёнаў горада. Пажарнікі варушыліся без лішняй спешкі, у асноўным больш крычалі, чым тушылі. Возчыкі, лупцуючы пугамі ўзмакрэлых коней, развозілі выратаваны тавар бог ведае куды. У гэтым балагане пазнейшыя справаздачы былі толькі рэгістрацыяй страт. Пасля аперацыі зладзеі цэлы тыдзень ляжалі ў сваіх схованках з туга набітымі жыватамі, а пах самагону праходзіў цераз сцены і платы.

На нашым складзе тэарэтычна, па штату працавала два вартаўнікі: я і Тадэвуш Грабоўскі. А практычна вартавалі мы па аднаму, на змену. І ашуканства гэтае нельга было выкрыць. Работнікі дырэкцыі не мелі з-за камен-

данцкай гадзіны магчымасці ўрывацца да нас з начною праверкай, а «чорным» у вузкіх, глухіх вулачках пагражаў нож, кастэт і куля з рук нашых саюзнікаў-зладзеяў. Нашу прысутнасць на працы ноччу кантралявалі па тэлефоне. І выглядала гэта так:

— Алё! Алё! Тут Блажэеўскі. Хто слухае?

— Тадэвуш Грабоўскі,— адказваў я нахабна.

— Грабоўскі, паклічце да тэлефона Канановіча.

Я клаў трубку на стол, тупаў па струхлелых дошках падлогі, адчыняў рыплівыя дзверы канторы і гукаў:

— Гэй, Канановіч! Загадчык кліча! Бягом!

Зноў рыпелі дзверы, зноў я тупаў і задыхана крычаў у трубку:

— Гэта Канановіч. Слухаю, пане загадчык.

— Дзякую. Усё ў парадку. Пільнуйце там вугаль. Запішыце для дзённай змены, што заўтра прыйдуць тры вагоны дробненькага: 612, 614 і 704 дроб дзесяць. Добрай ночы!

Такі самы прыём прымяняўся і тады, калі самотна вартаваў або драмаў на складзе калега Грабоўскі.

Аднойчы, калі я быў на дзённай змене, а на дапамогу мне з цэнтральнага склада прыслалі Войтака Менцаля (многія хварэлі грыпам) — на нашым складзе з'явіўся адзін з маіх сяброў па універсітэту. Мы выйшлі ў двор.

— Ты ведаеш,— ціха спытаўся ён,— што гета трагічна канае?

— Ведаю,— адказаў я,— гэта ж не таямніца. Я часта кручуся каля Пляца Жалезнай Брамы і бачу на тэрыторыі гета латышскіх фашыстаў у іхніх зас...ных касках. Страляюць яўрэяў, як качак.

— Так. Мы, падпольныя левыя сілы, перадаём туды, што ўдаецца: трохі яды, трохі зброі. Але ж колькі там можна перадаць! Ахоoff ўсё больш ды больш, а дастаўкі небагата.

— Дык гавары, што табе трэба.

— Ты ведаеш, што ёсць арганізацыя, якая называецца...

— Годзе,— перапыніў я яго.— У мяне ёсць жалезны прынцып — абыходзіцца без назваў і псеўданімаў. З кожным, хто б'е гітлераўца, я супрацоўнічаю з рук у рукі, на слова гонару.

— Добра. Хай будзе так, з рук у рукі. Да вас прывозяць сюды яўрэяў нагружаць вугаль для войска?

— Прывозяць.

— А ці мог бы каторы знікнуць у вугалі?

Я зірнуў на маленькую, як сабачая будка, брамку, праход на суседнюю тэрыторыю. Брамка была прыкрыта старымі дошкамі.

— На тым баку,— сказаў я,— навалена рознага чэсанага камення. Граніт, мармуровыя пліты, пясчанік. Горы і долы — як на вялікім могільніку. Там ёсць і выхад на вуліцу. Сусед — надзейны чалавек.

— Ну, гэта — адно. Больш не буду табе гаварыць. А цяпер другое, найважнейшае. Там такі страшэнны голад, заразныя хваробы так косяць людзей, што яўрэйская дзетвара выдзірае ногцікамі дзіркі ў муры, каб выбрацца навонкі. Дзіркі гэтыя лёгка пазнаць. Фашысты стаяць пры знойдзеных дзірках з настаўленымі аўтаматамі і забаўляюцца — каму больш пашанцуе... Тыя, што ўцякуць у цемры, часта трапляюць у горадзе ў рукі жандараў. Мы шукаем для іх схованкі ў манахаў і так, у насельніцтва.

— Прабач, але тут ім хавацца нельга. Гэта амаль вайсковая тэрыторыя.

— Я не пра тое, ты мяне не зразумеў. Хто-небудзь на змярканні прывядзе забінтаванага для маскіроўкі малога яўрэйчыка. Мы шукаем, дзе яго як найдаўжэй схаваць. Пазней яўрэйчыка вывозім адгэтуль у мяху з вугалем. На знойдзеную кватэру. У цябе тут ёсць ідэальныя закуткі, дзе малога можна было б патрымаць і ноч і другую... Як?

— Добра. Толькі што з гэтым вывожваннем не так усё проста. Кожны кавалак вугалю ахоўваецца немцамі. Кожны воз, які выязджае адгэтуль, з усіх бакоў апісаны: колькасць вугалю, гатунак, брута, нета, куды вязецца, па якой трасе, а спажывец — амаль выключна нямецкія ўстановы. Прыватных пакупцоў наогул няма. Часта з вугалем едзе канвойны. Патрулі ў горадзе абавязаны запыніць ды праверыць кожны воз вугалю.

— А хто канвойныя?

— Які-небудзь хрэн у жандарскім мундзіры або польскі паліцыянт, а то і нікога.

— Што робяць з нелегальным транспартам, калі яго затрымаюць у горадзе?

— Дастаўляюць у паліцэйскі камісарыят або ў жандармерыю. Разам з возчыкам, разумеецца.

— Ну, дык і добра. Лепш не трэба. Воз у нас ёсць, возчык ёсць, польскі паліцыянт ёсць, да таго ж і сапраўдны. Гэта будзе так выглядаць: яўрэйскі хлопчык унізе, у мяху, прысыпаны драўляным вугалем. Бачу, вось у вас тут ёсць і такое. Каля воза наш паліцыянт. Затрыманы нямецкім патрулём, ён руплівенька дакладвае, што вось злавіў у горадзе воз без дакументаў і вядзе яго ў камісарыят ці кудысьці там... Немцы паляпваюць яго па плячы за стараннасць і ідуць сабе далей. Так можна праехаць праз увесь горад, туды і назад. Ясна?

— Ясна. Тэарэтычна.

— Дзе ты хаваў бы гэты тавар?

— Хадзем, пакажу табе, як дзейнічае механізм нашай пачварнай вагі.

Я падняў драўляную покрыўку, і мы паглядзелі ў яму. Закалывалася платформа, на якую вазы ўязджаюць узважвацца. У чорныя чалеснікі, дзе змяшчаецца падземны механізм, апушчаны жалезныя драбіны.

— Трохі там дыхціць вільгаццю і змазкай, але на мяхах ды коўдрах можна дзень паляжаць. І не атруцішся, як гэта можа здарыцца ў брыкеце.

— Ты не хацеў бы, Мацей, у нашу...

— Не хацеў бы ў вашу,— перапыніў я яго,— і ў ніякую, але заўсёды і з кожным супраць... У канкрэтных справах. Падкінь мне малога яўрэйчыка на спробу.

— Ну, дык бывай!

— Бывай!

Далей усё пайшло неспадзявана хутка.

— Адчыняй браму! Хутчэй! — пачуўся крык і нехта моцна тузануў за званок.

Войтак выбег з канторы адчыніць. Пан Францішак сунуў пад пісьмовы стол газету, якую чытаў. Наш сабака Жаўток наставіў вушы і чакаў, што яму будзе загадана. Я выйшаў з канторы. Зарыпела цяжкая вярэя брамы, і на двор склада ўехалі тры грузавікі з нямецкімі канвойнікамі. Пан Францішак уважліва вывучаў распараджэнне, якое падаў яму немец.

— Калі ласка. Ёсць такі гатунак вугалю.

— А грузчыкі ў вас ёсць?

— На жаль, цяпер няма нікога. Калі б нас папярэдзілі па тэлефоне...

— Дзе тут тэлефон?

Пан Францішак паказаў рукой на апарат,

што вісеў на сцяне. Немец падышоў да тэлефона і коратка пагаварыў з некім.

— Што ж, хутка я прывязу з гета яўрэяў. За гэты час узважце гэтыя два вазы. А колькі прывезці яўрэяў?

— Па меншай меры дваццаць,— сказаў я.

— Колькі? Дваццаць? На тры грузавікі? Засмуродзяць нам кузаў.

— Залежыць, як хутка вам трэба,— сказаў пан Францішак.— Гэта ж не прафесійныя грузчыкі, прычым галодныя, ледзьве ходзяць. Шуфлі і вілы ў нас на месцы, у складзе,— дадаў ён.

Малады, рухавы фельдфебель ужо садзіўся побач з шафёрам, калі я спытаўся ў яго з просьбай у голасе:

— А ці нельга мне з вамі праехацца? Я ні разу не быў у гета.

— Яшчэ чаго! А тыфу не баішся? Сядай каля канваіра. Будзе лепей відаць.

— Дзякую. Вазьму толькі паліто. Раз-два. Я пабег у кантору, паўпіхаў у кішэні тое, што Войтак, пан Францішак і я, кожны сабе, узялі на ўвесь дзень з сабою, выбег і ўлез у кузаў ужо на хаду.

Тое, што я пабачыў у гета, дагэтуль мне цяжка было ўявіць. На тратуарах і вуліцах стаялі, як муміі, сядзелі або ляжалі людзі з жоўтай адзнакай Давідавай зоркі. Цьмяныя, напаўмёртвыя, паўпадалыя вочы. З худых, бледных твараў цяжка звісаюць доўгія бароды прарокаў, пустэльнікаў і пакутнікаў. Высахлыя да касцей рукі дрыжаць, як у эпілептыкаў. Паміж гэтых застылых групак чорным патокам, у якім паблісквающь жоўтыя зоркі, плывуць мужчыны, жанчыны, дзеці. Спатыкаюцца, топчуцца па ляжачых. Каля сцен дамоў сядзяць падобныя да цыганят, высахлыя

з голаду яўрэйскія дзеці, папрацягваўшы пажабрацку ручкі. Дарма. На гэтым трагічным, панурым фоне заскрыгатала д'ябальскім смехам рэклама вясёлай установы, асветленая тысячай шматколерных лямпачак. З прыадчыненых дзвярэй чулася танцавальная музыка. Каля ўвахода стаяла групка людзей, падобных да нейкіх багатых замежных турыстаў. На выдатна пашытых гарнітурах таксама блішчалі жоўтыя зоркі. Маё ранейшае меркаванне пра нейкую выключную салідарнасць яўрэйскага грамадства разбілася ў друзгалкі, як шкло, калі яно падае на камень.

Грузавік спыніўся перад будынкам «юдэнамту» — яўрэйскай адміністрацыі гета. Фельдфебель загадаў мне сесці каля шафёра і не выходзіць з кабіны. Сам ён з узброеным вахманам пайшоў у сярэдзіну ўстановы. На вуліцы, па якой нам ехаць, хадзілі, абвешаныя гранатамі, эсэсаўскія патрулі, а з імі — крыху аперэтачная з выгляду яўрэйская паліцыя. У адчыненых вокнах камяніц відаць было сям-там, як моляцца, рытмічна калышучыся, старыя яўрэі, а жанчыны рвуць на сабе валасы, з няўцешным плачам кленучы тое неба. Залішне моцны лямант абрываўся стрэламі з вуліцы ў вокны. Было штосьці апакаліптычнае, нерэальнае ў выглядзе і ў атмасферы гэтага гарадка, аддзеленага ад усяго свету.

Шафёр сказаў мне занудожаным, пазяхлівым голасам, у якім, як мне здалося, была і нотка спачування:

— Тут можа апрыкрыць і семітызм і... антысемітызм.

У адказ на гэтыя словы я непрыкметна высунуў праз акно руку і выкінуў на вуліцу, пад ногі маленькіх жабракоў, тое, што ўзяў з сабою. Шафёр рабіў выгляд, што ён не ба-

чыць. Яўрэйскі паліцай, які стаяў перад будынкам, павярнуўся да нас спіной, а праз момант пачаў залішне злосна разганяць малечу.

Неўзабаве мы вярталіся адтуль, везучы дваццаць яўрэяў. Маладыя хлопцы маўчалі, нібы галернікі, напоўненыя роспаччу і пратэстам. Спадылба пазглядалі яны на «свабодную» Варшаву. Мы прыехалі на наш двор. Вясёлы фельдфебель свіснуў у пальцы і гукнуў на яўрэяў:

— Злазіць! Я вас тут зараз навучу скакаць казачка!

Складзік прыладдзя стаяў каля самага плота, у якім была сабачая брамка — праход на суседні склад чэсанага камення. Мы раздалі яўрэям вілы, якімі яны пачалі грузіць вугаль у кузавы грузавікоў. Адзін вахман стаяў на двары, а астатнія сядзелі ў канторы і смакавалі самагон, якім іх частаваў Войтак.

Калі яўрэі, нагрузіўшы машыну, здавалі мне вілы, апошняга, што ішоў у складзік, я прытрымаў за рукаў. Даў яму стары брызентавы плашч, сунуў у кішэнь папярэдне падрыхтаваную запіску і паказаў на прыадчыненую брамку.

Тым часам Войтак дэманстраваў немцам, як здорава выдрэсіраваны наш Жаўток.

Калі яўрэй пралез у брамку, я засланіў яе фанерынай і спакойна пайшоў да вясёлых немцаў. Яны ўжо збіраліся ад'язджаць.

— Усё ў парадку? — спытаўся фельдфебель.

— Усё ў парадку,— адказаў пан Францішак, падаючы адзначаныя квітанцыі.

— Яўрэяў мы бяром яшчэ разгружаць. Палічы іх, Курт.

Па спіне маёй пабеглі мурашкі. Курт палічыў і зачырванеўся.

— Аднаго не хапае, гер фельдфебель.

— А гэта яшчэ што! — гыркнуў той, зірнуўшы на мяне.— Абшукаць усе буды і будкі! Калі не знойдзецца — будзе канец і гэтым!..

— Пане фельдфебель,— сказаў я спакойна,— мне здаецца, што ўсё тут у парадку. Я выдаў дзевятнаццаць вілаў і столькі ж мне аддалі назад. Яўрэяў таксама дзевятнаццаць. Усё сыходзіцца.

— Я браў дваццаць, дваццаць павінна і быць.

— Калі каторы застаўся, дык толькі ў гета. Я бачыў, як адзін з тых, што выходзілі з «юдэнамту», адступіўся назад.

— Ён, відаць, мае рацыю,— сказаў шафёр, кіўнуўшы на мяне галавой.— Там нейкі адзін і сапраўды адступіўся. Я падумаў, што гэта хто-небудзь з «амту»,— дадаў ён, расціскаючы ботам недакурак.

— Чорт іх бяры! Адным больш, адным менш. І так ужо ім не доўга... Курт, калі павязеш іх у гета, там справу і высніш.

Вадзіцелі ўключылі маторы.

— Пане старшы,— перад самым ад'ездам сказаў вясёлы фельдфебель пану Францішаку.— Вы маглі б даць мне мяшэчак драўлянага вугалю?

— Калі вы мне загадаеце, ахвотна насыплю і цэлы мех. Ваш загад здыме мой грэх,— адказаў, смеючыся, пан Францішак.

Немцы, яўрэі і вугаль зніклі за брамай.

А перад адным з пакутнікаў адчынілася брамка ў свет. У кішэні брызентавага плашча было патрэбнае паведамленне і адрас майго знаёмага з прыпіскай: «Адрас запамятаць, запіску адразу ж знішчыць».

Прайшло некалькі дзён, і ў нас была новая неспадзяванка.

Вечарэла. Змрок і вільготная густая імгла

віселі над складам і горадам. Адтуль, дзе праходзілі рэйкі чыгуначнай веткі, чуўся прарэзлівы паравозны гудок. Пан Францішак хацеў трохі раней вырвацца дахаты, у свой далёкі раён. Ён якраз старанна хаваў у стары партфель трохі дробнага вугалю, калі ад брамы пачуўся брэх Жаўтка.

— Відаць, Грабоўскі на начную змену,— сказаў я, цяжка ўстаючы з лавы.— Гадзіннік у яго спяшаецца, ці што?

Ды па паводзінах Жаўтка было відаць, што гэта не Грабоўскі. Я зачыніў сабаку ў канторы і пайшоў да брамы.

Увайшла жанчына, з выгляду звычайная хатняя работніца. Яна вяла за руку хлапчука з забінтаваным тварам.

— Прашу прабачэння, ці вы — пан Мацей?

— Так, гэта я.

— Ваш калега прасіў перадаць, што пасылка дайшла.

— Якая пасылка?

— У брызентавым плашчы. Дайшла. Ён пытаецца, ці можна пакінуць тут гэтага хлопчыка?

— Можна. Скажыце яму, калі ласка, што раней, чым прыехаць па яго, няхай пазваніць мне або Войтаку, бо я не ведаю, ці буду на начной ці на дзённай змене. А вы ідзіце ўжо. Да пабачэння.

У маёй руцэ дрыжала маленькая ручка сямігадовага дзіцяці.

— Не бойся,— сказаў я.— Цяпер ты пасядзіш гадзінку ў склепе, а потым разам пасядзім у канторы.

— Я не баюся.

Пан Францішак пагладзіў хлопчыка па галаве і даў яму чатыры драбочкі цукру. Я даў малому тры старыя мяхі і коўдру, прыпадняў накрыўку ямы пад вагой і сказаў:

— Спусціся асцярожна туды, ляж на мяхах і чакай. Табе няможна кашляць і чыхаць, зразумееў? Калі там будзе што-небудзь шалпатацца, дык не бойся, гэта толькі пацукі.

— А ваш сабака мяне не ўкусіць?

— Не. Ён усё разумее, як і мы з табой. Ну, лезь туды і не бойся. Мы будзем тут, наверсе.

Я апусціў накрыўку.

— Дык што, застаецеся і на ноч? — спытаўся пан Францішак.— А што будзе з Грабоўскім?

— Усё будзе ў парадку. Усяго вам добрага, пане Францішак.

— Я гэты хлеб можа пакіну тут... Згатуйце малому гарачага чаю. Да пабачэння!

У браме ён абмінуўся з Грабоўскім. Грабоўскі — малады, ураўнаважаны хлопец, ва ўсіх справах варты поўнага даверу. Аднак мы не хацелі ўцягваць яго ў небяспечныя справы.

— Пане Тадэвуш, вы свабодны на дзве ночы, мы застаёмся тут з Войтакам сёння і заўтра.

— А што гэта з вамі, хочаце зрабіць без мяне штосьці незвычайнае?

— Не, Войтак канчае сваю драму, і ў мяне сабралася трохі пісаніны.

— Што ж, выдатна, махану я сабе ў Карчэва. Трэба ж і зарабіць. Добрай ночы!

— Добрай ночы.

Жаўтка я прывязаў каля брамы, каб ён раней паведамляў нам пра небяспеку. Войтак пільна, як ніколі раней, кружыў па тэрыторыі склада. Я выклікаў яўрэйчыка ў цёплую кантору, накрыўку пакінуўшы адчыненай.

— Здымі гэты бінт і выпі гарачага чаю.

Хлеб ён глытаў не жуючы, а вусны апякаў чаем. Падобны быў на адзічэлае цыганя. Вочы чорныя, з вільготным бляскам.

— Як жа цябе завуць?

— Сам Барэнштайн,— адказаў ён, душачыся хлебам.

— А што гэта за імя — Сам?

— Калі вырасту, дык буду Самуіл.

— А ёсць у цябе там, у гета, бацькі, браты, сястрычкі?

— Не, цяпер я зусім адзін. Мама выскачыла з чацвёртага паверха праз акно. Тата памёр ад голаду і нейкай хваробы... Я пацукоў не баюся. Вы калі-небудзь елі пацукоў?

— Не.

— Мой тата працаваў у «Орбісе» [1], з замежнымі гасцямі. Ён прыносіў мне такія прыгожыя скрыначкі з наклейкамі. Вы ведаеце, што гэта — «Орбіс»?

— Ведаю.

Раптам пачулася Жаўткова якатанне. Хлопчык усхапіўся і сам шугануў па драбінах уніз. Я апусціў накрыўку. Мы сышліся з Войтакам каля брамы. Жаўток матлашыў хвастом.

— Хто гэта там ноч-апоўнач?

— Шэф, гэта я, па асабістай справе. Будзьце спакойны. Можна ў вас хвілінку пагрэцца?

— Хвілінку можна, толькі не даўжэй. Заходзь! — сказаў я, прыадчыніўшы брамку.

«Мусаліні» сеў на лаве, наблізіў да печкі вялізныя, як лапаты, далоні. Чорныя ад вугалю, што паўрастаў у цела, далоні яго не ружавелі ад агню. Праз платы сіганулі яшчэ тры «мусалінаўцы». Войтак хвіліну нейкую агрызаўся з імі, а потым усе яны зайшлі ў кантору.

— Пане шэф, мы на чарачку. Можа, ёсць у вас трохі самагону?

— Ані кропелькі.

— Уладак, бягом да Грдыля і прынясі бутэльчыну,— сказаў «Мусаліні».

---

[1] «Орбіс» адпавядае нашаму «Інтурысту».

Грдыль — гэта перакрыўленае прозвішча крамніка з вуліцы Груецкай, аднаго з пастаянных пакупцоў крадзенага вугалю.

— «Мусаліні», каменданцкая гадзіна, не рызыкуйце.

— Шэф,— сказаў гэты волат з шырокімі сківіцамі,— каменданцкая гадзіна не для нас. Уладак, бягом!

Уладак пабег, і неўзабаве яго чорны сілуэт мільгануўся над плотам. Калі ён праз нейкую чвэртку гадзіны вярнуўся ў кантору, пачуўся моцны смурод газы.

— Не падыходзь да печкі, бо загарышся,— сказаў я.— Дзе ты так вымазаўся газай?

Уладак з прыдуркаватым здзіўленнем абнюхаў адну і другую руку, адаткнуў бутэльку і захіхікаў.

— Грдыль, трасца яго галаве, не запальваў святла, бо светамаскіроўка, папацёмку мацаў бутэлькі пад буфетам і памыліўся, даў мне газы.

«Мусаліні» паволі і цяжка ўздымаўся над лавай.

— Эй! — сказаў я.— Калі біцца, дык не ў мяне. Давайце за плот і адразу ж!

«Мусаліні» асеў на лаву.

— Налівайце,— сказаў ён.

Уладак зняў з паліцы некалькі кубачкаў і пачаў наліваць у іх газу. Войтак і я адмовіліся ад пачастунку. Зладзеі чокнуліся і кульнулі. Ніводзін нават не маргнуў. Газа смярдзела страшэнна.

— Ну, «Мусаліні», а цяпер ідзіце, бо спаліце нашу кантору. Праз паўгадзіны можаце «на закуску» хапянуць мяхоў колькі вугалю, пры ўмове, што ўсё будзе зроблена гладка. А ў нас тут сёння свае справы. Бывайце!

Калі яны зніклі ў цемры, я прыпадняў накрыўку, і Сам вылез.

— Гэта не немцы былі? — спытаўся ён, калоцячыся як у ліхаманцы.
— Не. Гэта былі нашы сябры. Ты не хвалюйся.
— А чаму тут газай так смярдзіць?
Я вынес кубачкі на двор і насыпаў у іх пяску.
— Тут у вас цёпла. І гэта ўсё ваш вугаль? У вас ёсць тата і мама?
— Ёсць.
— А брат і сястра?
— Ты як ведаў. Толькі што сястра сядзіць у турме Павяк.
— Гэта блізка ад нас. Што яна там робіць?
— Яе прысудзілі да пакарання смерцю, але яшчэ не забілі, бо яна доктар, і ёй загадалі лячыць такіх самых вязняў.
— Вы ёй скажыце, што я яе вельмі люблю. Вы ёй скажыце гэта, добра? Калі я выратуюся, дык і яе пан бог выратуе. А гэты сабака ніколі не кусаецца?
У гэты момант зазваніў тэлефон. Хлопчык усхапіўся.
— Сядзь, Сам. Не бойся. Толькі цяпер не аказвайся.
Я зняў трубку.
— Алё! Грабоўскі слухае! — далажыў я.
У трубцы хтосьці рагатнуў, а потым пачуўся голас суседа:
— Пане Мацей, я пазнаю па голасе. Я хацеў па сакрэту сказаць вам, што цераз мой плот да вас перайшлі два «мусалінаўцы». Гэта я вам па-суседску. Толькі ўжо не кажыце нічога, бо спаляць. Добрай ночы!
— Дзякую, суседзе. Добрай ночы!
Я павесіў трубку.
— Сядзь, Сам. Не бойся. У цябе ёсць брат?
— Не. Адна сястрычка. Была. Цяпер ужо няма.

Пачыналася імглістая раніца, калі я закрыў за Самам накрыўку. Неўзабаве прыйшоў на дзённую змену пан Францішак.

— Ну як?

— Усё ў парадку. Малы там, пад вагою.

— Я прынёс вопратку для яго. Ад маіх суседзяў. У іх якраз такі самы хлопчык. Прынёс я таксама машынку і нажніцы. Калі ўдасца, дык мы яго пастрыжом.

Не ўдалося. Гадзін каля чатырох на склад уехала сялянская фурманка з маладым, аброслым возчыкам.

— Тавар ёсць?

— Які тавар? Распараджэнне ёсць? А дзе канвойны паліцыянт?

— Чакае на Груецкай, каб прылавіць мяне.

— А які ж тавар вам патрэбен?

— Вугаль. Трошкі каменнага, трошкі драўлянага і, можа, чаго-небудзь яшчэ ў мяшок.

Я кінуў Саму вопратку.

— Пераапраніся і вылазь.

Праз момант Сам вылез у новай вопратцы.

— Трэба спяшацца, хлопча. Нічога не бойся, усё будзе добра. Будзь здароў!

Сам плакаў.

— Можна мне вас пацалаваць?

Я схіліўся над ім. Малы пакінуў на маёй шчацэ свае цёплыя слёзы. У пана Францішака ён пацалаваў руку, Войтака абняў за шыю, а Жаўтка пагладзіў, і рука яго дрыжала.

— Ну, а цяпер лезь у мех!

Пан Францішак паспеў яшчэ палажыць яму ў кішэню трохі цукру.

— Скажыце сваёй сястрычцы, што я яе вельмі...

— Добра, Сам, я скажу.

Малады возчык узяў мех на плечы, вынес на двор, асцярожна палажыў у перадок, накрыў брызентам і прысыпаў драўляным ву-

галем. Рэшту воза запоўнілі коксам. Калі фурманка рушыла, пан Францішак перахрысціў яе наўздагон і доўга выціраў акуляры хусцячкай.

Войтак выбег на Груецкую. Як толькі конь выехаў з нашага тупіка на вуліцу, польскі паліцыянт, з раменьчыкам шапкі, службова апушчаным «пад бараду», уладным жэстам затрымаў возчыка, а потым, трымаючыся за край воза, пайшоў з ім побач. Войтак доўга глядзеў, пакуль падвода не знікла ў перспектыве вуліцы.

Праз некалькі дзён, напоўненых неспакойным чаканнем, у канторы зазваніў тэлефон.

— Тавар атрыманы,— пачуўся ў трубцы голас майго знаёмага.— Ці можна сёння прыслаць што-небудзь новенькае?

— Можна, але пад вечар, як і тады.

— Штосьці там робіцца, бо тавару з кожным днём больш. Складаў у нас не хапае. Усё завалена.

На познім змярканні прыйшла тая самая жанчына з хлопчыкам, у якога таксама балелі зубы...

— Да пабачэння,— сказала яна, адыходзячы.

— Да пабачэння. Толькі не так ужо хутка,— усміхнуўся я.

Пазней, калі я выйшаў за браму, каб купіць у краме булку для схаванага пад нашай накрыўкай яўрэйчыка, ад плота адарваўся «Мусаліні», заступіўшы мне дарогу.

— Шэф, вы гэта на прыманку надоечы выпусцілі воз у горад?

— А што?

— Мы хацелі таго паліцыянта, што запыніў падводу, трохі прыбраць з дарогі, але там стаяў недалёка пан Войтак, дык мы падумалі...

— Усё ў парадку, «Мусаліні».

— Шэф, сёння падкінуць два вагоны дошак. Можна будзе скінуць некалькі кавалкаў на тычкі для памідораў? Можа, і вам трэба?

— Добра, «Мусаліні». Ноччу вазьміце трохі, толькі каб ніхто з вас не заходзіў у кантору. І яшчэ адна ўмова: добра пільнуйце склад ад вуліцы. Разумееш?

— Разумею, шэф. У вас, відаць, ёсць штосьці пачытаць?

Новы яўрэйскі хлопчык у адрозненне ад першага быў рабаціністы і рыжы, як вавёрка. Пан Францішак паспеў перад адыходам дахаты пастрыгчы яго. Валасы палыхнулі ў печцы, як феерверк.

— Заўтра я прыйду раней. Можа, яшчэ які касцюмчык прынясу.

Ён палажыў на пісьмовым стале некалькі драбкоў цукру і пайшоў.

Апоўначы, калі я гутарыў у канторы з малым Давідзікам, да шыбы акна раптам прыклеіўся знадворку нейкі страшны твар. У малой шыбіне, на якой калывалася святло з нашай печкі, твар гэты быў падобны да партрэта званара з Нотр-Дам. Спачатку я страшэнна спалохаўся, а потым успомніў, што Жаўток жа нават не цяўкнуў і што на двары дзяжурыць Войтак. Ды гэта не быў прывід: жахлівы твар яшчэ ўсё тырчаў за акном. Ногі мае не служылі, калі я выходзіў на двор.

Перад канторай стаяў разгублены «Мусаліні». Узлаваны, я выціснуў праз зубы:

— Ты ж абяцаў, што не прыйдзеш!

— Я абяцаў, шэф, што ў кантору не прыйду. Ну, і не прыйшоў. Вы не бойцеся, сабакам я ніколі не быў. Слова злодзея.

— І што — цяпер ты, «Мусаліні», будзеш

беспакарана цягнуць усё са склада, праўда?

— Адно другога, шэф, не датычыцца. Можаце мяне затаўчы на сваім двары і кожнага з маіх людзей. Такі закон. Аднак, можа, гэтаму хлопчыку будзе больш бяспечна ў нашай схованцы?

— Не. Ён заўтра паедзе.

— Не кідайце вы яго ў склеп, няхай хоць выгрэецца каля печы. Гэтай ноччу ніхто жывы на ваш двор не зойдзе. Гэта ўжо наш клопат. Дошкі мы скінем заўтра. Добрай ночы!

Войтак свіснуў і навязаў Жаўтка каля брамы. Давідзік, атулены коўдрай, спакойна спаў на шырокай лаве канторы. Не разбудзіў яго нават прарэзлівы гудок паравоза...

Уранні, толькі што пан Францішак прыйшоў з туга набітым партфелем, нехта ад вуліцы тузануў за званок, і пачулася якатанне Жаўтка.

— Навязаць сабаку! Адчыніць! — пачуўся знаёмы крык, ад якога мае валасы сталі пад шапкай дыбам.

Войтак свіснуў і навязаў Жаўтка каля дзвярэй канторы. У горле сабакі ажно кіпела, як у гаршку. Войтак цішком пацвельваў Жаўтка, а той раз'юшана пабліскваў клыкамі.

Як толькі я адсунуў засаўку, «Паненка» кашкануў нагою фортку і памалу, важна ўвайшоў на наш двор. За ім хацеў увайсці адшчапенец «Пацук», былы член «Буславай» банды, што працаваў цяпер на сваю руку. Аднак я зачыніў фортку.

— Пусці яго,— гыркнуў «Паненка» і свіснуў перад носам у мяне нагайкай.

«Паненка», малады ўкраінец у эсэсаўскай форме, з прыгожым дзявочым тварам, быў гразою ўсяго прывакзальнага раёна. Садыст,

якому часта трэба было пацяшацца крывёю з-пад бізуна, нагадваў мне Зыгмунта з Нібелунгаў, які купаўся ў крыві дракона, каб быць бессмяротным. Ужо неаднойчы яго падпільноўвалі, аднак пакуль што няўдала.

— Дай яму мех вугалю,— гыркнуў ён мне.

— Вы ж добра ведаеце,— апраўдваўся я, збялеўшы,— што гэта вайсковы вугаль і я павінен яго вартаваць як найлепш. Я выдам хоць вагон, але мне трэба распараджэнне. Вы ж мяне разумееце. Я па закону.

«Паненка» стаяў разгірачаны, ляскаў сябе па халяве нагайкай і, здавалася, з асалодай слухаў мае тлумачэнні. Пазіраў праз прыплюшчаныя вочы і ўсміхаўся.

— Можна мне пазваніць на цэнтральны склад і спытацца пра дазвол?

— Не! — гыркнуў ён.— Ты мне вугаль пазычыш. Праз паўгадзіны я табе яго вярну.

І зноў свіснуў нагайкай перад маімі вачыма. Я не быў яшчэ ўпэўнены, што гэта — спроба праверыць маю сумленнасць ці нейкая правакацыя. Я прынёс з канторы мех і падаў яго «Пацуку». Той шустра нагроб вугалю ў мех, завязаў і ўзяў на плечы. Над плотам паказаўся твар «Мусаліні» з пытаннем у вачах. Я махнуў рукою — галава яго знікла. Калі я адчыніў гасцям браму, дык убачыў, што на вуліцы іх чакае рамізнік.

Войтак адразу ж спусціў Жаўтка, які рынуўся да брамы. Мы ўздыхнулі з палёгкай. Пакуль што. «Паненка» абяцаў вярнуцца...

З'яўленне «Паненкі» на гарызонце заўсёды ўспрымалася як дрэнны знак. Мы думалі пра тое, што рабіць з Давідзікам. У нашым распараджэнні было паўгадзіны часу,— вельмі мала на нейкае разумнае рашэнне.

Нас мучылі дрэнныя прадчуванні. З «Паненкай» не пажартуеш. Нарэшце мы вырашылі паспадзявацца на Жаўтка. Прывязалі яго да дзвярэй канторы. «Паненка» застрэліў ужо нямала сабак. А навязаных не чапаў. Абмінаў іх на даўжыню ланцуга. Мы яшчэ раз папярэдзілі Давідзіка, каб не кашляў, а на накрыўку палажылі кавалак бруднага кардону. Праз нейкія паўгадзіны Жаўток, нацягнуўшы ланцуг, абурана забурчаў. Потым пачуўся званок і грукат у браму. Гэта былі «Паненка» і «Пацук». Калі прыгорблены пад цяжарам «Пацук» скінуў мех на гурбу вугалю і выпрастаўся — я, убачыўшы яго твар, ледзь не самлеў. Гэта была знявечаная, крывая маска, на якой немагчыма было распазнаць чалавечыя рысы. Губы — крывавае ашмоцце, зламаны нос, адно вока ў чорна-фіялетавым крузе, а на шчоках фіялетавыя пісягі. Аднак другое вока выразна ўсміхалася, і не балючая грымаса, а радасны смех адкрываў яго жоўтыя паламаныя зубы. На мяху, што ляжаў перад ім, былі вялікія плямы крыві.

— Ну, што, законнік? — гыркнуў «Паненка» і скінуў нагайкай маю шапку.

Акуляры разбіліся аб вугаль. Ён з хрустам раздушыў іх ботам.

— Колькі часу прайшло, пакуль я вярнуўся? — спытаў тонам злоснага экзаменатара.

— Паўгадзіны, не больш,— адказаў я, моргаючы вачыма.

— Не больш... Не больш...— крывіў ён, цікаючы на мяне праз вейкі.— Да мяне трэба звяртацца гер лейтнант, ты зразумеў? — і падсунуў нагайку пад самы мой нос.

— Так точна, гер лёйтнант.

— Мех той самы?

— Той самы, гер лёйтнант.

— Вугаль той самы?

— Той самы.

— Пазычанае я вярнуў? Усё ў парадку? — спытаўся ён праз зубы.

— Так точна, гер лёйтнант.

«Паненка» перавёў вочы на Жаўтка, што рваўся з ланцуга. Рука палезла да кабуры...

— Гэты сабака выдрэсіраваны ў жандармерыі, гер лёйтнант,— зманіў я.

«Паненка» прыняў руку ад пісталета і паволі пайшоў да брамы. За ім паваloкся «Пацук» з дурной таямнічай усмешкай.

«Давідзік выратаваны»,— падумаў я, уздыхнуўшы з палёгкай.

Загадкавую гісторыю з «Паненкай» мне растлумачыў «Мусаліні». Гэта была правакацыя і шантаж у выдатнай пастаноўцы. Як аказалася, «Пацук» паехаў з мехам на рамізніку да пастаяннага пакупніка крадзенага вугалю, уласніка багатай бакалейнай крамы. У той момант, калі пакупнік расплачваўся з «Пацуком», у магазін увайшоў «Паненка». Каб усё было па закону і каб нагнаць на перапалоханага купца яшчэ большага страху, «Паненка» тут жа пачаў лупіць нагайкай «раскрадальніка нямецкай маёмасці». Акрываўлены «Пацук» пацвердзіў, што крамнік плаціў яму за крадзены тавар. «Паненка», паведаміўшы купцу, што яму пагражае пакаранне смерцю, загадаў рыхтавацца з усёй сям'ёй у гестапа. Роспач, слёзы, упрошванне, а нарэшце мільённы выкуп, свіст нагайкі і папярэджанне: няхай толькі будзе здраджана гэтая таямніца... На гэтым уся трагедыя закончылася. «Пацук» зарабіў каралеўскую выпіўку.

Ноч была спакойная, як ніколі раней.

— А як ты выбраўся з гета, Давідзік?

— Калі я вылазіў праз дзірку ў муры, дык недалёка стаяў латыш, але ён быў добры і загадаў мне ўцякаць. А можа, гэта быў і не латыш, бо ён сказаў мне па-нашаму: «Бяжы, малы, направа, скінь свой балахон». А потым я быў на Пляцы Жалезнай Брамы і сядзеў у будцы. Раненька хтосьці запрасіў мяне ў нейкую кватэру. Там мне далі многа есці. А потым прыйшла тая пані, што прывяла мяне сюды. Чаго гэта сабака так брахаў?

— Ён пільнаваў цябе.

— А як вы называецеся?

— Вацлаў. Прыгожае імя, праўда?

— А чаму на вас кажуць Мацей?

— Гэта яны пакеплівають з мяне.

— Ой, мусіць, не. А прозвішча як?

— Сёння, Давідзік, прозвішча лепш не мець.

— А вы не бойцеся, я нікому не скажу.

— Магчыма, Давідзік, што сёння хто-небудзь па цябе прыедзе.

— А я лепш застаўся б тут.

— Гэта немагчыма.

— Дык я сюды калі-небудзь прыйду. Або як немцаў не будзе, дык я прыйду сюды назаўсёды. Добра?

Малы, відаць, нарадзіўся пад шчаслівай зоркай. Па яго прыехала не сялянская фурманка, а нейкая брычка на гумавых колах. Ён лёг на дне брычкі, мы накрылі яго мяшком, а зверху навалілі цэлую гурбу выпэцканых фарбай вёдраў, малярскіх пэндзляў, трафарэтаў і кароткія драбіны.

— Да пабачэння, Давідзік!

— Да пабачэння. Я сюды калі-небудзь абавязкова вярнуся!

Брычка, пабразгваючы бляшаным начыннем, знікла за брамай.

На вячэрнім небе паказалася першая зорка. Можа, зорка Давіда?



## МАРСЕЛЬЕЗА

Гэтых боепрыпасаў ніколі не выстраляеш да канца. Я гавару пра вопыт перажытага. Цярновымі калючкамі будзе ён, балюча і соладка, заставацца ў кожным з тых, што жывымі выйшлі з агню варшаўскага паўстання. Не дастанеш такую калючку, не выкажаш усяго да канца. Для гэтага трэба было б стварыць іншую мову, новую фантазію і новую гаму пачуццяў, каб тое, што ўжо расказана, і тое, што яшчэ будзе ўвасоблена ў слове, стала зразумелым, адчутым, убачаным іншымі.

Жыццё чалавека ідзе ў рытме ўдараў чалавечага сэрца. А сэрца тое часамі пачынае спяшацца, б'ецца мацней — у рэдкія моманты тых

эмоцый, на якіх чалавек спатыкаецца, як на мінах. Ніводзін сейсмограф не вытрымае, не зарэгіструе таго выбуху, што трываў на працягу такіх кароткіх і такіх доўгіх двух месяцаў. Як быццам жыццю чалавека прыйшлося раптам страшэнна кудысьці спяшацца. Здарэнні, перажыванні так пагусцелі, так узняліся, сталі такімі інтэнсіўнымі, пабеглі ў такім галавакружным тэмпе, што і сапраўды «не са мной трэба быць, але ўва мне», каб засвоіць той фільм, хоць бы як знак, як сімвал, як мы чытаем летапіс народа ў дзяржаўным гербе, у колеры нацыянальнага сцяга, у мелодыі гімна.

І так яно ўжо ёсць, што праўду тых дзён найцяжэй прачытаць па картах, лічбах і стараннных запісах гісторыка, а найлягчэй — па простай салдацкай песні. Гэта, відаць, звычайны фенамен, што нас больш захапляе выгляд віруса пад мікраскопам, чым неабдымнае неба, што сэрца больш кранае сага пра трагічны лёс аднаго чалавека, чым песня песняў пра лёс вялікіх грамадстваў, што больш узрушае спакутаваны твар нечай маці ў паласатай канцлагернай вопратцы, чым цэлыя горы акуляраў, абутку або валасоў з асвенцімскага музея. Ёсць непераможныя бар'еры ўяўлення, дадзеныя кожнаму з людзей, кожнаму па меры яго асабістага вопыту, на глыбіню яго сэрца...

...За плячыма ў мяне сутарэнні гестапа, турма Павяк, уцёкі з кальца гітлераўскай аблавы і з некалькіх меншых вулічных аблаў, потым пекла варшаўскага паўстання, у крыві і ў полымі якога загінула сто пяцьдзесят тысяч чалавечых жыццяў, а затым мяне вялі на расстрэл, я быў засыпаны ў руінах... І пасля гэтага ўсяго я адчуваю сябе шмат разоў народжаным на свет, вернутым жыццю дзякуючы многім шчаслівым выпадкам. Уцалеўшы, я вынес з тых дзён жыццяпіс, узбагачаны

ўсім, што было спачатку вопытам некалькіх чалавечых жыццяў. Гэта вялікі, хоць і трагічны дар, ахвяраваны нашаму пакаленню, а разам з тым і таямніца, якую немагчыма поўнасцю пераказаць наступным пакаленням.

Падвядзенне вынікаў, аналізы і палітычныя ацэнкі тых дзён не адхіляць, не зменяць праўды мінулай рэчаіснасці. І кожны прысуд, кожная ацэнка нашчадкаў не будуць законнымі. Іх атуліць імгла добрай ці дрэннай легенды.

...Дзень той нельга назваць фатальным, бо і кожны папярэдні і кожны наступны, на працягу двух месяцаў, быў, як гаворыцца, родам з пекла. Кожны з тых дзён быў для соцень ці тысяч днём фатальным, таму што апошнім. Кожны з тых дзён быў вялікі і цяжкі, набіты і згушчаны незвычайнымі здарэннямі, дзе толькі вузкая мяжа аддзяляла жыццё ад смерці, надзею ад роспачы, адвагу ад страху, геройства ад баязлівасці, святасць ад граху...

Стужка жыцця праз дваццаць, трыццаць год круцілася ў тэмпе нармальным, а нарэшце яе пусцілі шалёна хутка. З кожным новым днём усё вузейшым рабіўся шырокі круг знаёмых, сяброў, родных — з-пад тратуарных plітаў, з-пад асфальтавага дзёрну густа раслі магілы і могілкі. У самым сэрцы паўстанцкага энклава, на Пляцы Трох Крыжоў, за некалькі дзён вырас гаёк надмагільных драўляных крыжыкаў... На многіх варшаўскіх дварах узняліся капліцкі, дзе навокал маленькіх постацей божай маці збіраліся чалавечыя маці з палаючымі свечкамі, спяваючы спрадвечную народную малітву: «Ад мору, голаду, агню і вайны ратуй нас, божа!..», спраўляючы паніхіды па сынах, што палі ў няроўным баі. А жывыя сыны тых матак, як саламандры, выкупаныя ў пякельным агні, бегалі, стралялі, гінулі, а гінучы — яшчэ спявалі...

Жыццё ў гэтым вясёлым, паласатым ад барыкад мястэчку плыло на зямлі і пад зямлёй. Побач з надпісамі: «Увага — густы абстрэл!» або «Увага — снайпер!» — стаялі жывыя гномы ў гарцэрскай форме і накіроўвалі тых, што беглі, на трасу сутарэнняў. Падкопы паміж суседнімі дамамі, з аднаго сутарэння ў другое, былі падобныя на катакомбы, асветленыя свечкамі і ліхтарыкамі гарцэрскіх эстафет. Рукі гэтых маленькіх Харонаў, таксама наўпоперак паласатыя белай і чырвонай фарбай, нагадвалі дарожныя знакі на турысцкіх шляхах. Па кішках сутарэнных калідораў прабягалі разносчыкі паўстанцкай прэсы...

...У аддзеле інфармацыі і прапаганды зусім побач з Пляцам Трох Крыжоў я выняў з нашай касеты інфармацыйны матэрыял, патрэбны для апрацоўкі штодзённай праграмы. Камандзір нашага патруля, Войтак Менцаль, дамовіўся са мною сустрэцца ў маленькім паўстанцкім кафэ, што на Пляцы, пры выхадзе на Княжацкую вуліцу. Капрал з вышэйшай асветай, Уладак, амаль двухметровы, шчуплы юнак з прыроджанымі тэхнічнымі здольнасцямі, ад ранку корпаўся ў нашым апараце, лёгка пашкоджаным асколкам...

У маленькім кафэ, як заўсёды, тлумна, весела і рамантычна. Тут сустракаліся па службе і па дружбе паўстанцы з розных падраздзяленняў, сюды забягалі дзяўчаты-сувязныя, што курсіравалі па горадзе, тут спатыкалася мастацкае ды журналісцкае брацтва паўстанцаў. Залішне прыгожы, залішне папулярны і ў залішне ваяўнічым мундзіры тут спяваў цяпер Крукоўскі, развучваў з групай аматараў свежую паўстанцкую песню. Лякайскі, выдатны кідальнік кап'я, абвешаны апаратамі, сёрбаў каву ў мілым таварystве дзвюх паўстанак. Хто не ведаў яго спартыўнай постаці! На вы-

сокіх, бусліных нагах ён пераскакваў, здаецца, цераз вуліцы і дамы, спяшаючыся туды, дзе найгусцей кіпела бітва. Побач — Тадэвуш Ендрыка, які вырваўся сюды на некалькі хвілін ажно з-пад Лярдэллі, дзе ён змагаецца ў групе «Гольскі». Каля яго — пазнейшая славутая каралева каналаў «Наталля»... У густой імгле папяроснага дыму нейкія дзве «дэлегацыі» таргуюцца, мяняючы амуніцыю на зброю... А вось і Войтак. Ён гутарыць з санітаркай Янінай, ад імя якой узяў сабе псеўданім «Яновіч».

— Дай мне тваю інфармацыйную сечку. Можа, што-небудзь з яе і зляплю. А ты бяры пропуск на другі бок Алеяў Ерусалімскіх і ляці на Відак. У штабе «Кіліншчыкаў» ёсць пласцінка з «Марсельезай». Відаць, ты ведаеш ужо, што вызвалены Парыж? Мы павінны падрыхтаваць адпаведную праграму.

— Дзе мы сустрэнемся і калі?

— Не спяшайся. Забяжыш яшчэ на Маршалкоўскую, там, ведаеш дзе, на трэцім паверсе знойдзеш паручніка «Кубу».

— Я яго не ведаю.

— Пазнаеш па двух вялікіх акумулятарах. Прывалачэш іх разам з «Марсельезай» на Макатоўскую. Я там буду каля дванаццатай.

— Ёсць.

Дзень пачынаўся радасна: сонечна сёння, Парыж вызвалены, свежыя акумулятары, сустрэча з Ендрыкам...

Цераз Алеі Ерусалімскія, паміж Маршалкоўскай і Новым Светам — мелкая траншэя, аслоненая мяхамі пяску. У пад'ездзе натоўп. Паўстанцкія жандары стрымалі рух цераз Алеі. Нямецкія снарады, што падаюць бесперапынна, разбурылі тыя мяхі, і пясок засыпаў і так мелкую траншэю. Толькі што падбілі трох, што перапаўзалі на той бок. Прыйшлі сапёры. Вяроўкамі, перакінутымі цераз вуліцу, цягнуць

новыя мяхі з пяском, каб асланіць траншэю. Некалькі смялейшых сапёрнымі лапаткамі выкідаюць з траншэі зямлю, што абсунулася туды. Нарэшце пачалі пускаць па адным, старанна правяраючы пропуск. Я шчасліва перабраўся цераз вуліцу. Не без цяжкасці трапіў у патрэбны дом. Нейкі нярослы жыўчык з адстрэленымі пальцамі знайшоў у кучах барахла надломаную пласцінку з «Марсельезай».

— Шукайце, калега, наш нацыянальны гімн. Хутка яго будзем іграць ды спяваць!

Калі я вяртаўся назад, Алеі ўжо не абстрэльваліся. Я ўдала пераправіўся на свой бок. На Воўчай убачыў невялікі атрад маладзенькіх гарцэраў, што па чатыры ў рад маршыравалі вуліцай. І раптам — карцеч, нібы гэта садзіцца чародка шпакоў. Выбухі на вышыні бёдраў. У самы апошні момант я ўскочыў у пад'езд, каля якога ляжаў вялізны снарад, што не разарваўся. (Смерць заўсёды там, дзе нас няма.) Гарцэрскі атрадзік, быццам яго змахнулі касой, зваліўся на асфальт. Аднекуль як з-пад зямлі з'явіліся санітаркі. Задыханая сувязная пабегла на Макатоўскую, у шпіталь, па лекараў.

Нясём у нейкае памяшканне бездапаможна абвіслыя целы хлопчыкаў. Па іхніх голых каленях і лытках цячэ светленькая, нібы вадой разведзеная, кроў. Плачуць, енчаць, а то змаўкаюць, канаючы на руках. Неразумны камандзір «парада», відаць, шаснаццацігадовы хлапчук, ляжыць, парваны на кавалкі.

Усё гэта адняло ў мяне шмат часу. Нехта паліў мне на клейкія рукі. Я падняў з зямлі «Марсельезу» і пабег у бок Маршалкоўскай. Здалёк заўважыў — ідзе Войтак.

— Ты бачыў гэтае забіванне дзяцей? — спытаўся я.

— Не бачыў. Але не гавары пра тое цяпер.

Мы не прайшлі і ста метраў, калі на дом насупраць упаў цяжкі снарад. Заспяваў востры асколак і ўрэзаўся ў пліту тратуара на нейкі метр перад намі.

— Толькі гэтага не хапала! — усміхнуўся Войтак.— Ніколі я не дараваў бы самому сабе — нябожчыку, калі б за некалькі дзён да перамогі па мне чарахнуў такі вось кавалачак! Найдурнейшая смерць.

— Як у Рэмарка: у апошні дзень — апошняя куля.

— Ну, давай «Марсельезу» і бяжы па акумулятары. У «Кубы» цёмныя валасы, акуляры, ходзіць з кіёчкам. Ён быў паранены ў нагу.

Прабегшы трохі па Маршалкоўскай, я ўзняўся на трэці паверх, бегучы цераз дзве ступенькі. У невялікім пакоі, за доўгімі сталамі, сядзелі групкамі і размаўлялі салдаты. Каля акна — штосьці накшталт імправізаванага буфета. Гэта была нейкая сталовая ці кафэ для паўстанцкай жандармерыі. Паручнік «Куба» сядзеў, успёршыся на кіёк. Побач з яго выцягнутай нагой стаялі два акумулятары.

— Кавы вып'ем?

— Калі дадуць, дык вып'ем.

— Вы з патруля «Яновіча»?

— Але.

— Вось акумулятары для вас,— сказаў ён, паказваючы на крэсла.— Больш не абяцаю.

Я прынёс дзве шклянкі несалоджанай кавы. Акумулятары паставіў побач з сабой, каб часам падарунак не забралі назад.

— Хваліцца-то вы ўмееце. Няма вады, току, яды, зброі, амуніцыі, людзей усё менш ды менш...

— Сітуацыя, здаецца, не найгоршая. Парыж ужо свабодны. Немцы прыкметна слабеюць. Гэтая вестка падзейнічала на іх...

— Ага! — перапыніў мяне «Куба».— Цяжкія набліжаюцца: раз, два, тры, чатыры...

Ён не дакончыў. Страшэнны выбух, трэск разваленых сцен, дым, пыл і цемра...

Я ачомаўся, лежачы ў цемры. Далонню адчуў, што каля пояса штосьці ў мяне клейкае. «Кроў»,— падумаў я. Старанна абмацаўшы самога сябе, пераканаўся, што нідзе не баліць, хоць рукі мае і клеяцца, як тады, калі дапамагаў пераносіць маленькіх параненых гарцэраў. «Што за чорт?» Дым і пыл спакваля апалі, пачало яснець, і тады я ўцяміў, што ляжу ў нішы, на лесвічнай пляцоўцы. Побач, з разбітага акумулятара, выцякае вадкасць, якою я запэцкаў свой кіцель. Так і не зразумеў, як гэта адбылося, што мяне, нібы нейкім подыхам урагана, перанесла з пакоя на лесвічную пляцоўку, і вось я ляжу, жывы і непашкоджаны. Па разбітых, заваленых друзам сходах я спусціўся ніжэй. Далей ужо лесвічнай клеткі не было. У глыбіню аплывалі серпантынам металічныя парэнчы. Я выглянуў праз выбітае акно на двор. Чатыры мужчыны неслі залітага крывёй папулярнага спевака Мечыслава Фога. З-пад руін выцягвалі параненых. З недалёкага шпіталя прыбеглі санітары з насілкамі. Я праверыў трываласць павіслай парэнчы і, нібы па шнуры, спусціўся ўніз. Азіраўся — дзе ж «Куба», але і следу яго не было. (Пазней мы спаткаліся ў лагеры ваеннапалонных.) На другім баку вуліцы стаяў дамок, у якім была паўстанцкая друкарня,— яго ўжо напалавіну няма. На латах даху ляжыць і ў любы момант можа выбухнуць снарад, які не разарваўся. Вось вядуць групку аблезлых, аброслых палонных немцаў,— каб абясшкодзілі гэты снарад. У канцы вуліцы Скарупкі, побач з абернутай дошкай з надпісам: «Увага — густа страляюць!» — каля дваццаці трупаў, як быццам вы-

качаных у муцэ. З недалёкага пад'езда вы-пырхнулі, як чародка галубоў, стройныя, вясёлыя юнакі ў спартыўных, аднолькавых клятчастых кашулях. Рукавы закасаны да локцяў, аўтаматы, каскі з бела-чырвонымі стужкамі. Смеючыся, перабеглі Маршалкоўскую. Толькі адзін спатыкнуўся і лёг — ад кулі...

На Макатоўскай мяне ўжо чакаў Войтак.

— А дзе акумулятары?

— Выцеклі.

— «Куба» быў?

— Быў. Ды ўжо няма. І, відаць, не будзе.

— Што ж, неўзабаве закрыем нашу пераносную крамку. Важней за ўсё тое, што току хопіць яшчэ на перадачу з «Марсельезай». Магчыма, гэта будзе наша апошняя праграма.

— Дык і трэба зрабіць яе на ўсе сто. Дазволіш мне прыняць удзел?

— Калі напішаш выдатны тэкст, дык сам яго і перадасі. Ёсць ужо добрыя ад «Карча» і ад Убыша. А пласцінку ты не згубіў?

— Не. Але ж яна трэснутая. Будзе мямліць, як праз зубы. Ды гэта ўразіць яшчэ больш — як разбітая каска. Як думаеш?

— Магчыма. Хацелася б яшчэ што-небудзь знайсці ў Галчыньскага. Ну, сядай ды пішы.

Пагрызваючы аловак, ён узняў свае чорныя, іскрыстыя вочы...

Такім і застаўся ў маіх вачах назаўсёды.

Пасля з розных пунктаў Варшавы, якая яшчэ ўсё змагалася, плыла крылатая «Марсельеза», заклікаючы і хвалюючы да слёз. А таксама і словы плылі: «Парыж свабодны. Заўтра будзе свабоднай і Варшава!»

...Войтак не дачакаўся трагічнага канца Варшавы. Перабягаючы Маршалкоўскую, ён упаў ад нямецкай кулі. У Варшаве, што была свабоднай, бо змагалася.

**Кананові́ч М.**

А 34 Імёны любові. Аповесць і апавяданні. Мн., «Маст. літ.», 1976.

200 с. з іл.

Мацей Юзаф Кананові́ч — вядомы польскі паэт і празаік, актыўны перакладчык і папулярызатар беларускай літаратуры ў Польшчы.

У гэтую кнігу ўвайшлі аўтабіяграфічная аповесць «Імёны любові» і тры апавяданні пісьменніка.

К $\frac{70304\text{-}040}{М\ 302(05)\text{-}76}$ 136-76 И(Польск)

На белорусском языке

Матей Юзеф Кононович

ИМЕНА ЛЮБВИ

Рэдактар Г. А. Шаранговіч. Мастак Ул. Ул. Даўгань. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар В. В. Шарамета.

Здадзена ў набор 24/VI 1975 г. Падп. да друку 29/XII 1975 г. Тыраж 6000 экз. Фармат $70 \times 90^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 7,31. Ул.-выд. арк. 8,08. Зак. 2428. Цана 67 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.